ІЛЬЯ РЭПІН: ЗАГАДКА «БЕЛАРУСА»

ШПІЁНСКІЯ ГІСТОРЫІ: ПЯНЬКОЎСКІ

@Пішам добрыя тэксты ад 1906 history.nn.by

# Наша Гісторыя

№ 5(34) — 2021

ЗАХАПЛЯЛЬНЫЯ БІЯГРАФІІ
ЦІКАВЫЯ ЗНАХОДКІ
ВАЖНЫЯ АДКРЫЦЦІ

ISSN 2617-2305



**ЧЫЕ ЖАМЧУЖЫНЫ** РАССЫПАЛІСЯ Ў МАГІЛЁВЕ

**УЛАДЗІМІР ДУБОЎКА** «НІКОЛІ ПРАЎДА НЕ ЎМІРАЕ»

**АЛЯКСАНДР НАДСАН** НЕПАХІСНАЯ АДДАНАСЦЬ

**ІОСІФ БРОДСКІ** ЦУДОЎНА НЯПРАВІЛЬНЫ

## 27 ГАДОЎ У ТУРМЕ, ПЕРШ ЧЫМ СТАЦЬ ПРЭЗІДЭНТАМ

# НЭЛЬСАН МАНДЭЛА

16+

## Ад рэдакцыі

Тысячагоддзямі не існавала іншых формаў грамадскага ўладкавання, акрамя такіх, пры якіх усе правы, багацці і магчымасці належалі вузкім элітарным групам. І гэта ўспрымалася як цалкам нармальны ды натуральны стан, у тым ліку і людзьмі, пазбаўленым тых правоў і магчымасцей.

Апошнія стагоддзі шмат чаго тут змянілі. Чым далей, тым больш чалавецтва прыходзіла да высновы пра патрэбу роўнасці ўсіх грамадзян незалежна ад паходжання, полу, сацыяльнага статусу, мовы, колеру скуры, вызнаванай рэлігіі і г. д. Апошнія 200 гадоў людзі пастаянна чуюць, што недзе іншыя людзі змагаюцца за свабоду. І, як правіла, рана ці позна сваёй мэты дабіваюцца.

Але далёка не заўсёды змены прыносяць народам шчасце. Напрыклад, пасля дэмантажу розных формаў каланіялізму ў многіх краінах напачатку ўсталёўваліся жорсткія аўтарытарныя рэжымы, лідары якіх рабілі дзяржаву сваёй персанальнай уласнасцю, а народ фактычна сваёй працоўнай сілай.

То-бок важныя не толькі і столькі самі змены як факт, але і іх якасць. І тут шмат залежыць не толькі ад палітычнай культуры грамадства, але і асабістых поглядаў, якіх трымаюцца лідары вызваленчых рухаў, і іх здольнасці супрацьстаяць небяспечным спакусам.

Адным з герояў папярэдняга нумара быў індыйскі класік тэорыі негвалтоўнага супраціву Махатма Гандзі. Ён настойваў, што «наша мэта — не выгнаць брытанцаў, а пабудаваць новую Індыю». Яму не патрэбна была краіна, у якой нейкая група індыйцаў проста зойме тое месца, якое раней займалі брытанскія каланізатары, а сутнасна нічога не зменіцца.

Той ідэальнай дзяржавы, за якую змагаўся Гандзі, пабудаваць не ўдалося: многія ягоныя ідэі былі ўтапічныя. Але ўсё ж такі незалежная Індыя — зусім не горшы прыклад посткаланіяльнага развіцця. За амаль 75 гадоў незалежнасці гэтая краіна ні разу не адмовілася ад дэмакратычнага ўладкавання і здолела стварыць сістэму, пры якой больш-менш эфектыўна ўлічваюцца інтарэсы вельмі шматлікіх ды разнастайных этнічных, канфесійных і сацыяльных груп.

У гэтым нумары пойдзе гаворка пра іншы вядомы прыклад падобнага кшталту. У Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы панавала пачварная сістэма апартэіду, пры якой 80% насельніцтва было афіцыйна пазбаўлена асноўных грамадзянскіх правоў. Лідар мясцовага руху супраціву Нэльсан Мандэла 27 гадоў бесперапынна правёў за кратамі, але не зламаўся, не азлобіўся і пасля прыходу да ўлады зрабіў усё, каб белыя засталіся жыць у краіне. Стаўшы тым самым сусветным сімвалам барацьбы за мір і свабоду. Пра яго піша Паўліна Скурко (**старонкі 4–19**).

Наша Гісторыя
5/2021
history.nn.by

**Навукова-папулярны, літаратурна-мастацкі часопіс**

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.

**Галоўны рэдактар**
Андрэй Васільевіч Дынько

**Намеснікі галоўнага рэдактара**
Аляксандр Пашкевіч, кандыдат гістарычных навук
Валянціна Андрэева

**Дызайн і вёрстка** Уладзіслава Губіч

**Карэктура** Таццяна Кур'ян, Шура Піліповіч-Сушчыц

**На першай старонцы вокладкі** — Нэльсан Мандэла на перадвыбарным мітынгу ў прыгарадзе Кейптаўна ў 1994 годзе. Фота Гліна Грыфітса.

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах.
Перыядычнасць — 1 раз на месяц.



**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы».
Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск, вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X, УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефоны:** (017) 316-48-13, (029) 613-32-32, (029) 707-73-29

**E-mail:** history@nn.by

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 17.05.2021.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова 0151/21.
Наклад 4500.

Часопіс надрукаваны ў друкарні «Акварэль-прынт». Вул. Радыяльная, 40-202, 220070, г. Мінск. УНП 101282916.
ЛД 02330/78 ад 03.03.2014.
Пасведчанне аб рэгістрацыі ў Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюднікаў друкаваных выданняў № 2/16 ад 21.11.2013 г.

# Падпісацца? Праз Рэдакцыю!

Пачынаючы ад нумара 7, праводзіць падпіску і дастаўляць часопіс будзе сама Рэдакцыя.

Аформіць падпіску можна будзе двума спосабамі.

1. **Усіх, хто карыстаецца інтэрнэтам,** мы папросім зайсці на сайт Nashakrama.by (ён запрацуе ў чэрвені), выбраць часопіс і перыяд падпіскі і аплаціць анлайн. Зрабіць гэта трэба будзе не пазней за апошні дзень месяца, што папярэднічае месяцу, на які вы падпісваецеся.
2. **Хто не карыстаецца інтэрнэтам, той можа выразаць квітанцыю** ў нізе старонкі, запоўніць, аплаціць у любым інфакіёску, банку ці на пошце і даслаць яе нам не пазней за апошні дзень месяца, што папярэднічае месяцу, на які вы падпісваецеся. Пакладзіце ў пісьмо квітанцыю аб аплаце ці яе копію або ўпішыце нумар квітанцыі ў графу на адвароце падпіснога абанемента.

Наш адрас: 220004, Мінск, а/с 62.

**Кошт падпіскі праз Рэдакцыю будзе 7 рублёў за 1 нумар. Пры падпісцы на паўгоддзе зніжка — 35 рублёў за 6 нумароў.**

**Вось шлях для аплаты**
(у АРІПе праз «адвольны плацеж» — «произвольный платеж»):
*Атрымальнік плацяжу:* Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы»
*УНП атрымальніка:* 190786828
*Рахунак атрымальніка:* BY84BLBB30120190786828001001
*BIC банка атрымальніка:* BLBBBY2X
*Прызначэнне плацяжу:* Падпіска на часопіс «Наша гісторыя» на перыяд ........
*Сума плацяжу:* ........

**!** Вельмі просім усіх, хто ўмее, карыстацца спосабам 1. Пры ім будзе меней збояў і меншая нагрузка на калектыў Рэдакцыі пры апрацоўцы заказаў.

## ПАДПІСНЫ АБАНЕМЕНТ
на часопіс **«Наша гісторыя»**

| Кошт падпіскі | | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|

На **2021** год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| / | / | / | / | / | / | | | | | | |

Каму ____________________

Куды ____________________



















Тэлефон для кантакта ______

Нумар рахунку (чэка, квітанцыі аб аплаце) ______

Даслаць на адрас 220004, Мінск, а/с 62
не пазней за апошні дзень месяца,
што папярэднічае месяцу, на які вы падпісваецеся.





48



19



58



82











# Нэльсан Мандэла

## 27 гадоў у турме, перш чым стаць прэзідэнтам



FLICKR: SOUTH AFRICAN TOURISM

**Часам усмешкай можна зрабіць больш, чым строгасцю і сілай**, сказаў пра Мандэлу генеральны сакратар ААН Пан Гі Мун.

**Пры жыцці гэты чалавек стаў легендай: прэзідэнты і каралі, зоркі і чэмпіёны — усе хацелі пасябраваць з тым, хто 27 гадоў прабыў у турме і не зламаўся. Сакрэт Мандэлы быў у вялікай працы над сабой і нязломнай веры ў справядлівы фінал, піша Паўліна Скурко.**

Аднойчы за абедам у доме экс-прэзідэнта Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі Нэльсана Мандэлы кухарка прынесла ў сталовую тэлефон:

— Яе Вялікасць каралева Лізавета жадае з Вамі перагаварыць.

— Алё? Дабрыдзень, Лізавета! Як жывеш? Так, у мяне ўсё выдатна, дзякуй!

Ён любіў распавядаць пра знаёмства з каралевай у Букінгемскім палацы. «Мы паабедалі, потым доўга гулялі, пілі чай. Цэлы дзень размаўлялі. Потым я кажу: “Ну, мне час у сваю гасцініцу”. — “Дзе ж вы спыніліся?” — “У Дорчастэры”. — “Сёння ніякага Дорчастэра, — абвясціла каралева. — Вы застаяцеся тут”».

Калі Нэльсан паклаў слухаўку, сям’я накінулася на яго:

— Ты не можаш называць яе проста Лізавета! Трэба казаць: «Ваша Вялікасць», выконваць пратакол!

— Ды пра што вы! Яна ж называе мяне Нэльсанам! Мы заўсёды завём адно аднаго па імені. Не забывайце, ува мне таксама цячэ каралеўская кроў, я ж прынц Тэмбу, — ён хітра пасміхнуўся.

### Прынц Тэмбу

Мандэла паходзіў з арыстакратыі народа коса (і для яго палітычнага капіталу такое паходжанне было вялікім плюсам). Прадзед Нэльсана быў каралём племені Тэмбу. «Мы —

нашчадкі чацвёртага дома, — расказваў Нэльсан. — Наша роля — улагоджваць спрэчкі і быць дарадцамі караля. Да гэтай ролі мяне і рыхтавалі». Але жыццё прынца было цалкам зямным — як і аднагодкі, ён быў пастушком.

У першы школьны дзень усім дзецям давалі еўрапейскія імёны. «Чаму настаўніца назвала мяне Нэльсан? Паняцця не маю». А першае імя Мандэлы было Холіхлала (другі «х» вымаўляецца як англійскае «th», з языком паміж зубамі), на мове коса значыць «гарэза» (літаральна: «той, хто зрывае галінкі з дрэў»). ▶

WIKIMEDIA COMMONS, DINGEMAN



**Паўналецце ў народа коса наступае пасля рытуалу «Узыходжанне ў горы», цягнецца ён каля месяца.** Гэта працэдура абразання, якую суправаджаюць шматлікія абрады і атрыманне новага імені. Працэдура існуе і сёння. На фота хлопцы вяртаюцца з купання: яны спалілі сваю адзежу, што сімвалізуе развітанне з дзяцінствам, абмыліся — і атрымалі спецыяльныя абрадавыя коўдры. Цяпер яны мужчыны.

**Вёска Куну, у якой вырас будучы прэзідэнт,** жыве сваім жыццём. Яна не моцна змянілася з таго часу. Хіба што цяпер у ёй ёсць музей Мандэлы.



FLICKR, SOUTH AFRICAN TOURISM



FLICKR, SOUTH AFRICAN TOURISM



FLICKR, SOUTH AFRICAN TOURISM

▶ Таты не стала, калі Нэльсану было 9: «Бацька праводзіў з кожнай са сваіх жонак па тыдні: чатыры жонкі — чатыры тыдні. А ў той дзень прыйшоў да маці па-за «раскладам». Ён быў у жахлівым стане і ўсё кашляў, кашляў, кашляў... Закурыўшы, тата супакоіўся. Так і памёр — з запаленай люлькай у руках». Пах тытуню ў паветры заўжды вяртаў Нэльсана ў тыя ўспаміны.

Маці памерла, калі Нэльсан ужо сядзеў у турме. «Яе пахаваннем павінен быў займацца я — адзіны сын і старэйшае дзіця. Але, вядома, мне не дазволілі. Тады я ўпершыню ўсумніўся ў правільнасці абранага шляху».

Паўналецце, дарослась у народа коса наступае ў 17–18 гадоў пасля працэдуры абразання. Гэты рытуал называецца «Узыходжанне ў горы» і захоўваецца да сёння: унук Мандэлы, Ндаба Мандэла, апісвае, як 16–18-гадовыя хлопцы на месяц здаюць родным свае гаджэты, вопратку, потым тыдзень жывуць усе ў адным будане без ежы і пітва — пакуль рана загоіцца... У часы Нэльсана цырымонія абразання завяршалася спаленнем халупы, у якой юнак вырас — на знак таго, што дзяцінства скончылася. Пры паўналецці Нэльсан атрымаў другое імя — Далібхунга, «той, хто пачынае размову». Прарочае.

Апякун адправіў Нэльсана ва ўніверсітэт. Хлопец вывучаў антрапалогію, права, палітыку, менеджмент і марыў працаваць у Дэпартаменце па справах карэнных народаў. Давучыцца не давялося: паўстаўшы супраць кепскай ежы ва ўніверсітэцкай сталоўцы, Мандэла страціў месца. Вярнуўшыся дамоў, ён даведаўся, што яго збіраюцца ажаніць — прычым не з той, што яму падабалася. Разам са стрыечным братам яны скралі некалькі кароў, прадалі і на выручку дабраліся да Іаганесбурга. Нэльсан працаваў ахоўнікам на золатаздабычы, потым клеркам у юрыдычнай фірме. Тут ён упершыню сутыкнуўся з апартэідам твар у твар.

У мове коса многа гукаў-цоканняў. Нават вымаўляючы назву свайго народа, людзі кажуць «к» і адначасова цокаюць. Цяпер у Афрыцы 8 мільёнаў носьбітаў гэтай мовы. **Паглядзіце, як песню на роднай мове Мандэлы выконваюць на шоу «Голас. Паўднёвая Афрыка».** Гэта традыцыйная песня, якую пяюць на вяселлях у гонар маладога. Характэрны склад настаўнікаў шоу: двое чарнаскурых і двое белых. Асноўная мова перадачы — англійская, а сітуацыйна суддзі, вядучая і ўдзельнікі пераходзяць на афрыкаанс, коса, зулу. Пры Мандэле ў ПАР стала 11 дзяржаўных моў.



WIKIMEDIA COMMONS

**Нэльсану 19, ён паступае ва ўніверсітэт.** Нягледзячы на законы апартэіду, некалькі ўніверсітэтаў ПАР працягвалі прымаць студэнтаў усіх рас, адстойваючы акадэмічную свабоду. Мандэла быў апантаным, але не старанным студэнтам: праз партыйную актыўнасць ён тры гады правальваў выпускныя іспыты. Ён скончыў універсітэт завочна, ужо ў турме.

«Народ коса прывык цярпець, — заўважае ў сваёй кнізе ўнук Мандэлы. — Мы гаворым пра гэта, нават калі вітаем адно аднаго:
— Як маешся? — пытанне.
— *Ndi nya mezela,* — у адказ. Што азначае "трымаюся"».

**«Гаворачы з чалавекам на той мове, якую ён разумее, ты размаўляеш з яго галавой. Гаворачы на яго роднай мове, ты размаўляеш з яго сэрцам»**

### Жыццё пры апартэідзе

Белае насельніцтва Афрыкі, нашчадкі галандскіх і французскіх каланізатараў, называлі сябе афрыканеры (па-нідэрландску «афрыканцы») або буры («фермеры», «сяляне»). Іх роднай мовай быў афрыкаанс — нідэрландская, што відазмянілася на афрыканскай зямлі.

Буры былі суровымі кальвіністамі. Яны верылі, што Бог запавёў ім кіраваць гэтай зямлёй і, паводле Боскай задумы, яны яе сапраўдныя гаспадары. Іх стаўленне да чорных ад пачатку было зняважлівым. А цяжкая

## Народы і мовы

Народ коса, да якога належаў Мандэла, не найбуйнейшы з карэнных у ПАР. Ён займае другое месца, складаючы каля 20% ад чарнаскурага насельніцтва гэтай краіны. А найбуйнейшы народ ПАР — зулусы (каля 30% чарнаскурых).

Афіцыйных моў у сучаснай ПАР ажно 11: акрамя каланіяльных англійскай і афрыкаанс (утварылася ад нідэрландскай), гэта мовы найбуйнейшых мясцовых народаў: зулу, коса, венда, паўднёвая ндэбеле, паўночная сота, тсонга, тсвана, сесота і свазі. Апошнія тры мовы, дарэчы, з'яўляюцца разам з англійскай дзяржаўнымі мовамі афрыканскіх дзяржаў, суседніх з ПАР: тсвана — Батсваны, сесота — Лесота, свазі — Эсваціні (былога Свазіленда).

Кіраўнікі ПАР пасля краху апартэіду, дарэчы, таксама не належаць усе да аднаго народа. Калі Мандэла і ягоны наступнік Таба Мбекі (1999–2008) былі коса, то трэці прэзідэнт, Кгалема Матлантэ (2008–2009), — тсвана, чацвёрты, Джэйкаб Зума (2009–2018), — зулус, а цяперашні, Сірыл Рамафоса, які кіруе з 2018 года, — венда.

Вялікі поспех Паўднёвай Афрыкі і заслуга Мандэлы, што ў краіне ўмацавалася сапраўдная дэмакратыя і мерытакратыя (калі да ўлады прыходзяць самыя здольныя, без увагі на іх паходжанне і фінансы).


REDDIT, U/NEEDS_MORE_USERNAME

Калі Мандэлу затрымалі ў 1963-м, ён вызваўся абараняць сябе сам і ператварыў суд у перформанс. **На пасяджэнне ён прыехаў у традыцыйным адзенні свайго народа.**

параза ў Англа-бурскай вайне пачатку XX стагоддзя падагрэла гэтыя настроі. Калі Брытанія пасля Другой сусветнай сышла з ПАР, афрыканеры сталі адыгрывацца на слабых.

У 1948 годзе на выбарах (у якіх удзельнічалі толькі белыя) перамагла Нацыянальная партыя, для якой апартэід быў дзяржаўнай ідэалогіяй.

Апартэід, або бліжэй да арыгіналу «апа́ртхейд», перакладаецца з афрыкаанс як «раздзельнае пражыванне», «падзел». «Апартэід — гэта палітыка добрасуседства, якая прызнае наяўнасць адрозненняў паміж людзьмі, — заяўлялі ўлады ПАР у 1950-я гады. — Гэта палітыка дазваляе чорным і белым жыць як добрым суседзям». Але на справе гэта была цынічная несправядлівасць, калі права на ўладу мелі толькі 20% насельніцтва.

Чарнаскурым нельга было ездзіць па краіне без дазволу, нельга было і жыць у гарадах (толькі часова, падчас працы). Іх не пускалі ў многія прафесіі. Пад гэту марку чарнаскурым адмовілі ў якаснай адукацыі, адмянілі ў іх школах дакладныя навукі: «Нашто чорным дзецям матэматыка, калі яны не змогуць выкарыстаць яе на практыцы?» За такі падыход краіна расплачваецца дасюль.




WIKIMEDIA COMMONS



WIKIMEDIA COMMONS

**Праявы апартэіду**: лаўка толькі для белых і перон, падзелены па расавай прыкмеце.

Акрамя таго, існавалі асобныя транспарт, прыбіральні, ліфты, лаўкі ў парках, пляжы, уваходы ў дзяржустановы — для чорных і для белых. Змешаныя шлюбы былі пад забаронай, а сэксуальныя сувязі паміж чорнымі і белымі караліся крымінальным артыкулам з тэрмінам да 7 гадоў.

Чорных высялялі ў спецыяльныя рэзервацыі — бантустаны (ад *банту* — агульнай назвы шматлікіх афрыканскіх народаў, якія размаўляюць на мовах адной групы і маюць падобныя культуры ды традыцыі). У выніку 80% насельніцтва краіны жыло на 12% тэрыторыі. У перспектыве планавалася абвесціць бантустаны асобнымі дзяржавамі, пазбавіць жыхароў грамадзянства ПАР і такім чынам збудаваць расава чыстыя зоны.

### Amandla!

34-гадовы Мандэла, супрацоўнік першай у ПАР адвакацкай канторы для чарнаскурых, стаў імкліва набіраць папулярнасць, калі звярнуўся з прамовай да 10-тысячнага мітынгу супраць апартэіду. Ён заклікаў да байкотаў і іншых законных формаў негвалтоўнага супраціву. Ішоў 1952 год. Уздымаючы ўверх сціснуты кулак, ён пракрычаў «*Amandla!*» («Сіла!»), а народ адказаў «*Ngawethu!*» («Яна — наша!»). Гэты вокліч папулярны і сёння. Пасля таго мітынгу Мандэлу ўпершыню пасадзілі ў турму.

«Высокае дрэва вецер гне мацней» — адна з прымавак народа коса. Гэта значыць, моцным, вялікім людзям дастаюцца большыя выпрабаванні. Наступныя гады вецер змагаецца з баабабам-Мандэлам. Улады пагражаюць увесці ваеннае становішча, вінавацяць яго ў камунізме, забараняюць адначасова размаўляць больш як з адным чалавекам, наведваць сходы. Скасоўваюць арэнду для яго адвакацкага бюро.



WIKIMEDIA COMMONS

**42-гадовы Мандэла паказальна паліць свой пропуск** — сімвал несправядлівасці ў дачыненні да чарнаскурых ПАР.

## «Высокае дрэва вецер гне мацней»

Нэльсана то садзяць, то выпускаюць, але час на волі ён бавіць з карысцю: натхнёны ідэямі Махатмы Гандзі (гл. пра яго артыкул у № 4/2021 «Нашай гісторыі»), заклікае паказальна парушаць несправядлівыя законы і садзіцца ў турму. На першы заклік адгукнулася 8500 чалавек. Партыя Мандэлы Афрыканскі нацыянальны кангрэс у гэты час часта абвяшчае байкоты — і не без плёну! Напрыклад, у 1959 годзе стала вядома пра жудасныя ўмовы працы на бульбяных фермах. «Есці такую бульбу — усё роўна што чалавечую плоць», — пісалі лістоўкі. На некалькі месяцаў людзі адмовіліся

купляць бульбу. Эфект быў такі, што дзяржава мусіла правесці праверкі і даць гарантыі рабочым. АНК выпусціў лістоўкі: «Гэта перамога нашых людзей і папярэджанне для фермераў».

**Мы павінны выкарыстоўваць час мудра і памятаць: добрую справу можна пачаць у любую хвіліну**

Акцыі 1950-х паспрыялі таму, што афрыканцы выраслі як нацыя. Цяпер яны сталі ствараць пазітыўную праграму дзеянняў: дамагаліся роўнасці ў правах на зямлю, адукацыю і прамога прадстаўніцтва ў парламенце.

У 1960-м Нэльсан Мандэла ініцыяваў кампанію па спаленні пропускаў. Пропускі з’явіліся ў XVIII стагоддзі для кантролю рабоў-мужчын. Да 1950 года насіць іх абавязалі і жанчын. У пропуску чарнаскурага жыхара ПАР пазначалася імя, племянная прыналежнасць, дазвол на перамяшчэнне, працу і знаходжанне ў пэўным рэгіёне, інфармацыя пра судзімасць і падаткі, а таксама даведка з працы, якая мусіла засведчвацца штомесяц. Паліцэйскія маглі спыніць любога, запатрабаваць пропуск і пры адсутнасці яго арыштаваць ды вывезці ў рэзервацыю, да якой чалавек прымацаваны. Штогод так мучылі каля паўмільёна людзей.

Белым, канечне, можна было быць дзе заўгодна і без аніякага пропуска.

Па ўсёй краіне людзі сталі пратэставаць. У пасёлку Шарпевіль больш за 5000 чалавек прыйшлі да паліцэйскага ўчастка і прапанавалі арыштаваць іх за адсутнасць пропускаў. Дэманстрацыю расстралялі, загінулі 69 чалавек, з іх 10 дзяцей і 8 жанчын.

Свет быў шакаваны. Рада Бяспекі ААН прыняла рэзалюцыю. А ўрад ПАР, баючыся паўстання, забараніў апазіцыйныя партыі, арыштаваў 156 чалавек за «дзяржаўную здраду» і прыняў закон, які вызваляў дзяржслужачых ад адказнасці за дзеянні ў час бунту.

Мандэла сышоў у падполле і пачаў рыхтаваць партызанскую вайну.

### Ці быў Мандэла тэрарыстам

Бесперапынны гвалт з боку ўладаў не пакідае нам выбару, казаў Нэльсан. У 1960-м ён стварыў вайсковую арганізацыю «Дзіда нацыі» — «Умкхонта ве сізве». «Мы спадзяёмся ацверазіць урад і яго прыхільнікаў, пакуль не стала запозна і справа не дайшла да адчайнай грамадзянскай вайны».

«Дзіда» пачала праводзіць акцыі сабатажу: нападаць уначы на аб’екты дзяржаўнай інфраструктуры, напрыклад пункты выдачы пропускаў, падрываць электрасеткі, тэлефонныя лініі. «Мы хацелі паказаць, ►



WIKIMEDIA COMMONS

Ферма Лілісліф — у перакладзе «Ліст Лілеі». **Гэту «канспіратыўную ферму» выкупілі белыя барацьбіты з апартэідам. Усе чарнаскурыя работнікі на ёй насамрэч былі паўстанцамі.** Мандэла, быўшы падпольшчыкам, «працаваў» на ёй садоўнікам. Некалькі разоў на спатканне да яго прыязджала жонка Віні з маленькімі дочкамі. Тым часам першая жонка Эвелін з дзецьмі жыла пад іншым прозвішчам і не хацела ўспамінаць былога мужа.

што ёсць адданыя справе людзі, якія будуць біцца галавой аб сцяну, пакуль тая не трэсне».

Важна было дзейнічаць без ахвяр, і Мандэла ганарыўся, што падчас яго аперацый ніхто не загінуў.

Частка партызан размяшчалася ўздоўж дзяржаўнай мяжы і дзейнічала набегамі. Частка — у падполлі. Мандэла пад іменем Дэвід прыкідваўся то садоўнікам, то кіроўцам (што дазваляла яму ездзіць па краіне). У народзе ён атрымаў мянушку Чорны Першацвет.

«Я часта чую, як барацьбітоў за свабоду называюць тэрарыстамі, — гаварыў Мандэла ў старасці. — Учора і мяне называлі тэрарыстам, а калі я выйшаў з турмы, тыя ж людзі прызналі мяне. Вось што я скажу: хто і каго вінаваціць у тэрарызме, залежыць ад таго, чый бок перамагае».

Цікава, што Мандэла аж да 2008 года быў у амерыканскім спісе асоб, звязаных з ажыццяўленнем тэрарыстычнай дзейнасці. І гэта ў час шматразовых сяброўскіх візітаў у ЗША да абодвух Джорджаў Бушаў і Біла Клінтана!


FLICKR, SOUTH AFRICAN TOURISM


WIKIMEDIA COMMONS

**У турме на востраве Робен**, за 14 км ад горада Кейптаўн, з 1964 па 1982 год сядзеў будучы прэзідэнт ПАР. Сёння гэта помнік ЮНЕСКА. Турыстам паказваюць акенцы камер (злева) і кволы садок, які Мандэла разбіў абапал валейбольнай пляцоўкі. Садоўніцтва ён палюбіў на ўсё жыццё.

## «За гэта я гатовы памерці»

У 1963-м падпольшчыка Мандэлу арыштавалі. Месца яго знаходжання выкрыла ЦРУ, якое баялася яго сувязі з камуністамі. Пачаўся вялы суд: доказаў датычнасці да сабатажу не было, і пакуль што Мандэлу маглі прад'явіць толькі незаконны выезд з краіны. Нэльсан зладзіў перформанс. Надзеўшы шкуру леапарда і іншыя атрыбуты свайго народа, ён абвясціў, што будзе абараняць сябе сам. «Чаму мяне, чорнага, судзяць белыя? Нешта тут не так»... Вырак — пяць гадоў турмы.

Ён ужо сядзеў, калі паліцыя накрыла ферму Лілісліф, схапіла кіраўніцтва «Дзіды» і захапіла дакументы. Мандэлу выставілі новае абвінавачанне.

На судзе 1964 года Мандэла зрабіў трохгадзінную прамову, якая на ўвесь свет засведчыла яго палітычную будучыню. Ён гаварыў, што ён не прыхільнік гвалту і што сітуацыя не пакідала іншых варыянтаў адстаяць свае правы. Абверг заявы прапаганды аб тым, што пратэст быў інспіраваны з-за мяжы. Усё, што нам трэба, — права голасу, казаў ён. Да першых усеагульных выбараў заставалася 30 гадоў.

Нэльсан скончыў словамі, якія затым выбілі на сцяне Палаца правасуддзя: «Я змагаўся як супраць панавання белых, так і супраць панавання чорных. Я шанаваў ідэал дэмакратычнага і свабоднага грамадства. Гэта той ідэал, дзеля якога я спадзяюся жыць, — 45-гадовы Мандэла паглядзеў у вочы суддзі і сказаў тое, што адвакаты ўгаворвалі выкрасліць: — Але калі трэба будзе, за гэты ідэал я гатовы памерці».

Мандэла быў пэўны, што іх з паплечнікамі павесяць. «Суддзя прыйшоў на абвяшчэнне прысуду




**У камеры Мандэлы цяпер музей.**
Справа — спальнае месца.
У турме Мандэла правёў 27 гадоў.

пахмуры, і мы ўжо ні на што не спадзяваліся». Але хлопцам далі пажыццёвае. Лічыцца, што ад шыбеніцы вязняў уратавала міжнародная ўвага.

### «У маёй краіне вы спачатку адпраўляецеся ў турму, а потым становіцеся прэзідэнтам»

Як Мандэла і дзесяць яго паплечнікаў перажылі прысуды ад 22 да 30 гадоў? Яны рыхтаваліся да будучыні.

Палітычных ізалявалі ад іншых вязняў (апартэід адчуваўся нават у турме: індусам выдавалі штаны, чарнаскурым — шорты) і вечарамі дазвалялі сустракацца. З падачы Мандэлы яны ператварылі турму ва ўніверсітэт. Кожны чытаў лекцыі па тым, у чым разбіраўся. «Уяві, мы прыйдзем да ўлады і ты станеш міністрам эканомікі, — падбадзёрваў ён таварыша. — Не ўпадай у адчай, падумай, як будзеш развіваць эканоміку».

Мандэлу змясцілі ў адзіночную камеру 2х2,5 м, спаў ён на цыноўцы, нары паставілі толькі праз 10 год. Па начах Нэльсан працаваў над дыпломам бакалаўра (а пазней і магістра) права для Лонданскага ўніверсітэта, дзе вучыўся завочна. Нарэшце з'явіўся час скончыць універ! Акрамя таго, Мандэла вучыў афрыкаанс: «Нельга прывесці ворага ў засаду, калі не ведаеш, пра што думае варожы генерал».

> **«У турме я любіў выносіць смецце. Часам там траплялiся абрыўкі газет»**

А днём чакала цяжкая, часам бессэнсоўная праца: вязні драбнілі камяні на шчэбень і пераносілі з месца на месца. Праз тры гады іх перавялі на вапняковы кар'ер. Цёмныя акуляры не дазваляліся, і ад сляпучага сонца Нэльсан займеў праблемы са зрокам.

«У турме я любіў выносіць смецце. Часам там траплялiся абрыўкі газет. Я браў гэтыя абрыўкі, чысціў, а ўвечары ціха чытаў у камеры. Наўрад ці калі-небудзь хтосьці яшчэ так цаніў прэсу». За гэтыя абрыўкі ён не раз трапляў у карцар. Пасля вызвалення Мандэла штодзень выконваў рытуал: пасля сняданку сядаў у крэсла і пераглядаў усе восем рэгіянальных газет — ад першай паласы да калонкі з анекдотамі.

Увесь час у турме ён сур'ёзна ставіўся да здароўя: скакаў, адціскаўся. Калі на востраве зайшла гаворка пра тое, каб абвясціць галадоўку, Нэльсан запрацівіўся: «Мы і так змагаемся тут за выжыванне — навошта нам самім пазбаўляць сябе ежы? Трэба з'ядаць усё, што нам даюць. Трэба клапаціцца пра сябе, каб выстаяць».

Спярша сувязі са знешнім светам было мала: яму дазвалялася адно наведванне і адно пісьмо на шэсць месяцаў. Пры гэтым час ад часу да яго пускалі замежных афіцыйных асоб. Аўтарытэт Мандэлы ўсё рос, і быў нават эпізод, калі ён здолеў паскардзіцца запрошаным суддзям на жорсткасць новага начальніка турмы. Неўзабаве таго знялі.

«Быць бацькам нацыі — вялікі гонар, але быць бацькам сямейства прыносіць больш радасці. А гэтай радасці было так мала ў маім жыцці», — прызнаваўся Мандэла. Дзеці ўпершыню пабачылі яго праз 10 гадоў зняволення: «*Tata! Tata!*» — плакалі яны, абдымаючы 56-гадовага Нэльсана. На мове коса гэта таксама азначае «бацька».

### «Толькі свабодныя людзі могуць весці перамовы»

У 1980-я ў ПАР павеяла грамадзянскай вайной. Міжрасавыя канфлікты

набывалі страшныя абароты. Усё больш чорных цярпела ад паліцыі. Усё больш белых — ад рук чарнаскурых радыкалаў. Сітуацыю запусціла паўстанне ў Саўэта, прыгарадзе Іаганесбурга. У 1976 годзе там адбыліся пратэсты школьнікаў супраць увядзення афрыкаансу як асноўнай мовы навучання замест англійскай. Але «чарнаскурыя павінны разумець, што ім кажа начальства», — вырашыў урад. На родных мовах выкладаліся толькі Закон Божы, музыка і фізкультура.

16 чэрвеня (цяпер гэтая дата адзначаецца як Дзень моладзі) каля 20 тысяч школьнікаў не пайшлі ў школу, многія сабраліся на дэманстрацыю пад лозунгам «Калі мы павінны ведаць афрыкаанс, то прэм'ер-міністр павінен ведаць зулу». Паліцыя адкрыла агонь. Захаваліся страшныя кадры гэтых хлопчыкаў у штоніках са шлейкамі — старэйшы нясе на руках меншага, забітага, а за імі дзяўчаткі ў школьных спадніцах. Пратэсты распаўсюдзіліся, да канца года ў ПАР загінулі некалькі соцень чалавек, дакладная колькасць невядомая.

Гэта паўстанне радыкальна змяніла псіхалагічны фон у краіне. Упершыню за паўтара дзесяцігоддзя ўрад сутыкнуўся з масавым супрацівам. Тысячы чорных пачалі шукаць кантакт з «Дзідай нацыі».

Мацнеў міжнародны байкот. Капіталы сыходзілі з ПАР.

### Мандэла ніколі не губляў пачуцце гумару

«Я ўдзячны тым 27 гадам, якія я правёў у турме, таму што гэта дало мне магчымасць засяродзіцца. З таго часу, як я выйшаў на свабоду, я гэтую магчымасць страціў».

**Адзін з найлепшых фільмаў пра афрыканскую турму часоў апартэіду —** захапляльныя і напружаныя «Уцёкі з Прэторыі». У галоўнай ролі там сыграў Дэніэль Рэдкліф. Гары Потэр вырас.




Прадпрымальнікі, банкі, прэзідэнты прасілі ўрад вызваліць Мандэлу, каб разрадзіць абстаноўку. Але ўлады замест гэтага ладзяць прэс-тур, каб паказаць, якія добрыя камеры на востраве Робен, дзе сядзіць Мандэла.

У 1982-м Нэльсана з чатырма паплечнікамі перавялі ў турму Полсмур у Кейптаўне. Яны лічылі: каб абмежаваць іх уплыў на моладзь, вязняў 1976 года. Цяпер яму дазвалялі 52 лісты на год і нават пусцілі разбіць сад на даху турмы. Але Мандэла сумаваў па астраўным пейзажы.

Пад ціскам міжнароднай супольнасці прэзідэнт стаў выстаўляць Мандэле ўмовы. Ён прапанаваў вызваленне, калі той «назаўжды адмовіцца ад гвалту як палітычнай зброі». Але Мандэла яго абсек: «Толькі свабодныя людзі могуць весці перамовы. Зняволеным гэта забаронена. Я не буду рабіць ніякіх крокаў, пакуль мой народ і я ў няволі. Я вярнуся. *Amandla!*»

Яго пасланне зачытвала народу малодшая дачка. Ёй было 4, калі тату пасадзілі, і 31 — калі вызвалілі. Потым яна расказвала, як цяжка было перамагчы гнеў на тату, што пайшоў на прынцып, вырашыўшы сядзець. «Мінула шмат часу, перш чым я змагла сабе прызнацца, што паважаю яго рашэнне».

У турму пачалі прыязджаць міністры, буйныя бізнэсоўцы — і Мандэла адчуў сябе гаспадаром сітуацыі. З 1986 года з ім правялі 46 сустрэч. Стала ясна, што вызваленне непазбежнае. Але гэты працэс заняў яшчэ чатыры гады.

У 1988-м Мандэлу перавялі ў турму «Віктар Верстар»,


WIKIMEDIA COMMONS


WIKIMEDIA COMMONS

**Мандэла паказвае прэзідэнту ЗША Білу Клінтану сваю камеру** і пляцоўку, дзе драбіў камяні.

### «Цяпер і мы ведалі, што такое слезацечны газ»

Унук Мандэлы Ндаба так успамінае тыя смутныя часы: «Мы з сябрамі чулі пра паўстанне ў Саўэта. Мы біліся на палках — “паліцэйскія” супраць “пратэстоўцаў” — і разыгрывалі ў дварах жорсткія сцэны, якія кожны дзень бачылі па тэлевізары.

Аднойчы ўвосень 1992 года (лета ў нас заканчваецца ў красавіку, гэта значыць, быў, напэўна, май), гуляючы ў футбол, мы ўбачылі, як на нашай вуліцы збіраецца марш пратэсту. Нам было гадоў па дзесяць. Але мы падумалі: “Мы ж ужо дарослыя! Мы — воіны!” І далучыліся.

Марш быў не вельмі людным — чалавек восемдзесят-сто гадоў дваццаці, яны спявалі, размахвалі сцягамі і нешта скандавалі. Мы прайшлі два ці тры кварталы, калі ўбачылі вялізную жоўтую машыну “Хіпа”, якая вывернула з-за рога проста на нас. Яе гармата рэзка крутнулася: “Пах! Пах! Пах!” Над нашымі галовамі зашыпелі каністры са слезацечным газам — і людзі з крыкамі кінуліся хто куды. Хтосьці спатыкаўся і падаў, іншыя дапамагалі ім падняцца.

Мы з сябрамі паджгалі дадому... Там, адкашляўшыся, адпляваўшыся, мы паглядзелі адзін на аднаго. Нам было не страшна, наадварот! Мы былі ў захапленні: цяпер і мы сталі сапраўднымі байцамі! Цяпер і мы ведалі, што такое слезацечны газ».

ва ўласны домік з кухарам, відэамагнітафонам і басейнам. Да яго пускалі сваякоў і паплечнікаў. А ў наступным годзе кансерватыўны прэзідэнт ПАР Пітэр Вілем Бота перанёс інсульт. Яго наступнік Фрэдэрык дэ Клерк аказаўся прыхільнікам дыялогу, ён выпусціў палітвязняў і легалізаваў Афрыканскі нацыянальны кангрэс. 11 лютага 1990 года Мандэла выйшаў на


WIKIMEDIA COMMONS

У 1990-я апошні белы прэзідэнт ПАР Фрэдэрык дэ Клерк адмяніў несправядлівыя законы і правёў першыя выбары, у якіх удзельнічалі ўсе расы. Пераможцам на іх стаў Нэльсан Мандэла. **За год да выбараў, у 1993-м, Мандэла і дэ Клерк атрымалі Нобелеўскую прэмію міру.**

волю, гэта паказвалі ў жывым эфіры на ўвесь свет.

Выйшаўшы на волю, Мандэла пабудаваў сабе домік на ўзор турэмнага. Ад пытанняў адмахваўся: «Я прывык да таго дома і не хачу ноччу блукаць у пошуках кухні».

### Той, хто пачынае дыялог

Ад вызвалення да выбараў, на якіх Мандэла стаў прэзідэнтам, прайшло яшчэ чатыры гады — трэба ўмець цярпець. Увесь гэты час ішлі напружаныя перамовы. Калі ў 1993-м Мандэла і дэ Клерк атрымлівалі Нобелеўскую прэмію міру, іх адносіны былі што нацягнутая струна.

Праз дзесяць гадоў апошні белы прэзідэнт дэ Клерк скажа: «Адсутнасць азлобленасці — адна з выдатных якасцяў Мандэлы». А злавацца было на што. Урад зацягваў перамовы, каб вымусіць Нэльсана да саступак. Узбройваў і натраўліваў на народ коса ваяўнічых зулусаў. Правакаваў сутычкі з паліцыяй у чорных раёнах.

Бачачы ўсё гэта, Мандэла арганізуе забастоўку і робіць нечаканы крок — выступае па тэлевізары на мове афрыкаанс, роднай мове сваіх ворагаў. Пры гэтым кажа: «Дэ Клерк — чалавек вялікай прыстойнасці». Паплечнікі азадачаныя: як ён мог такое сказаць пра гэтага гада! Але Мандэла адчуваў, што гаварыць і калі.

У турме на востраве Робен Мандэла давёў веданне афрыкаанса да дасканаласці. Турэмшчыкі звярталіся да яго па дапамогу: перакласці лісты, разабраць дакументы. «Начальнік турмы тасаваў ахоўнікаў кожныя паўгода, каб яны не пасябравалі са мной. Яны павінны былі лічыць мяне за ворага і адпаведна ставіцца. Але, калі ты ведаеш мову ворага, ён у тваёй уладзе. Каб перамагчы ворага, трэба супрацоўнічаць з ім. Тады ён стане тваім партнёрам, можа быць, нават сябрам».

**Выйшаўшы на волю, Мандэла пабудаваў сабе домік на ўзор турэмнага**

Нерашучы дэ Клерк арганізуе рэферэндум сярод белых — гэта было апошняе галасаванне, дзе бралі ўдзел толькі белыя. 68% прагаласавалі за працяг перамоў. ▶

## Дзень свабоды

27 красавіка 1994 года прайшлі першыя ўсеагульныя выбары (цяпер гэта дзяржаўнае свята — Дзень свабоды). Чорныя плакалі, апускаючы бюлетэні. Прэзідэнтам стаў Мандэла. Віцэ-прэзідэнтам — дэ Клерк. Партфелі падзялілі між АНК і белай, афрыканерскай Нацыянальнай партыяй. Міністрам унутраных спраў прэзідэнт прызначыў нядаўняга ворага, кіраўніка ваяўнічых зулусаў. У гэтым кампрамісе — увесь Мандэла.

А нараджэнне нацыі паўднёваафрыканцаў адбылося праз год. ПАР прымала чэмпіянат свету па рэгбі. У фінал выйшлі каманды ПАР і Новай Зеландыі. У рэгбі тым часам гулялі выключна белыя, і традыцыйна, дзесяцігоддзямі ўсе чарнаскурыя падтрымлівалі каманду-суперніка. Але ў 1995-м на стадыён прыехаў Мандэла. Ён быў у бейсболцы «Спрынгбоксу», рэгбі-каманды, шчыра радаваўся іх перамозе і ўручыў капітану зборнай кубак. Гэта быў сігнал афрыканцам усіх рас: «Мы адзін народ».

## Камісія па высвятленні ісціны і прымірэнні

Мандэла разумеў, што ўзаемнае прабачэнне — шлях да прымірэння і яднання. Толькі так грамадства зможа рухацца наперад. У гэтым быў і эканамічны сэнс: суседзі, якія выганялі былых каланізатараў, знішчылі гэтым сваю эканоміку, пагрузіліся ў беднасць, а да ўлады ў многіх афрыканскіх краінах прыйшлі жахлівыя рэжымы.

Толькі стаўшы прэзідэнтам, Мандэла стварыў Камісію па высвятленні ісціны і прымірэнні




**Нацыя паўднёваафрыканцаў нарадзілася ў 1995-м**, на чэмпіянаце свету па рэгбі.

**Матч па рэгбі, куды Мандэла прыйшоў, каб падтрымаць белую каманду ПАР, стаў пераломным момантам у гісторыі паўднёваафрыканскай нацыі.** Яго асэнсаваў культавы рэжысёр Клінт Іствуд у фільме «Непераможны» (2009). Ролю Мандэлы сыграў Морган Фрыман, капітана рэгбі каманды — Мэт Дэйман.




для расследавання злачынстваў, учыненых у перыяд з 1960 па 1994 год у ходзе барацьбы з апартэідам. Камісія не была дзяржаўным органам, не мела паўнамоцтваў суда. Яе задачай было даць слова пакрыўджаным, ахвярам, а не катам.

Шануючы пакуты людзей, камісія не выклікала іх да сябе, а сама выпраўлялася ў вёскі і гарадкі запісваць іх паказанні. «Нам трэба было паглядзець у вочы зверу, каб мінулае больш не трымала нас у закладніках», — казаў кіраўнік камісіі арцыбіскуп Дэсманд Туту, лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру 1984 года. За два гады праз камісію прайшло 22 тысячы ахвяр. І 8 тысяч катаў, якія атрымалі амністыю. Камісія папярэджвала: калі злачынцы не аб’явяцца да мая 1997 года, рэшту жыцця пражывуць у страху, што іх раскрыюць.

Кожную нядзелю на працягу двух гадоў пасяджэнні камісіі паказвалі па ТБ, транслявалі па радыё. Ахвяры і каты сядзяць вочы ў вочы. Гавораць адно да аднаго. «Ты падвесіў мяне за ногі і завязаў вяроўку так, каб я не мог дыхаць...», «...І вы застрэлілі яе! Яна была ў сінім плашчы, памятаеце?» — гэта ўжо муж загінулай ад чарнаскурых радыкалаў у пачатку 90-х. І ўсе




**Пасяджэнне Камісіі па пошуку ісціны і прымірэнні. Узначальваў яе арцыбіскуп Дэсмант Туту.** Часам яму ледзьве ўдавалася стрымліваць слёзы.

плачуць. Арцыбіскупу Туту часам робіцца невыносна. Ён кусае сябе за палец — напэўна, каб не закрычаць, — і кладзецца галавой на стол.

У камісію звярталіся людзі, чые блізкія прапалі без вестак. І служачыя тайнай паліцыі расказвалі: іх замкнулі ў грузавіку, начыненым выбухоўкай, і пусцілі з абрыву; закатавалі ў пячоры; спалілі за горадам... Самым частым пытаннем было «Як адшукаць косткі?», самай частай просьбай — паставіць помнік.

Некаторыя ахвяры першы раз бачылі сваіх мучыцеляў пры

**Амністыю злачынцам часоў апартэіду давалі, калі злачынец мог даказаць, што да злачынства яго змушала палітычная сістэма.** Але за асабліва цяжкія злачынствы ў амністыі адмаўлялі.

**Каты паказваюць камісіі і народу, як катавалі сваіх ахвяр.**

дзённым святле, тварам у твар. Ахвяры і іх сем'і часта прасілі былых сілавікоў прызнаць віну ды пашкадаваць пра свае дзеянні.

## «Цяжка абудзіць таго, хто прыкідваецца, што ён спіць»

Не ўсім дастаткова было прымірэння. Некаторыя звярнуліся ў суд. Але многія, выгаварыўшыся і пабачыўшы раскаянне сваіх крыўдзіцеляў, адчулі палёгку. Важнай была глыбокая павага перад іх пакутамі, прызнанне і ўшанаванне іх гора. «Сёння, — сказаў адзін стары, — маімі слязамі разам са мной плакаў увесь народ».

Спачатку большасць белых адмаўлялася прызнаваць сістэмны характар катаванняў, калецтваў і забойстваў у час апартэіду. Па словах арцыбіскупа Туту, «вельмі цяжка абудзіць таго, хто прыкідваецца, што ён спіць». Але сукупны аб'ём сведчанняў людзей з розных куткоў краіны расплюшчыў ім вочы.

Мандэла лічыў: каб захаваць мір, нельга ладзіць Нюрнбергскі працэс. Ён заклікаў дараваць — але не забыць.

### Асабістае

«Кіраваць краінай значна лягчэй, чым кіраваць сям'ёй», — жартаваў Нэльсан, размаўляючы з адным са сваіх 17-ці ўнукаў.

У Мандэлы было тры жонкі. З першай, Эвелін, яны мелі чацвёра дзяцей: дзвюх дачок па імені Маказіве (адна з іх памерла маленькай, у 9 месяцаў) і дваіх сыноў. З першага класа дзеці мусілі жыць пад фальшывымі імёнамі. Старэйшы Тэмбі загінуў у аварыі, калі Нэльсан сядзеў у турме, а малодшы Макгата памёр ад ВІЧ ужо пасля яго прэзідэнцтва. Пасля гэтага Мандэла пачаў кампанію дапамогі хворым і прафілактыкі, дзеля чаго адкрыў фонд «46664» — такі быў яго турэмны нумар. Так экс-прэзідэнт змагаўся са стыгматызацыяй хворых на СНІД.

Шляхі Нэльсана і Эвелін сышліся на палітычнай глебе і на ёй жа праз 14 гадоў шлюбу разышліся. Актывістка АНК стала сведкай Іеговы і асуджала мужаву палітычную актыўнасць: «Ты спрабуеш рабіць тое, што мусіць рабіць Бог». ▶




**Эвелін — першая жонка Мандэлы.** На фота — 1944 год, яна сяброўка нявесты на вяселлі агульных сяброў. Медсястра і грамадская актывістка, Эвелін стала сведкай Іеговы і мужаву актыўнасць не прыняла. У 1990-я яна трымала краму гародніны і жыла звычайным жыццём з дзецьмі, унукамі і другім мужам.

▶ Пазней Эвелін казала, што прычынай разводу стала мужава нявернасць (гаварылі, што сакратарка АНК нават нарадзіла ад яго дзіця), і абуралася: «Свет занадта ўзносіць Нэльсана. Як чалавек, які здзейсніў пралюбадзейства і пакінуў жонку з дзецьмі, можа быць другім Ісусам? Ён усяго толькі мужчына». Развод быў пакутлівы, доўжыўся два гады — Нэльсан безвынікова змагаўся за апеку над дзецьмі.

Другую жонку Мандэла сустрэў проста на вуліцы пасля аднаго са сваіх судоў. Віні была першай у ПАР чарнаскурай сацыяльнай работніцай, мела шалёную харызму, і вочы яе гарэлі не менш, чым у Нэльсана. На 18 гадоў маладзейшая за мужа, за чатыры гады сумеснага жыцця паміж судамі яна паспела нарадзіць дачок Зенані і Зіндзі. Калі мужа пасадзілі, Віні стала сімвалам супраціву. Ёй самой прыйшлося перажыць страшныя здзекі і 1,5 года правесці ў «адзіночцы» ў Прэторыі.




**Трэцяй жонкай Нэльсана Мандэлы стала Граса Машэл, удава былога прэзідэнта Мазамбіка.** Рэдкасны выпадак: Граса пабывала першай лэдзі дзвюх дзяржаў. Вяселле справілі на 80-годдзе Нэльсана.




**Віні Мандэлу, другую жонку Нэльсана, называлі Маці нацыі.** Яна чакала яго на волі, сустракала пасля 27 гадоў турмы… Але ўжо праз год пара разышлася. Тым не менш, нават калі Нэльсан зноў ажаніўся, Віні запрашалі на ўсе сямейныя святы.

Віні і Нэльсан разышліся ў 1990-я. Публічна Нэльсан тлумачыў, што ў Віні з'явіўся іншы каханы, з якім яна працягвала бачыцца і пасля вызвалення мужа. Але блізкія сцвярджаюць, што ён вельмі цяжка перажываў ідэалагічныя разыходжанні. Выявілася, што пакуль ён з турмы настойліва заклікаў да міру і Афрыкі для ўсіх, Віні заяўляла: «Разам, рука аб руку, узброіўшыся запалкамі і кара́лямі, мы вызвалім гэтую краіну!» Мелася на ўвазе жудаснае забойства: адзець на чалавека аблітую бензінам шыну і падпаліць. Пры гэтым Віні распавядала пра ўсе жахі і прыніжэнні, якія вынесла ад белых за час свайго зняволення.

Было і цяжкае канкрэтнае абвінавачанне. У 1980-я яна стварыла з сірот так званы футбольны клуб Мандэлы. Насамрэч, гэта была банда целаахоўнікаў «Маці нацыі». Сярод іншага, гэтыя хлопцы ў доме Віні закатавалі 14-гадовага чарнаскурага падлетка, якога западозрылі ў працы на паліцыю.

Віні папрасіла прабачэння ў сем'яў ахвяр. А сэрца Нэльсана было разбітае. У 1994-м ён

абвесціў пра разрыў адносін, праз чатыры гады — пра развод. Але Мандэла працягваў паважаць гэту жанчыну. Унук успамінае, як страшэнна раззлаваўся Мандэла, калі пабачыў па тэлебачанні, як новы прэзідэнт Таба Мбекі паводзіцца з Віні. У 2001 годзе на адзначэнні Дня моладзі яна падышла да Мбекі і нахілілася, каб пацалаваць таго ў шчаку на знак прывітання. Але Мбекі адштурхнуў яе — і з яе галавы ўпала бейсболка. «Як ён мог?! — крычаў Мандэла. — Ці можна так ставіцца да жанчыны?!» У той дзень ён адмовіўся размаўляць з Мбекі па тэлефоне, яны доўга мірыліся.

Трэцяй жонкай Мандэлы стала Граса Машэл, удава былога прэзідэнта суседняга Мазамбіка Самора Машэла, які ў 1986 годзе загінуў у авіякатастрофе. Яны распісаліся на Нэльсанава 80-годдзе. Грасе было 52. Яна займалася гуманітарнай дапамогай дзецям і жанчынам Афрыкі. Скончыла Лісабонскі ўніверсітэт і вольна гаварыла на сямі мовах.

«Найперш Граса адмяніла традыцыю званіць у званочак за абедзенным сталом, — расказвае ўнук Мандэлы. — Гэта было зусім не ў яе стылі, і я быў гэтаму рады. Калі я толькі прыехаў, мне здавалася, што гэта вельмі крута, але пасталеўшы, стаў чуць у гэтым адгалоскі каланіяльных традыцый. Цяпер я разумею, што гэта было вынікам доўгіх гадоў зняволення Мадзібы [племяннное імя Мандэлы]: ён не ведаў некаторых рэчаў аб сучасных традыцыях, таму што прапусціў велізарны кавалак жыцця». ▶





FLICKR, 阿橋 HQ

**Пратэя артышокавая, нацыянальная кветка ПАР, якая змяшчаецца над шчытом на дзяржаўным гербе.** Акрамя кветкі пратэі, на гербе ПАР прысутнічае птушка-сакратар — магутная і хуткая, яна нібы абараняе сваю краіну ад ворагаў. Шчыт абкружаны біўнямі сланоў. А дэвіз напісаны на мясцовай мове цхам, якая вымерла ў XIX стагоддзі: «Розныя людзі, яднайцеся» — намёк на шматнацыянальны склад ПАР. На фота пратэя сорту Мадзіба.

## Жорсткасць не крутасць і не стратэгія

З маладосці Мандэла абажаў бокс. «Я шкадую ў жыцці толькі пра адно — што не стаў чэмпіёнам свету па боксе», — жартаваў ён.

Унук успамінае, як у 1997-м з чыпсамі ў руках яны чакалі легендарнага бою Эвандэра Холіфілда і Майка Тайсана, «слухаючы філасофскія разважанні дзеда аб прынцыпе роўнасці ў боксе. Для яго была важная любая сітуацыя, у якой раса і грошы адыходзілі на другі план». Мандэла глядзеў баі, міжволі прымаючы ў крэсле стойку баксёра. Пры гэтым ён вёў страсны «дыялог» з каментатарам.

Падчас гэтага бою Тайсан адкусіў Холіфілду кавалачак вуха. Мандэла быў абураны да глыбіні душы. «Гэта ж не пеўневыя баі, паводзь сябе годна! — крычаў ён у тэлевізар. — Будзь мужчынам, гуляй па правілах!» Жорсткасць не мае нічога супольнага ні з крутасцю, ні са стратэгіяй, сказаў ён потым унукам. *Ulwazi alukhulelwa* — «Крычучы аб уласнай велічы, вялікім не станеш». Адкусіўшы вуха суперніка, не станеш чэмпіёнам.

Неўзабаве пацярпелы Холіфілд без ладнай часткі вуха прыехаў да Мандэлы (ён часта прымаў у сябе селебрыці з усяго свету). Яны сябравалі да канца жыцця Мандэлы.


WIKIMEDIA COMMONS

**«Шкадую ў жыцці пра адно — што не стаў чэмпіёнам свету па боксе»**, — жартаваў Мандэла. На фота яму каля 30 гадоў.

### Неймавернае прымірэнне

У 1990 годзе дэ Клерк прапаноўваў Мандэлу фармат федэрацыі: рэгіён для белых, рэгіён для чорных. Але ў таго было сваё бачанне.

Тое, што адбылося пасля выбараў 1994 года, сучаснікі называюць цудам. ПАР пазбегла міжрасавай разні пасля прыходу да ўлады чорных. Нейкая частка афрыканераў з'ехала, але большасць засталася жыць і працаваць.

Даволі якасная адукацыя і ўмовы для бізнэсу вабяць сюды новых еўрапейцаў. Праз некалькі тыдняў пасля перамогі на выбарах Мандэла заснаваў фонд падтрымкі моладзі, куды штогод накіроўваў 12 000 долараў — траціну свайго заробку. «За доўгія гады, праведзеныя ў турме, я ні разу не чуў дзіцячых галасоў, і менавіта гэтага мне не хапала больш за ўсё», — прызнаваўся Мандэла. Стварэнне сістэмы адукацыі, якая выцягне Афрыку з беднасці, было яго прыярытэтам.




**Мандэла ўвёў моду на шаўковыя кашулі з мудрагелістым узорам.** У яго гонар іх сталі называць мадзібамі. Мадзіба — племяннное імя: так звалі даўняга продка Нэльсана Мандэлы, і так у старасці сталі называць самога Нэльсана. Праз гэты зварот праяўлялі павагу і любоў.

Паводле запавету Мандэлы, грамадства далей працуе над захаваннем грамадзянскага міру. Што праўда, сітуацыя трансфармуецца. Як для нашай моладзі савецкія часы становяцца міфам, так і ў ПАР белая і чорная моладзь усё менш разумее траўмы бацькоў.

Сакрэт поспехаў Мандэлы — не толькі харызма, вера ў сваю справу, а і фантастычная інтуіцыя. Дзе і калі пайсці на кампраміс, а дзе стаяць да канца.

А спадчына Мандэлы — не толькі ў нязломнасці падчас барацьбы за дэмакратыю, але і ў павазе да прававых нормаў пасля перамогі. У адрозненне ад многіх афрыканскіх лідараў, Мандэла заставаўся ва ўладзе толькі адзін тэрмін, ад 1994 да 1999 гадоў, заклаўшы традыцыю зменнасці прэзідэнтаў. ◆




**У турме яму найбольш бракавала дзіцячых галасоў. І на волі ён стараўся гэта кампенсаваць.** «Часам пакаленню даводзіцца стаць вялікім, — казаў ён. — Гэтым пакаленнем можаце стаць вы. Дазвольце заквітнець сваёй велічы».

### Кашулі мадзібы

У апошні перыяд жыцця Нэльсан Мандэла палюбіў свабодныя шаўковыя кашулі з яркімі малюнкамі. Упершыню ён надзеў такую на інаўгурацыю, а пасля насіў іх і на афіцыйныя сустрэчы па ўсім свеце. «Чалавек 27 гадоў прабыў у турме, дайце яму адчуць свабоду!» — весяліліся людзі.

Такія кашулі паходзяць з інданезійскіх сарочак, распісаных уручную. Але цяпер такія кашулі называюць мадзібамі — у гонар племяннога імені Мандэлы. У гардэробе прэзідэнта сабраліся дзясяткі мадзіб.

Яго касцюм — гэта мэсэдж пра дэмакратычнасць і гатоўнасць прымаць чужую культуру, не адмаўляючыся ад сваёй. Гэта частка заходняга гарнітуру, выкананая па ўсходнім кроі ды з афрыканскімі матывамі.

Арцыбіскуп кейптаўнскі Дэсманд Туту смяецца: «Я кажу Нэльсану: што ў цябе за густ?! Ну што за дзікія кашулі! А ён мне: "І гэта кажа мне чалавек, які ходзіць у сукенках на публіцы!"» — Мандэла меў на ўвазе біскупскую сутану.

# Любімыя стравы Мандэлы

Ён любіў рубец, курыныя кумпячкі, фрыкадэлькі з ласося і салёную траску з бульбай. Тушаныя бычыныя хвасты, брусельскую капусту з лімонам, рысавую салату з манга і кары, паэлью ды індыка ў апельсінах. Бясконца мог спажываць сыраквашу: еў лыжкай проста са слоіка ці запраўляў ёю кукурузную кашу. Кухарка Ксолі, якая гатавала для Мандэлы на працягу 23 гадоў, выпусціла кнігу з рэцэптамі яго любімых страў. Ён абагаўляў хатнюю ежу і казаў, што кухарства «цётачкі Ксолі» нагадвае яму маміна.



**Кухарка Ксолі** гатавала для Мандэлы ад моманту яго выхаду з турмы і да смерці.

UKUTYA KWASEKHAYA: TASTES FROM NELSON MANDELA'S KITCHEN

## Суп з гароднiны
**(8–10 порцый)**

*Мандэла вельмі любіў гэты суп, асабліва з дробкай белага перцу. Калі хочаце адчуць смак, якога дабіваўся ён, дадавайце перцу ад усёй душы.*

Парэзаць 1 сярэднюю (каля 100 г) цыбуліну, 5 вялікіх морквін (каля 400 г), 4 сярэднія бульбіны (каля 800 г), 300 г спаржавай фасолі, 3 сцябліны сельдэрэю з лісцем, 500 г ачышчанага гарбуза (найлепш мускатнага), 200 г цукіні, 150 г брокалі. Пакласці ў каструлю, заліць 3 літрамі вады (каб пакрывала гародніну). Дадаць 3 булённыя кубікі, соль і белы перац на смак. Варыць, пакуль гародніна не памякчэе, каля 20 хвілін.



UKUTYA KWASEKHAYA...

## Umngqusho

*«Гэта страва, якую ў сем'ях коса традыцыйна гатуюць па серадах. Мандэла сумаваў, калі дзень праходзіў без гэтай стравы. Ён званіў у званочак, каб я прыйшла, і пытаўся: "Дзе umngqusho?"» — успамінала кухарка, якая гатавала яму ад 1990 года і да самай смерці ў 2013-м.*

500 г драбнёных кукурузных круп і 800 г фасолі пакласці ў каструлю, заліць вадой, давесці да кіпення, зменшыць агонь і варыць, пакуль не памякчэе — як мінімум 2 гадзіны. Важна не занадта перамешваць і не таўчы, каб страва не ператварылася ў ліпкую каламэзю. Але трэба пастаянна правяраць, ці не прыгарае, і пры патрэбе дадаваць ваду. Прыкладна праз гадзіну дадаць два булённыя кубікі з ялавічынай. Калі гародніна памякчэе, адцадзіць ваду, прыправіць соллю і белым перцам і перамяшаць з 45 г масла (а традыцыйна замест масла выкарыстоўвалі смалец — курыны, ці качыны, ці гусіны тлушч). Падаваць з вараным мясам.



UKUTYA KWASEKHAYA...

**У афрыканскай кухні драбнёная кукуруза называецца *samp*** і выкарыстоўваецца ў большасці страў.

**Усе рэцэпты тут:**




**Пісьменнікі «Узвышша».** Госць з Масквы Уладзімір Дубоўка апрануты ў самы дарагі касцюм, з добрай тканіны, і сядзіць у цэнтры. Разам з Адамам Бабарэкам ён быў нефармальным інтэлектуальным лідарам гэтай суполкі.

# «Мы не апускаліся і маральна не раскладаліся»

## Уладзімір Дубоўка: 28 гадоў у турмах і ссылках

**Яго вяртанне да творчасці пасля 28 гадоў няволі не мае аналагу ў сусветнай літаратуры, піша Ганна Севярынец.**

Ларыса Геніюш, прачытаўшы ягоныя паслялагерныя пераклады Шэкспіра, кінула: «Чаму ў Дубоўкі няма змагання, а адзін толькі жаль? У мужчыны гэта нецікава».

Гэтую думку падзяляла і моладзь. Скрушныя думкі пра «паламанага Дубоўку» выказвалі яшчэ Рыгор Барадулін і Янка Брыль: «Паламаны, паламаны, зусім паламаны». Для іх

было дзіўна і крыўдна, што двухметровы волат, паэтычны кумір, легенды пра якога шэптам перадаваліся ў філфакаўскіх калідорах, цяпер быў барадатым усмешлівым дзедам, надзвычай асцярожным у гутарках. Ён ухіляўся ад пытанняў, прамаўляў тосты за Камуністычную партыю (Быкаў, Барадулін, Брыль і Караткевіч у партыю так і не ўступяць, а Геніюш і пры Брэжневе не будзе хаваць свайго антыкамунізму) — і закрываў падушкамі разеткі ў пакоях, дзе спыняўся.

Паваенныя хлопчыкі, якія самі спраўна друкавалі ў газетах бадзёрыя камсамольскія вершы, не разумелі, што Дубоўка пасля таго, што прайшоў, проста не давяраў ім, як і наогул — усім.

Геніюш (чытай пра яе ў №10/2020 «Нашай гісторыі») правяла ў ГУЛАГу восем гадоў і, калі выйшла, пасялілася ў Беларусі, і сын яе быў жывы.

Дубоўка праседзеў дваццаць восем гадоў і адзінага сына свайго страціў. Можа быць, таму сваёй «Споведзі» Дубоўка так і не напісаў. Але ён нідзе і ні ў чым не здрадзіў сабе і не зламаўся.



**Рыгор Барадулін і Уладзімір Дубоўка.** 1961 год.

WIKIMEDIA COMMONS

### «Ці мог?»

«Ці мог Дубоўка ўратавацца ад арышту, калі быў бы болей асцярожным у 1920-я?» — такое пытанне жонка геніяльнага беларускага паэта задала даследчыку Дзмітрыю Бугаёву, аднаму з тых гераічных навукоўцаў савецкага часу, што вяртаў імя Дубоўкі ў літаратуру. Бугаёў тады адказаў катэгарычна: «Не, ні пры якіх абставінах», — чым нават пакрыўдзіў Марылю Пятроўну.

Я трымаюся той жа думкі: не мог, ніякім чынам. Калі б нават ▶



**«Грамадзяне Каляда і Дубоўка** ў стане пасля шашлыкоў. 1927 год».

ЦНБ НАН БЕЛАРУСІ

### Уладзімір Дубоўка

(1901–1976) — літаратар, у 1920-я гады дзяржаўны службовец.

Нарадзіўся ў вёсцы Агароднікі цяперашняга Пастаўскага раёна, але ў 1915 годзе сям'я перад наступленнем нямецкіх войскаў была эвакуяваная ў Маскву. Там Дубоўка скончыў Вышэйшы літаратурна-мастацкі інстытут імя Валерыя Брусава, працаваў, там ажаніўся, туды вярнуўся пасля 28 год высылак і лагера і пражыў усё астатняе жыццё.

Праца, аднак, заўсёды была звязаная з Беларуссю: Дубоўка быў рэдактарам беларускага выдання «Весніка ЦВК, СНК і СПА Саюза ССР», адказным сакратаром прадстаўніцтва БССР пры Урадзе СССР, выкладчыкам беларускай мовы ў Камуністычным універсітэце народаў Захаду, рэдактарам «Збору законаў і загадаў Рабоча-Сялянскага ўрада Саюза ССР».

Першы верш напісаў, калі яму не было яшчэ і чатырох гадоў, а ўпершыню надрукаваўся ў 1921 годзе. Быў сябрам літаратурнага аб'яднання «Маладняк», а ў 1926-м стаў адным з заснавальнікаў аб'яднання «Узвышша». Выдаў некалькі зборнікаў вершаў, аўтар паэмаў «Там, дзе кіпарысы» (1925), «Кругі» (1927), «І пурпуровых ветразей узвівы» (1929), «Штурмуйце будучыні аванпосты!» (1929).

У 1930 годзе ўпершыню арыштаваны па сфальсіфікаванай справе «Саюза вызвалення Беларусі», пасля чаго 28 гадоў правёў у зняволенні і ссылках.

Рэабілітаваны ў 1957 годзе. У апошнія гады жыцця пісаў у асноўным творы для дзяцей, дыдактычную прозу, шмат перакладаў. Сярод іншага яму належаць бліскучыя пераклады з англійскай мовы твораў Шэкспіра і Байрана.

нейкім неверагодным збегам абставінаў яго абмінуў арышт і высылка ў 1930-м, у 1937-м яго б дакладна расстралялі 29 кастрычніка, калі падграбалі апошніх заўважных прадстаўнікоў яго пакалення. Беларускія эліты ў 1930-я зачышчалі настолькі метадычна, што не ўратаваліся і менш яркія творцы, засталіся толькі тыя, хто быў гатовы падпарадкавацца рэжыму па двух пытаннях: па пытанні дэмакратычных свабод і па пытанні беларускай самабытнасці.

Але галоўнае нават не ў гэтым. Не магу сабе ўявіць удзел Дубоўкі ў складанні русіфікаванага слоўніка побач з Кандратам Крапівой альбо ў пашырэнні дэкаратыўнай этнаграфіі побач з Пятром Глебкам.

### Надламаная «р»

Значэнне верша «За ўсе краі, за ўсе народы свету...» у крымінальнай справе Дубоўкі не такое ўжо і вялікае. Нават калі б паэт яго не перадаў за мяжу, у Вільню, для друку, ён быў бы арыштаваны па справе СВБ проста «па сукупнасці дасягненняў».

Але раз верш існаваў, то НКВД за яго зачапіўся: у Менск (тады сталіца Беларусі афіцыйна, па Канстытуцыі, па-беларуску называлася Менск, а не Мінск) быў дастаўлены машынапіс. Агент здабыў яго з віленскай рэдакцыі (хто быў той агент —



ФОТА ГАННЫ СЕВЯРЫНЕЦ

**Друкарка Уладзіміра Дубоўкі.**

**Уладзімір Дубоўка. За ўсе краі, за ўсе народы свету... —** верш-маніфест і заклік да змагання за незалежнасць.

пакуль невядома). Калі праверылі «почырк» машынкі (а ў кожнай з іх свой «почырк», канкрэтна ў гэтай была крыху надламаная літара «р»), выявілася, што машынка належыць Дубоўку.

«На нашым карку торг спраўляе смела Масква з Варшавай, з Рыгай і Літвой», — пісаў у тым вершы Дубоўка. Гэта быў час, калі краіна была падзеленая па Рыжскай дамове.

Верш быў маніфестам — заклікам да змагання за незалежнасць: «самохаць» не «прыйдзе лепшы час».

### Чаму ўратаваўся?

Усім, хто ў 1930-м праходзіў па справе Саюза вызвалення Беларусі — а гэта была эліта эліт нацыі, самыя дзейныя і адукаваныя, патэнцыйна здольныя ўзначаліць краіну, — у 1935-м падоўжылі тэрмін высылкі на два гады, у 1937-м усіх асудзілі на дзесяць год лагернага тэрміну. А ў 1938-м кагосьці расстралялі, а кагосьці не.

Чаму Дубоўку ў 1937–1938-м не расстралялі, у адрозненне ад Аркадзя Смоліча, Змітра Прышчэпава, Вацлава Ластоўскага, Алеся Дудара?

Пакуль ніхто з навукоўцаў не здолеў разабрацца ў гэтай пачварнай логіцы — калі яна была, — якім чынам «размяркоўваліся» прысуды беларускай інтэлігенцыі?

Нехта «выпаў» з гэтага працэсу, бо быў завербаваны — напрыклад, Антон Адамовіч, які ў 1938-м вызваліўся і нават вярнуўся ў Менск.

Язэпа Пушчу, мне падаецца, проста «забыліся» ў заўральскім Шадрынску, бо ў 1935-м ён быў вызвалены, тэрмін высылкі яму не працягвалі, але ў Менск ён не паехаў, пасяліўся пад Мурамам ва Уладзімірскай вобласці і нават у 1937-м стаў дырэктарам школы.

Дубоўка «абышоўся» турмой. Іншы лідар інтэлігенцыі 1920-х, Адам Бабарэка, у ГУЛАГу сканаў амаль адразу: у яго было хворае сэрца. Дубоўка ж выжыў дзякуючы сваёй фізічнай сіле і надзвычайнай трываласці.

Хоць і яго жыццё вісела на валаску. Рукі і спіна ягоныя да канца захоўвалі на сабе сляды трафічных язваў, атрыманых у БАМЛАГу. Абедзве нагі былі перабітыя бярвеннем (пасля лагера Дубоўка заўважна кульгаў). За 28 гадоў ён перанёс на нагах два інфаркты, паўтара года хварэў на пелагру — цяжкая хвароба лагернікаў, што развіваецца ад голаду і недахопу вітамінаў. Але жартаваў потым, што вытрываў, бо меў з дзяцінства асаблівую беларускую загартоўку.

### Вялікая паўза

Вымушанае 28-гадовае маўчанне паэта гісторыкі літаратуры

**Пелагра**

адзін з авітамінозаў, неінфекцыйная хвароба, якая развіваецца ад хранічнай адсутнасці паўнавартаснага харчавання. Ад пелагры паступова дэградуюць унутраныя органы, чалавека чакае пакутная смерць, расцягнутая ў часе. Чарговасць такая: дыярэя, дэрматыт, дэменцыя, смерць. На пелагру хварэлі сотні тысяч вязняў ГУЛАГа, а лекі ад яе вынайшаў таксама гулагаўскі вязень, доктар Леў Зільбер: ён распрацаваў дражджавы прэпарат з паўночнага моху-ягелю, уратаваўшы і сябе, і іншых.




WIKIMEDIA COMMONS

**Праект Уладзіміра Дубоўкі па напісанні літараў «дж» і «дз»** у беларускім алфавіце (1928).

называюць «вялікай паўзай Дубоўкі», каб падкрэсліць ягоны феномен: гэта, можа, адзіны паэт у свеце, які пасля такой працяглай паўзы вярнуўся ў літаратурны працэс не проста аўтарам выбраных твораў сваёй маладосці.

У маладосці Дубоўка быў больш чым проста паэтам. Ён сістэматызаваў беларускую юрыдычную лексіку. Ён быў пачынальнікам дзіцячай і настаўніцкай перыёдыкі. Ён увёў у беларускі лексікон некалькі дзясяткаў слоў, якія да яго ў пісьмовай мове не ўжываліся і без якіх цяпер мовы не ўявіць: «нелюдзь», «водар», «знічка»... У яго былі прапановы зменаў у алфавіт (ён прапаноўваў «дз» і «дж» пісаць новымі знакамі). Гэта быў сапраўдны дэміург, стваральнік і першапачынальнік.

Па сваёй сіле паслялагерныя творы Дубоўкі моцна саступаюць далагерным. Ягоны талент не перажыў замарозкі на 28 гадоў, ён страціў багацце мовы, яна стала механічнай — і гэта ў ранейшага моўнага наватара і віртуоза.

Чаму Дубоўка не пісаў з 1930-га па 1956-ы? Ці не была гэта яго памылка, якая загубіла яго як творцу?

Сам ён казаў, што пісаць у лагеры папросту не мог. Дакладна вядома, што ў высылцы, з 1931 па 1937 год, ён яшчэ нешта спрабаваў рабіць, перакладаў «Чайльд-Гарольда» Байрана. Аднак пад пагрозай арышту паэту даводзілася тройчы паліць свае паперы, а тыя паперы, што былі ў яго адабраныя ў Чэбаксарах у 1937 годзе, у архівах не захаваліся — я двойчы рабіла запыты і вывучала вопісы.

## Унутраны супраціў сістэме ператварыўся для Дубоўкі ў цалкам асабістую барацьбу супраць расчалавечвання

### «Выпрацаваць імунітэт»

Нягледзячы на ўсе выпрабаванні, нават пасля лагера Дубоўка быў якім заўгодна, толькі не паламаным. Ягоны ўнутраны супраціў сістэме ператварыўся ў цалкам асабістую барацьбу супраць расчалавечвання, для якой непатрэбныя ні паплечнікі, ні трыбуна, ні воплескі.

Пра гэта захаваліся сведчанні людзей, якім давялося быць побач з Дубоўкам у высылках і лагеры.

Рыгор Галакціёнаў, вязень 13-га аддзялення БАМЛАГа, успамінаў: «Шырыня кругагляду У. М., яго абагульненні, яго перакананасць у тым, што здзек з мільёнаў людзей — гістарычна асуджаная справа, і як вывод — неабходнасць выпрацаваць у сабе такія патрэбныя элементы мужнасці, свайго роду імунітэт, каб супрацьстаяць тлятворнаму ўплыву навакольнага асяроддзя, уразіла мяне і, трэба праўду сказаць, аказала вырашальны ўплыў на мае далейшыя паводзіны ў лагеры. Мы пастаянна вечарамі сустракаліся, дзяліліся ўражаннямі, маральна падтрымлівалі адзін аднаго. Пазбягалі ўсялякай камунікацыі з крымінальнікамі, і гэта галоўным чынам садзейнічала таму, што мы не апускаліся і маральна не раскладаліся. У нас паступова выпрацоўваўся супрацьлагерны імунітэт. ▶



ФОТА ГАННЫ СЕВЯРЫНЕЦ

**«Быў мулярам, водаправодчыкам, тынкоўшчыкам, маляром, але больш за ўсё — сталяром».** З ліста да Язэпа Дылы. Музей у Юньках на Пастаўшчыне.

Па магчымасці аднаўляліся культурныя звычкі, пачынаючы з чысткі зубоў. Кніг у лагеры не было, а газеты былі рэдкімі і паўлегальнымі госцямі, так што ўвесь культурны ўзровень падтрымліваўся толькі ў камунікацыі адзін з адным».

## Дубоўка жартаваў, што меў з дзяцінства асаблівую беларускую загартоўку — таму і выжыў

Марыля Дубоўка, жонка: «Падчас знаходжання ў лазарэце ён заўжды стараўся рухацца, дапамагаў даглядаць суседзяў-хворых. Потым звярнуўся да лекара: "Доктар, выпішыце мяне, калі ласка, на працу". Лекар здзівіўся: "Ты што гэта, дзетачка, не напрацаваўся яшчэ, папраўляйся, адпачывай". — "Не, доктар, я так памру, дайце мне якую-небудзь працу". І ён стаў у лазарэце выконваць невялікія пасільныя работы: дзе падтынкаваць, дзе падфарбаваць, што можа. Ён казаў, што таму і выжыў тады, а іншыя ляжалі, залежваліся і многія паміралі».

На яго прыязнасць і сумленнасць тым жа адказвалі і людзі, з якімі зводзіла яго жыццё.

У высылцы ў Яранску Кіраўскай вобласці Дубоўка аказаўся самым кваліфікаваным з усіх жыхароў горада: адзіны — з вышэйшай адукацыяй, адзіны — з веданнем англійскай мовы, адзіны — з беларускай, а па сутнасці, еўрапейскай настроенасцю на паляпшэнне жыцця нават у самых складаных умовах. Пры Дубоўку ў тамтэйшым райспажыўсаюзе паставілі парнікі, наладзілі вытворчасць каламазі і пачалі вывучэнне англійскай мовы.



БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ-МУЗЕЙ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА

**Уладзімір Дубоўка з жонкай Марыяй Пятроўнай** каля сваёй хаты ў пасёлку Почат Абанскага раёна Краснаярскага края. 1958 год, рэабілітаваны, вось-вось можна будзе вярнуцца.



ФОТА АЛІНЫ АРЛОВАЙ

**Краявід у Агародніках**, дзе нарадзіўся Уладзімір Дубоўка.

У чувашскіх Чэбаксарах Дубоўка побач з хлявом, дзе пасялілі ссыльных, развёў агародзік, каб малому сыну была зяляніна.

У 1949 годзе, пасля сканчэння лагернага тэрміну, Дубоўку адправілі на пасяленне ў Наразені — вёску ў Грузіі. Тут яго і арыштавалі чацвёрты раз. Забіраць прыехаў маёр НКВД. Наразенцы ўпрасілі яго даць магчымасць вёсцы праводзіць шаноўнага Дубоўку: накрылі стол, прынеслі віна, напаілі маёра і прапанавалі Дубоўку бегчы, пакуль маёр спіць. Але Дубоўка адмовіўся, падхапіў непрытомнага маёра пад пахі — і пацягнуў у Зугдзідзі ў пастарунак, дзе і здаўся міліцыі.

У сібірскай вёсачцы Почат (Краснаярскі край), дзе Дубоўкам было прызначана вечнае пасяленне, Уладзімір Мікалаевіч сам раскарчаваў тайгу, каб вызваліць участак пад дом і агарод, сам збудаваў і дамок. Яшчэ і па сёння ў мясцовых жыхароў стаяць мэблевыя гарнітуры, зробленыя беларускім паэтам. Цэлы і дамок, у ім жыве школьная бібліятэкарка. Почацкія дзеці пад кіраўніцтвам настаўнікаў раз на год ладзяць вечарыну памяці Дубоўкі — ён для іх цалкам свой, бо жывыя яшчэ людзі, якіх калісьці вучыла Марыля Пятроўна і чыім дзецям Дубоўкі дапамаглі вывучыцца ў Маскве.



## Манькавічы, Агароднікі

Дубоўка ў дакументах месцам народзінаў пісаў то Манькавічы, то Агароднікі — абедзве гэтыя вёскі знаходзяцца ў цяперашнім Пастаўскім раёне.

Сям'я жыла ў Манькавічах — калісьці немалое мястэчка, цэнтр уладанняў князёў Друцкіх-Любецкіх, з броварам, царквой, панскай сядзібай. У Агародніках жылі бацькі Мікалая Дубоўкі. У ліпені 1901 года маці паэта гасцявала ў свякроўкі — там і нарадзіла Уладзіка. Але жыў і гадаваўся ён ужо ў Манькавічах.

Агароднікі ў апошнюю вайну былі цалкам спаленыя, потым адбудаваліся, месца, дзе стаяла хата Дубоўкавага дзеда, цяпер пустое, участак належыць аднаму з сучасных Дубовак, які жыве ў Паставах.

Любы жыхар Агароднікаў ведае, што гэта за пусты ўчастак, і з ахвотай пакажа турыстам месца, дзе нарадзіўся іх выбітны зямляк.

Мясцовыя людзі паставілі на трасе Мінск — Паставы памятны знак Дубоўку акурат ля павароту на Агароднікі.

Манькавічы цяпер — ціхая-ціхая вёсачка пасярод лесу. На месцы, дзе стаяў дом Дубовак, цяпер чыёсьці лецішча. Але царква, у якую хадзіў малы Уладзік і дзе яго хрысцілі, яшчэ стаіць.

Побач з Манькавічамі, у вёсцы Юнькі, дзе яшчэ працуе школа, у кабінеце беларускай мовы адкрыты невялікі музейчык Дубоўкі, там можна пабачыць яго асабістыя рэчы, лісты да настаўнікаў, кніжкі.



ФОТА АЛІНЫ АРЛОВАЙ

**Царква ў Манькавічах, дзе хрысцілі Дубоўку**, змураваная тыповым для Паазер'я спосабам: з вялікіх камянёў.



**Козы ў Манькавічах**, дзе прайшло дзяцінства Уладзіміра Дубоўкі.

ФОТА АЛІНЫ АРЛОВАЙ



WIKIMEDIA COMMONS

**З жонкай і сынам Альгердам.** 1933 год.

### Вера ці мімікрыя?

У маладосці Дубоўка безумоўна верыў у камунізм, як і пераважная большасць тагачаснай беларускай моладзі — у адрозненне ад старэйшых людзей, якія былі больш насцярожанымі. Расчароўвацца ён пачаў недзе ад 1926 года, як і большасць тагачасных літаратараў, — не столькі ў ідэях, колькі ў іх увасабленні. Гэтае расчараванне не прабіваецца — яно плешча са старонак зборнікаў, выдадзеных у 1926-м, са старонак часопісаў за гэты год. Ну, а пасля ГУЛАГа мімікраваў.

Жонка хварэла, а Дубоўка лічыў, што паламаў ёй жыццё. Ягоны адзіны сын Альгерд загінуў 14-гадовым, калі Дубоўка быў у лагеры: у падмаскоўным лесе ►

### Альгерд, Радаслаў, Радаміра…

Дубоўка назваў свайго сына Альгердам. Але ён быў не адзіны з таго пакалення, хто даў сваім дзецям гістарычнае беларускае імя. Андрэй Александровіч назваў свайго сына Радаславам, Кузьма Чорны дачку — Рагнедай, сыны Гаўрылы Гарэцкага — Усяслаў і Радзім, дзеці Міхася Зарэцкага — Радаслаў і Радаміра. Гэта быў не проста беларусацэнтрызм, гэта яшчэ і эстэтычны супраціў розным «Владленам», «Кімам» і «Нінэлям», утвораным ад «рэвалюцыйнай» лексікі.

знайшлі з сябрамі снарад і кінулі яго ў вогнішча.

У сям'і было толькі адно дзіця: больш проста не паспелі. Альгерд Дубоўка нарадзіўся ў 1928 годзе, а ў 1930-м Уладзіміра Дубоўку ўжо забралі, і дваццаць восем гадоў ён бадзяўся па высылках і лагерах. Дзе тут заводзіць дзяцей? Смерць Аліка ён моцна перажываў і плакаў па сыне нават старым. Пісаў жонцы сярод нейкай прыгожай камандзіроўкі па Полаччыне пры канцы 1960-х: «Прысніўся Алік, прачнуўся я ў слязах».

Пахаваны Альгерд Дубоўка на могілках у падмаскоўным Талдаме.



Дом у Маскве, у якім жылі Дубоўкі, стаіць проста за каталіцкай катэдрай.

## «Як бы я перадачы перадавала?»

З Марыляй Пятроўнай яны ажаніліся ў 1928 годзе, прычым на афіцыйным шлюбе настойваў менавіта Уладзімір: Марыля прытрымлівалася прагрэсіўных поглядаў і лічыла, што не ў ЗАГСе шчасце. Потым яна прызнала, што Уладзімір Мікалаевіч усё ж меў рацыю, бо як бы яна тады перадавала яму перадачы ў турму.

Марыля была з ім побач усё жыццё, зазнаўшы ўсе нягоды жонкі ворага народа: збірала перадачы ў галодныя 1930-я, жыла ў высылках, ездзіла на сустрэчы на этапы.

Пасля смерці сына Марыля літаральна выплакала вочы: усё жыццё потым пакутавала на зрок. Дубоўка, вярнуўшыся пасля рэабілітацыі і аднавіўшыся ў Саюзе пісьменнікаў, выбіваў для яе санаторыі і дэфіцытныя лекі. Часцяком прызнаваўся, што адчувае сваю віну перад ёю за паламанае жыццё — і быў асабліва асцярожным у апошнія гады не дзеля сябе, а дзеля яе.

У лютым 1976 года Уладзімір Мікалаевіч выйшаў з дома ў аптэку па лекі для Марылі Пятроўны, паслізнуўся на дзіцячай пляцоўцы, паваліўся на лёд з усяго свайго гіганцкага росту і зламаў шыйку сцягна. Памёр ён 20 сакавіка, не перажыўшы аперацыі, а ягоная Марыля — праз чатыры гады, у адзіноце ў іх маленькай кватэрцы ў маскоўскіх Чаромушках. Яе спрабавалі забраць да сябе сябры, але яна адмаўлялася: хачу дажыць жыццё тут, дзе мы жылі разам з Валодзем.

Калі б ён не мімікраваў, я б мела да яго пытанні, а так — не маю.

**Дубоўкі трапілі ў Маскву ў 1915 годзе**: бацька ягоны працаваў на чыгунцы, і з набліжэннем да Манькавіч фронту Першай сусветнай чыгуначнікаў арганізавана эвакуіравалі. Дубоўкам далі кватэру на вуліцы Малая Грузінская (дом і пасёння існуе). Уладзік юнаком нейкі час працаваў на чыгунцы. Мяркуючы па тым, якая багатая была мова Дубоўкі, у іх сям'і гаварылі па-беларуску і пасля пераезду ў Расію.



Дзяўчына слухае вершы ў выкананні Уладзіміра Дубоўкі.

## Самаадчуванне пераможцы

Калі заходзіла гутарка пра лагерныя ўспаміны, Дубоўка

Пахаваны Дубоўка ў Маскве, у калумбарыі Нікола-Архангельскіх могілак.

заўсёды казаў, што як будзе іх пісаць — то напіша не пра тое, як ён пакутаваў, а пра тое, якіх выдатных людзей там сустрэў. Яму хацелася апісаць гэты досвед не як досвед паразы і прыніжэння, а як досвед перамогі чалавека над абставінамі. Сярод папер у ягоным архіве ёсць накіды такіх успамінаў, невялічкія занатоўкі пра агарод, які ён разбіваў ля барака, пра лесапавал. Некаторыя з іх былі перапрацаваныя ў апавяданні для зборніка «Пялёсткі», некаторыя ўвайшлі ў аўтабіяграфію для кнігі «Пяцьдзясят чатыры дарогі», нешта ён расказваў падчас інтэрв'ю Аляксею Гардзіцкаму, Юльяну Пшыркову, Дзмітрыю Бугаёву (Пшыркоў і Бугаёў біліся за яго творчую рэабілітацыю).

Пра пакуты ў высылцы і ў лагеры мы ведаем са словаў Марылі Пятроўны. Дубоўка ж ніколі не рабіў з сябе пакутніка, наадварот, імкнуўся расказваць пра тыя дваццаць восем (дваццаць восем!) гадоў як пра цяжкія, але ж прыгоды. Мне моцна падабаецца такая ягоная пазіцыя: яна не страхам прадыктаваная.

Крапіва, Броўка, Глебка — аб'ектыўна менш адораныя, чым Дубоўка — сталі «народнымі», а Дубоўка не атрымаў такога звання. Канечне, ён шкадаваў пра страчаны час, пра змарнаваны талент. І даравацъ не мог. Гэта прабіваецца ў ягоных запісах, не дзённікавых — дзённікаў ён не пакінуў, — але ў блакнотных нататках, у лістах да жонкі. Пры гэтым увесь час унутры сябе ён змагаўся з самаадчуваннем ахвяры. Ён хацеў быць пераможцам — і ён ім быў.

### Мера правільнасці

Ці правільна рабіў Дубоўка, калі пасля вызвалення не спрабаваў засноўваць нацыянальна-вызваленчыя, дысідэнцкія суполкі, а выбраў тактыку супрацоўніцтва з уладамі, ужывання ў савецкі рэжым?

## Кожны чалавек — сам сабе мера правільнасці альбо няправільнасці

Напэўна, іншае проста не было магчыма ў той Беларусі. Ва Украіне і краінах Балтыі некаторыя з былых вязняў далучаліся да дысідэнцкага руху або самі стваралі падпольныя групы. У Беларусі такога не здарылася.

Галоўным у яго біяграфіі, мне падаецца, было тое, што ён ні разу не пайшоў насуперак сваім маральным перакананням.

Уладзімір Дубоўка.
**Ніколі праўда не ўмірае**

*Жыццё закон нязломны мае:*
*ніколі праўда не ўмірае.*
*Адно хоць зернетка малое*
*ды застанецца пра былое.*
*Ні на пяску, ні на камённі*
*ушчэнт не выпетрае зерне:*
*узыдзе, ўсходы будуць з плёнам,*
*з адзінак вырастуць мільёны...*

Да біяграфій такіх творцаў цалкам прыкладаецца тэрмін «жыццятворчасць» — калі чалавек жыве жыццё так, нібыта піша сваю кнігу і не мае права схлусіць ані ў водной дэталі. Жыццятворцы ў сусветнай літаратуры — гэта Джон Дон, Джэк Лондан, Аляксандр Блок, Варлам Шаламаў. Розныя людзі, розныя ў іх біяграфіі, розныя ўстаноўкі, але ніхто з іх не хлус. Таму, безумоўна, усё, што ні рабіў Дубоўка ў сваім жыцці, усё ён рабіў правільна, бо кожны чалавек — сам сабе мера правільнасці альбо няправільнасці. ◆

# Касмічны кляштар і яго айцец



ФОТА САШЫ БЕЛАВОКАЙ

**Здольнасць будаваць адносіны з рознымі людзьмі, нават з тымі, якіх ты не паважаеш, здольнасць ісці на кампрамісы, здольнасць заўважаць магчымасці, якія іншым не заўсёды былі бачныя, а яшчэ непахісная адданасць беларускай справе зрабілі айца Аляксандра Надсана вялікім духоўным лідарам, піша адзін з ягоных вучняў Ігар Іваноў.**

ЦРУ пры пасярэдніцтве былога афіцэра Беларускай краёвай абароны Барыса Рагулі на пачатку 1950-х вербавала беларускіх эмігрантаў для дэсантавання ў савецкую Беларусь. Заходнія спецслужбы спадзяваліся такім чынам ажывіць партызанскі рух у занятых саветамі краінах. Засылалі не толькі беларусаў — аналагічныя аперацыі ажыццяўлялі ў Албаніі, Украіне.

Аляксандр Надсан надаваўся для гэтага ідэальна: у яго быў рэальны баявы досвед. Ён ваяваў супраць нацыстаў у Італіі ў складзе арміі Уладзіслава Андэрса, 2-га Польскага корпуса, які быў часткай брытанскіх войскаў. Там ён быў паранены. Па сканчэнні вайны, у 1946 годзе, жаўнераў гэтага фармавання перавезлі ў Вялікабрытанію і дэмабілізавалі.

### Людзі бедныя, траўмаваныя, але…

Пра 1940-я Надсан прыгадваў як пра час значных выпрабаванняў: беларусы ў Вялікабрытаніі былі вельмі бедныя, траўмаваныя вайной і збольшага слаба адукаваныя. Але гэта быў і час вялікай ахвярнасці: з першых невялікіх заробкаў яны збіралі грошы на Беларускі дом для сустрэч, работы Згуртавання беларусаў у Вялікай Брытаніі (ЗБВБ) і часовага прытулку суродзічаў,

на выдавецкія і адукацыйныя ініцыятывы.

Надсан быў у цэнтры таго жыцця. Ён ініцыяваў стварэнне пры ЗБВБ часопіса «Беларус на чужыне», які меўся пашырыць фокус арганізацыі са справ узаемадапамогі да грамадска-палітычных тэм. У 1951–1953 гадах ён узначальваў ЗБВБ і вучыўся адначасова на матэматыка ў Лонданскім універсітэце (самастойна вывучыў англійскую мову і скарыстаўся дзяржаўнай стыпендыяй для навучання).

У адрозненне ад Янкі Філістовіча, Цімоха Вострыкава і дзясятка іншых, Надсан дэсантавацца ў Беларусь катэгарычна адмовіўся. Ён заўсёды лічыў, што тыя хлопцы, ягоныя сябры, былі падманутыя і прададзеныя Рагулем за грошы. Надсан лічыў гэта марнаваннем чалавечага жыцця: на яго думку, у хлопцаў не было шанцаў.

З Цімохам Вострыкавым Надсан сустрэнецца толькі праз 50 гадоў, падчас адной з паездак ужо ў незалежную Беларусь.

## Эміграцыя дзеліцца, але не множыцца

Пасляваеннае Згуртаванне беларусаў у Вялікай Брытаніі ў першыя ж гады існавання перажыло раскол па лініі лаяльнасці да Рады Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) або да Беларускай Цэнтральнай Рады (БЦР). Большасць сяброў пайшлі за Радай БНР, якая не прызнавала права БЦР і Другога Усебеларускага кангрэсу прадстаўляць усіх беларусаў. Сярод іх быў і Аляксандр Надсан. У гэты час ён зблізіўся з Чэславам Сіповічам, вельмі энергічным грэка-каталіцкім (уніяцкім) святаром. Няўдалым інтэрв'ю мясцовай каталіцкай газеце Сіповіч дадаў алею ў полымя расколу ў ЗБВБ, які набыў таксама рэлігійны характар.

Вострыкаў быў адзіны з тых хлопцаў, хто выжыў. Ён памёр у Гомелі ў 2007 годзе.

## «Вера была справай старых»

Аляксандр Надсан быў не меншым патрыётам за тых, хто паддаўся на ўгаворы амерыканцаў.



СА ЗБОРУ БЕЛАРУСКАЙ БІБЛІЯТЭКІ І МУЗЕЯ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

**Аляксандр Бочка, жаўнер арміі Андэрса.** Прозвішча Надсан ён узяў пазней, калі прымаў брытанскае грамадзянства — мясцовыя законы гэта дазваляюць. Навошта мяняў і чаму стаў менавіта Надсанам — дакладна невядома. Сам айцец Аляксандр жартаваў, калі яго пра тое пыталіся, што выбраў такое прозвішча, каб яно ні на што не было падобна.

Але ён бачыў перад сабой іншы шлях. У 1953 годзе Надсан выехаў у Рым вучыцца на святара.

Ён згадваў, што ў Заходняй Беларусі з яго пакалення ў царкву хадзілі толькі дзівакі. Вера была справай старых. Гэта былі гады, калі ў маладых у модзе быў сацыялізм, а кансерватыўная царква, дзе служылі на незразумелых мовах, не карысталася папулярнасцю. У Брытаніі ж ён сустрэўся з інтэлектуальнай традыцыяй у хрысціянстве, якая ўразіла яго. Нездарма ён любіў чытаць Джона Толкіена — волата англійскай літаратуры і глыбока веруючага чалавека.

## Universitas Gregoriana, Ελληνικό Κολλέγιο

Надсан вучыўся багаслоўю ў прэстыжным езуіцкім ▸

### Касмічны кляштар. Далікатнае свята. Прытулак

«Я трапіў у Скарынаўку двойчы, і абодва разы ў 90-я, — успамінае філосаф **Ігар Бабкоў**. — Першы на самым пачатку, з групай акадэмічных вандроўнікаў, дзякуючы Джыму Дынглі. Я жыў у інтэрнаце на Падынгтан, удзень бадзяўся па лонданскіх каледжах і бібліятэках, але ўвечары раз-пораз адпраўляўся ў падарожжа на другі канец горада, у Фінчлі, дзе жылі мае сяброўкі Ірына Д. і Караліна М. Мы пілі віно і абмяркоўвалі магчымасць прыняць у беларускую Унію будыстаў і суфіяў. Айцец Аляксандр глядзеў на гэта з замілаваннем.

Другі раз напрыканцы 90-х, калі завіс у Лондане ў чаканні свайго рэйса і айцец Аляксандр даў мне прытулак. Ягоная ўвага, дабрыня, гатоўнасць дапамагчы вылучаліся як з блізкага наваколля, так і з рэальнасці як такой. Анталагічна — як любяць казаць філосафы. Я правёў у бібліятэцы некалькі начэй, сярод ценяў, шэптаў, чужых успамінаў і сваіх сноў.

Менавіта тады мне стала ясна, што Марыян-хаус, Скарынаўка — гэта не проста дыяспара. Не толькі месца ў Лондане. У Брытаніі. На Зямлі.

Гэта перадусім месца ў сусвеце. Дзіўнае, як з карцінаў Драздовіча. Апрычонае. Глыбокае. Насычанае духам і беларускай гісторыяй.

Касмічны кляштар. Далікатнае свята. Прытулак».

▶ Грыгарыянскім універсітэце, дзе тады выкладалі на лацінскай мове, а жыў у Грэчаскім калегіуме — семінарыі для каталікоў візантыйскага абраду. Тут ён адкрыў для сябе багатую гісторыю сувязяў калегіума з Беларуссю, пра што напісаў артыкул у парыжскім беларускім часопісе «Божым шляхам». З таго артыкула пачалася доўгая гісторыя знаходак і адкрыццяў айца Надсана.

## Айцец Надсан чамусьці не любіў распавядаць пра сваіх бацькоў

У наступныя дзесяцігоддзі ён пазнаёміць англамоўны свет з Кірылам Тураўскім, беларускімі летапісамі, зробіць значны ўнёсак у вывучэнне татарскіх кітабаў*, ідэнтыфікуе год выдання «Малой падарожнай кніжкі» Скарыны (яго захапленне календарамі аказалася тут вельмі дарэчы) і раскрые таямніцу дыяментавага кальe Магдалены Радзівіл (яно было ахвяравана княгіняй у 1917 годзе на заснаванне беларускай грэка-каталіцкай калегіі ў Рыме, а пасля след яго часова згубіўся). Нарэшце, перакладзе багацці візантыйскай літургікі на беларускую мову: яго непакоіла, што большасць іншых усходніх хрысціян моляцца на сваіх мовах, а беларусы працягвалі тады па звычцы трымацца царкоўнаславянскай.

* **Кітабы** — ад арабскага «аль-кітаб», кніга. Рэлігійныя кнігі беларускіх татараў, напісаныя беларускімі словамі, але арабскай вяззю.

### У мястэчку Гародзей. І загадка бацькі

Айцец Аляксандр нарадзіўся ў мястэчку Гародзей (ніколі не называў яго зрусіфікаванай формай Гарадзея) пад Нясвіжам у 1926 годзе ў сям'і настаўнікаў.

Маці выкладала ў школе нямецкую і французскую мовы і навучыла ім Алеся яшчэ ў дзяцінстве.

Бацька, Антон Бочка, быў удзельнікам Слуцкага збройнага чыну, а выкладаў матэматыку.

Бацька прасіў сына не гаварыць па-беларуску пры людзях, у тым ліку ў польскай школе, дзе бацька працаваў, а сын вучыўся. Напэўна, ён баяўся звальнення — польскія ўлады прынцыповых беларусаў ганялі.

Айцец Надсан чамусьці не любіў распавядаць пра сваіх бацькоў. Вядома, што яго бацька быў фізічна агрэсіўны чалавек.

### «Жорсткая ўлада над ім была яму непрымальнай»

Вярнуўся з Рыма Надсан святаром у 1958 годзе і нейкі час выкладаў матэматыку ў Нотынгеме. Потым вярнуўся ў Лондан, дзе беларускае жыццё было найбольш інтэнсіўным, у значнай ступені сканцэнтраваным вакол Беларускай каталіцкай місіі, якую ўзначальваў айцец Чэслаў Сіповіч.

У пачатку 1950-х гадоў Чэслаў Сіповіч задумаў стварыць «Новую Друю» — беларускі кляштар айцоў марыянаў з сядзібай у паўночным Лондане, дзе знаходзілася і місія.

Кангрэгацыя, або Зграмаджэнне айцоў марыянаў, — гэта асацыяцыя каталіцкіх святароў, створаная ў Польшчы ў XVII стагоддзі, якая ў міжваенны час мела кляштары ў Вільні і Друі. Прычым у Друі марыяне былі з мясцовых і карысталіся беларускай мовай, наколькі міжваенная польская рэчаіснасць гэта дазваляла.

Для «Новай Друі» Чэслаў Сіповіч настойліва шукаў кандыдатаў. Для гэтага трэба было ўступіць у Кангрэгацыю. Прасіў і айца Надсана далучыцца, але той адмовіўся. Ён выдатна функцыянаваў сам-адзін і мог самастойна прымаць доўгасягальныя рашэнні. Падобна,



СА ЗБОРУ БЕЛАРУСКАЙ БІБЛІЯТЭКІ І МУЗЕЯ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

**Кітаб** са збораў Беларускай бібліятэкі імя Скарыны.



Пасля вучобы святар Надсан нейкі час **выкладаў матэматыку ў Нотынгеме.**

што жорсткая ўлада над ім была яму непрымальнай.

Ён таксама бачыў сумны прыклад а. Льва Гарошкі, на энергіі якога спачатку някепска трымаўся наш паваенны Парыж. Стомлены працай, Гарошка паслухаўся Сіповіча — кінуў парыжскую парафію, спыніў выданне найлепшага на той час беларускага рэлігійнага часопіса «Божым шляхам» і пераехаў у Лондан да Сіповіча. Як і Надсан, Гарошка быў неймаверна здольны, шматфункцыянальны працаўнік-адзіночка. Але ў Лондане ён страціў свой ранейшы імпэт і збольшага пераключыўся на пчалярства.

Надсан ніколі не шкадаваў, што адмовіў Сіповічу, і гэта не перашкодзіла іх цёплым адносінам у наступныя два дзесяцігоддзі.

Доўгі час айцец Надсан быў адзіны немарыянін пры Беларускай каталіцкай місіі. Акрамя святароў, у розныя гады тут жылі таксама браты-законнікі — манахі без святарскіх свячэнняў. Яны адказвалі за гаспадарку ды кухню і прыбіралі за святарамі. Айцец Надсан у выніку аддзяліўся ад іх гаспадаркі — хацеў самастойнага жыцця. Калі ён пачаў гатаваць сабе сам, то стаў вегетарыянцам: казаў, што есці мяса яму ніколі не падабалася. Пазней гэта ўражвала многіх яго гасцей, асабліва — з Беларусі. Многія спрабавалі таксама і заставаліся вегетарыянцамі.

## Айцец Надсан стаў **вегетарыянцам**

### Дзеці імігрантаў імгненна асімілююцца

У 1960-я гады айцец Аляксандр кіраваў Школай св. Кірылы Тураўскага. Гэта быў інтэрнат для хлопчыкаў, дзе яны жылі і мелі заняткі па беларусазнаўчых тэмах, а прадметы агульнага цыклу брытанскай школьнай праграмы вывучалі ў добрай каталіцкай школе непадалёк.

Захаваліся лісты а. Надсана да ўжо біскупа Сіповіча ў Рым, дзе той узначальваў Зграмаджэнне айцоў марыянаў. У лістах ён часта жаліўся на хлопцаў. Выглядае, што педагагічнай цярплівасці яму бракавала.

Магчыма, яму проста невыносна было бачыць і разумець, як хутка асімілююцца дзеці імігрантаў і як нацыянальныя ідэалы бацькоў ім чужыя. Сапраўды, з выпускнікоў інтэрната ніхто актыўнага ўдзелу ў беларускім жыцці браць не будзе.

У тыя ж гады ён пачынае актыўна пісаць: спачатку ў аднаўлены ў Лондане Язэпам Германовічам часопіс «Божым шляхам», а потым — у «Часопіс беларускіх даследаванняў» (*The Journal of Byelorussian Studies*) — адзіны тады навуковы беларусазнаўчы часопіс на англійскай мове.

### Паліцы разладу

У жніўні 1969 года ў Лондан вярнуўся біскуп Сіповіч, каб засяродзіцца на Беларускай каталіцкай місіі і «Новай Друі». Гэта кардынальна змяніла дынаміку жыцця ў беларускім асяродку ў паўночным Лондане. Ідэя стварэння бібліятэкі як самастойнай установы не была тады новай, гэта абмяркоўвалася і раней, але па вяртанні Сіповіча яе нарэшце атрымалася рэалізаваць.

Бібліятэка ўжо існавала з 1960 года, калі Леў Гарошка далучыў да лонданскага збору свае 5000 кніг. Ён збольшага і адказваў за бібліятэку наступныя 10 гадоў. ▸

Але ў 1970-м, калі ўжо набылі асобны дом для бібліятэкі, у выніку дробнай сваркі з-за таго, як расставіць кніжныя паліцы, а. Гарошка зрокся пасады бібліятэкара, рэктара місіі і кіраўніка марыянскага кляштара і папрасіў дазволіць яму вярнуцца ў Парыж.

Паводле а. Надсана, «гэты сумны выпадак паказаў, што айцец Гарошка адчуваў сябе не вельмі шчаслівым у Лондане».

Бібліятэкарам наваствоpанай Беларускай бібліятэкі і музея імя Францішка Скарыны ў выніку стаў а. Аляксандр.

### Уменне бачыць

Тут праявіліся важныя рысы яго асобы: здольнасць будаваць адносіны з рознымі людзьмі, ісці на кампрамісы, а таксама заўважаць магчымасці, якія іншым не заўсёды былі бачныя.

У адным з інтэрв’ю ён расказаў гісторыю перапраўкі на Захад і выдання ў Лондане ў 1979-м рукапісу пад назвай «Письмо русскому другу», які хадзіў у Беларусі па руках як самвыдат. Гэта была крытыка русіфікацыі Беларусі, напісаная ў Савецкім Саюзе (як стала вядома пасля, дыпламатам Аляксеем Каўкам у Маскве). Ананімны тады рукапіс быў у выніку выдадзены Згуртаваннем беларусаў у Вялікай Брытаніі ў рускім арыгінале і ў англійскім перакладзе, з прадмовай беларусіста Джыма Дынглі. Айцец Надсан згадваў, што «была большая рэакцыя сярод ангельцаў, якія цікавіліся нацыянальным пытаннем у Савецкім Саюзе, чымся беларусаў. [Нашы] проста не зразумелі важнасці. Ужо тое, што напісана па-расейску, для іх было дрэнна. [...] проста эміграцыя беларуская шмат чаго недаацэньвала ў тым часе».

### «Я застаўся адзін»

У 1981 годзе памёр біскуп Сіповіч. Раз’ехаліся ці памерлі і іншыя святары. «Я застаўся адзін, — казаў пра той час а. Аляксандр, — на чале Каталіцкай місіі і бібліятэкі».

Праз нейкі час яго паклікалі ў Ватыкан спытаць пра біскупскія свячэнні. Ён сказаў, што ёсць старэйшы за яго святар — Уладзімір Тарасевіч, які тады быў святаром у беларускай парафіі ў Чыкага. У выніку ў 1983 годзе Тарасевіча высвецілі на біскупа для беларусаў-каталікоў у дыяспары. Ён хутка памёр — у 1986 годзе, а айцу Надсану біскупскія свячэнні ўжо больш не прапаноўвалі. Ватыкан прызначыў яго Апостальскім візітатарам для беларусаў-каталікоў замежжа.

Так прыродная сціпласць кіравала жыццём Надсана.

Між тым а. Аляксандр узяўся за пераклад літургічных — богаслужбовых — тэкстаў і пачаў служыць па-беларуску ў Лондане і паўсюль у свеце, дзе былі яго вернікі. Ён перакладаў з грэчаскай мовы, а таксама сам стварыў некалькі багаслужбаў: Службу аб памнажэнні любові, Службы да святой Еўфрасінні Полацкай і да святога Кірылы Тураўскага і інш.

**Калі Ватыкан прапанаваў Надсану тытул біскупа, ён назваў старэйшага за сябе святара**

### Цэнтральная фігура

У гэты ж час ён становіцца цэнтральнай фігурай беларускага жыцця ў дыяспары — нягледзячы на канфесійныя падзелы і сваркі па розных нагодах сярод суайчыннікаў.

Дзверы місіі і бібліятэкі былі адчыненыя ўсім, і гэтым карысталіся ўсе. Беларусаў старэйшага пакалення,



СА ЗБОРУ БЕЛАРУСКАЙ БІБЛІЯТЭКІ І МУЗЕЯ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

**Аляксандр Надсан з перакладчыкам Сяргеем Шупам.**

народжаных у Беларусі, з часам станавілася менш, жыццё замірала ў іншых гарадах. У 1990-х асяродак у паўночным Лондане стаў практычна адзіным месцам рэгулярнага беларускага жыцця ў Заходняй Еўропе.

### I сам гатаваў

Ён часта садзіў сваіх гасцей і сяброў за стол, звычайна сам гатаваў. I шчодра аддаваў часу тым, хто праяўляў цікавасць да беларускай справы. Гэта кранала многіх, і яны адплачвалі ўзаемна — удзелам у беларускіх справах.

Беларусь заставалася цэнтрам яго ўнутранага свету. Па-англійску ён гаварыў з моцным акцэнтам, заўсёды быў імігрантам у гэтым сэнсе. Яму падабаўся прадпрымальніцкі дух брытанцаў і законапаслухмянасць, але ён не ўцягваўся ў жыццё брытанскага грамадства, быў засяроджаны на беларускіх справах. Калі якім брытанцам Беларусь была нецікавая, ён хутка страчваў тэмы для размоў з імі.

Ён жыў сціпла, але і грошай асабліва не лічыў. Проста не меў ані часу, ані жадання шукаць зніжкі, думаць пра выгоду. Грошы прыйшлі-пайшлі — і добрыя справы зробленыя, прыйдуць новыя грошы. Сваіх гасцей ён часта вадзіў у рэстаранчыкі, у тым ліку італьянскія, з добрым хатнім вінам. Іх уласнікі яго добра ведалі і здалёк віталі: *Buongiorno, Padre, come stai?* («Добры дзень, ойча, як маецеся?») Ён ім адказваў якім-небудзь жартам, і ўсе доўга і па-італьянску гучна смяяліся.

Радыё пастаянна грала ў яго кабінеце — чацвёрты канал Бі-бі-сі, што без музыкі, а ўвечары заўсёды — радыё «Свабода» па-беларуску.

Айцец Аляксандр не забываўся, дзеля чаго існуе беларускае жыццё ў дыяспары. Калі стала магчымым паехаць у Беларусь, яшчэ пры Савецкім Саюзе, ён стварыў дабрачынны фонд дапамогі ахвярам Чарнобыля. Тады без складаных працэдур можна было прывезці лекі і іншую дапамогу ў шпіталі — на запыт дактароў. На гэта а. Аляксандр збіраў грошы і сярод беларусаў па ўсім свеце, і сярод брытанцаў.

Групы беларускіх дзяцей увесь час спыняліся ў Каталіцкай місіі перанačаваць і пагуляць па горадзе — па дарозе ў Уэльс ці Ірландыю, дзе іх чакаў доўгі адпачынак.

### Поўны перон

Калі ён першы раз ехаў у Беларусь у 1990 годзе, то чакаў, што яго сустрэне адзін знаёмы святар. А сустракаў яго песняй «А ў бары, бары...» поўны перон моладзі — з таварыства «Талака» і першай грэка-каталіцкай суполкі. 11 сакавіка 1990 года ён адслужыў першую за 150 гадоў грэка-каталіцкую літургію ў Мінску.

Сярод шматлікіх успамінаў удзельнікаў тых падзей захаваўся адзін, які пралівае святло на яшчэ адзін аспект характару нашага героя, — абыякавасць да адзення. Пакуль яго кармілі абедам, гаспадары высветлілі, што ў паліто высокага госця «душа выдраная» — у падкладцы дзірка на дзірцы сядзелі. Айца Надсана ўсімі сіламі трымалі за сталом, пакуль тое паліто ў іншым пакоі цыравалі.

Ён не любіў хадзіць па крамах. За яго вопраткай сачылі іншыя, каму гэта трапляла на вочы. Магчыма, гэта і неахайнасць у пэўнай ступені: а. Аляксандр ▶

### «У пэўны момант 70-ці гадовы айцец Аляксандр павіс на турніку і падцягнуўся восем разоў»

«Ранкам 2 жніўня 1996 года я сядзеў на другім паверсе аўтобуса Варшава – Лондан і, абсалютна агаламошаны 24 гадзінамі падарожжа, глядзеў на тлум і мітусню горада, які неўзабаве стане мне амаль родным, — піша святар **Ігар Лабацэвіч**. — Амаль гадзіннае падарожжа ў падземцы — і вось мы на Фінчлі, у беларускім цэнтры. Закінуўшы валізы ў студэнцкай хаце, мы пайшлі ў бібліятэку, дзе нас чакаў у сваім кабінеце а. Аляксандр Надсан. «Вітаю ў нашай беларускай вёсцы! — сказаў ён з усмешкай. — Хадзем нешта з'есці».

За сталом ужо былі айцец Кастусь Маскалік, Гай Пікарда і, канечне, Вера Рыч. Гай і Вера аб нечым горача спрачаліся, але зразумець тэму гэтай спрэчкі я не мог. Мая ангельская мова была на той момант вельмі нават абмежаваная.

Айцец Кастусь, пакуль а. Аляксандр і хлопцы гатавалі абед, распавёў пра тое, як ён мыў ногі ў Іардане на Каляды ў 1944 годзе.

У пэўны момант на той час амаль 70-гадовы айцец павіс на турніку, які быў прымацаваны да сцяны ў калідоры, і падцягнуўся восем разоў. У мяне з хлопцамі ажно скіўіцы ўпалі…

Трохі паспаўшы, я прывёў сябе ў парадак і пайшоў да Марыян-хауса на службу. Сонечныя прамяні асвятлялі цёмныя абразы іканастаса, Вера, Гай і хлопцы спявалі вечаровы гімн «Святло лагоднае».

Па вячэрні айцец Аляксандр узяў мяне да бібліятэкі, дзе доўга распавядаў пра ўсе беларускія скарбы, што гадамі збіралі нашы святары, паказаў музей, старадрукі».

выдатна арыентаваўся ў хаосе. Калі так, то гэта можа патлумачыць, напрыклад, адсутнасць каталога ў бібліятэцы, бо ён размяшчэнне кніг ведаў на памяць.

### Час спадзяванняў

Пачатак 1990-х быў часам велізарных спадзяванняў і неверагодна смелых праектаў. Айцец Надсан не разлічваў пабачыць уніятаў у Мінску ў 1990 годзе. Ён змірыўся быў з думкай, што будзе апошнім грэка-каталіцкім святаром у беларускім свеце. Але ўсё павярнулася зусім нечаканым чынам: былі прагныя вернікі, толькі без пастыраў. Амаль адразу ж а. Надсан задумаў праграму адукацыі святароў у Лондане. Але правал. Ніхто з тых, хто выехаў у Лондан вучыцца, у Беларусь святаром не вярнуўся. Адзін стаў праваслаўным святаром у ЗША, другі — капеланам у амерыканскай арміі і яшчэ адзін — святаром у беларускай парафіі ў Лондане.

Чаму такі правал? Паўнамоцтвы а. Надсана не распаўсюджваліся на Беларусь, і біскупам ён не быў. А няма біскупа — няма памеснай Царквы. Але гэта былі самыя першыя дні, усё толькі пачыналася для ўсіх, у тым ліку для Ватыкана. У наступныя гады было з дзясятак зваротаў вернікаў, самых першых грэка-каталіцкіх святароў у Беларусі і нават Міністэрства замежных спраў з просьбай прызначыць біскупа для грэка-католікаў. Ніхто тады не мог сабе ўявіць, што Ватыкан будзе стрымліваць развіццё Грэка-Каталіцкай царквы ў Беларусі, каб не цвяліць Рускую праваслаўную царкву.


ФОТА ІГАРА ІВАНОВА

Так царква выглядае ўдзень...

### «Наколькі палітыкі — дылетанты»

У прыватных размовах ён выказваўся пра многіх дзеячаў часам далёка ад мэйнстрымных меркаванняў пра іх.

Напрыклад, яго заўсёды ўражвала нецярпімасць і няздольнасць лідараў Беларускага народнага фронту — Зянона Пазняка і іншых — дамаўляцца са Станіславам Шушкевічам і іншымі сіламі, якія, на думку Надсана, таксама былі «нашымі». Ён пераконваў прыхільнікаў БНФ, што гасцявалі ў яго, ісці на кампрамісы і ствараць кааліцыі.

Яго шакавала і абурала, наколькі палітыкі ў Беларусі былі дылетанты і «жылі ў сваім свеце». Калі Пазняк прыехаў у Лондан упершыню, быў арганізаваны з гэтай нагоды сход Згуртавання беларусаў у Вялікай Брытаніі. Людзі сабраліся, чакаюць, а Пазняка ўсё няма і няма. Нарэшце прыехалі Пазняк з беларускім консулам у Лондане, які вадзіў лідара парламенцкай апазіцыі па горадзе. Аказалася, Пазняк фатаграфаваў горад, а тады пабачыў фотакраму з цудамі тэхнікі і завіс там.

**Да тых, хто парушаў свае абяцанні, у яго было слова: «няшчасны»**

Айцец Надсан сказаў пасля гэтага, што Пазняку як палітыку нічога не ўдасца, бо ён аддае перавагу сваім прыватным інтарэсам, а не грамадскім.

### Больш пра айца Надсана і беларусаў Брытаніі

**Часасловец** — артыкулы, кнігі і пераклады а. Аляксандра Надсана:

Кніга Наталлі Гардзіенка **«Беларусы ў Вялікабрытаніі»**:



...а так, магічна, уначы.

Амаль да самай смерці ён быў у Марыян-хаусе, ужо не падымаўся, але пры светлым розуме і прымаў шматлікіх гасцей пры сваім ложку. У той час зычліўцам удалося выкупіць дом у Гародзеі, дзе ён правёў дзяцінства. Ён быў вельмі рады гэтаму. Хутка, праўда, той дом давялося разабраць на загад мясцовых уладаў, бо ён быў у аварыйным стане, але была зроблена яго фотафіксацыя, так што ў спрыяльныя часы будзе магчымасць аднавіць яго выгляд і стварыць музей.

## Гучныя тэмы

Айцец Надсан цаніў пастаянства ў людзях: калі паабяцаў, даў зарок, то трымай сваё слова. Да тых, хто парушаў свае абяцанні, кідаў святарства ці сужонка, ён ставіўся кепска. У яго было слова, якое ён дадаваў, калі гаварыў пра такіх: «няшчасны». А яшчэ пра святароў і манахаў, што кінулі служэнне: «пайшоў сабакам сена касіць». Людзей, што не трымалі абяцанняў, вакол яго было шмат, таму расчараванняў ён меў багата. Але ён мог працягваць працаваць разам з «няшчаснымі» — быў інстынктыўна добрым камандным гульцом.

Ён быў чалавекам традыцыйнага выхавання, у тым ліку тэалагічна. Гучныя багаслоўскія дэбаты канца XX і пачатку XXI стагоддзя — жаночае святарства, аднаполыя адносіны, разводы, эўтаназія, аборты — яго па-сапраўднаму не цікавілі, да ўсяго гэтага ён ставіўся або скептычна, або адмоўна.

Што яго шакавала, чаго ён проста не мог сабе ўявіць, то гэта скандалы са святарамі-педафіламі. Яму на ўсё жыццё запомнілася, як аднойчы на вуліцы жанчына плюнула ў яго, калі пабачыла святарскае ўбранне. Ён казаў, што пасля гэтага баяўся нават зірнуць на дзяцей на вуліцы.

Ён сур'ёзна, але без фанатызму ставіўся да свайго цэлібату*. Ён быў не з тых, хто лічыць цэлібат найвышэйшай формай жыцця. Паўтараў, што цэлібат — гэта царкоўная дысцыпліна, а шлюб — зусім іншая справа, адно з таінстваў.

## Больш, чым радасцяў

Пры канцы жыцця а. Аляксандр казаў, што расчараванняў у яго было больш, чым радасцяў.

Ён бачыў, як Беларусь стала незалежнай і як нацыянальны сцяг быў парваны на шматкі.

Яго сустракалі маладыя ўніяты ў Мінску, якіх ён не спадзяваўся пабачыць, і потым ён назіраў, як гэтыя людзі мусяць зберагаць веру насуперак царкоўным уладам.

Ён казаў: «Я зрабіў што мог, цяпер рабіце вы».

* **Цэлібат** — зарок не жаніцца, які даюць манахі і каталіцкія святары.

## «Я зрабіў, што мог, цяпер рабіце вы»

Айцец Надсан даў выдатны прыклад служэння, нават калі і не рабіў гэтага наўмысна. Вернасць і пастаянства, здольнасць дамаўляцца і працаваць разам з самымі рознымі людзьмі, адначасова — захоўваць асабістую аўтаномію, гасціннасць, якая ўражвала і заахвочвала людзей разняволіцца і застацца пры беларускіх справах.

Ён цудоўна разумеў, што такое палітыка: да яго ўніяцкага святарства многія брытанскія беларусы ставіліся з падазрэннем і нават нянавісцю, але ён зноў і зноў заваёўваў іх давер, каб працаваць разам.

Да айца Надсана ў царкву хадзілі і праваслаўныя. Ніхто з іх не станавіўся ўніятам, але быццё разам умацоўвала ўсіх і прыносіла радасць, якой інакш проста не было б. ◆




Бібліятэка і музей імя Скарыны — злева.

# Акно на Захадзе

**Чаму менавіта Беларуская бібліятэка і музей імя Скарыны ў Лондане, якім днямі споўнілася 50 гадоў, сталі найбольш маштабным праектам беларускай дыяспары, піша Алесь Нешчарда. Коратка кажучы: гэтыя беларусы былі разумныя.**

Пасля Другой сусветнай вайны ў Вялікабрытаніі апынулася нямала беларусаў з былой Заходняй Беларусі, якія да вайны мелі польскае грамадзянства. Для брытанцаў гэтыя людзі былі саюзнікамі ў вайне з нацызмам, многія служылі ў арміі генерала Уладзіслава Андэрса. Таму Лондан даў ім прытулак і грамадзянства. Вяртацца ж на радзіму ім было проста фізічна небяспечна.

Згуртаванне Беларусаў у Вялікай Брытаніі ў 1948 годзе налічвала 369 сяброў. Для параўнання, паводле перапісу 2001 года ў Вялікабрытаніі жыло 1154 чалавекі, народжаныя ў сучаснай Беларусі, у 2011-м — 4406.

Іх было няшмат, але яны былі вельмі актыўныя. Многія з нашых суайчыннікаў, што пасля вайны апынуліся ў «вольным свеце», былі свядомымі беларусамі. Актыўна займаючыся рознымі формамі нацыянальнай дзейнасці на радзіме, не хацелі яны гэтага кідаць і ў выгнанні. Але для таго, каб такая праца была эфектыўная, патрэбныя лідары і структуры.

Беларусам Вялікабрытаніі ў гэтым плане пашанцавала, бо тут працавалі энергічныя ўніяцкія святары. Іх лідарам быў Чэслаў Сіповіч, які, пераехаўшы ў Вялікабрытанію ў 1948 годзе з Рыма, стварыў у ціхім квартале паўночнага Лондана Беларускую каталіцкую місію — рэлігійны асяродак, вакол якога круцілася і грамадскае жыццё. З часам да Сіповіча далучыліся іншыя святары: Леў Гарошка, Аляксандр




СА ЗБОРУ БЕЛАРУСКАЙ БІБЛІЯТЭКІ І МУЗЕЯ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

**Чэслаў Сіповіч з шыльдай бібліятэкі.**

**Чэслаў Сіповіч** (1914, вёска Дздзінка, Браслаўскі павет – 1981, Лондан) — беларускі каталіцкі святар лацінскага і візантыйскага абрадаў, першы беларускі ўніяцкі біскуп у XX стагоддзі, генерал Кангрэгацыі марыянаў і адзін з самых уплывовых дзеячаў беларускай дыяспары.

У сярэдзіне XX стагоддзя, калі ад рук таталітарных рэжымаў загінула большасць беларускіх рэлігійных дзеячаў (ад рук нацыстаў — каталік Вінцэнт Гадлеўскі, уніят Антон Неманцэвіч, ад рук саветаў — каталік Адам Станкевіч і шматлікія праваслаўныя епіскапы), Сіповіч застаўся жывы і на свабодзе. Гэта была воля выпадку ці воля Бога. Калі польскія ўлады ў 1938 годзе з мэтай паланізацыі выселілі марыянаў з манастыра ў Друі, Сіповіч вымушана выехаў вучыцца ў Рым.

Надсан і адпушчаны пасля смерці Сталіна з савецкага ГУЛАГа Язэп Германовіч.

## *Bibliotheca Alboruthena*

Чэслаў Сіповіч і Леў Гарошка былі апантанымі кнігалюбамі. Маючы багатыя прыватныя кнігазборы, яны паклалі іх у аснову беларускай бібліятэкі, створанай у канцы 1950-х і даступнай для агульнага карыстання.

Кнігазбор займаў вялікі пакой на другім паверсе ў Марыян-хаусе — «Марыйным доме» — будынку Беларускай каталіцкай місіі ў Англіі. (Святары-марыяне змянілі назву дома з «Бельведэр» на «Марыйны дом» у 1954 годзе.) У 1960 годзе бібліятэка ўжо называлася *Bibliotheca Alboruthena*, мела сваю пячатку і каталог.

Святары актыўна скупалі старадрукі, першыя выданні беларускіх аўтараў і розныя іншыя цікавінкі. Пасля вайны іх было нямала ў букіністычных кнігарнях па ўсім свеце, трэба было толькі мэтанакіравана займацца выяўленнем і закупкамі. І ўжо ў 1968 годзе бібліятэка налічвала ў сваіх зборах 6500 кніг.

## Усебеларускі краўдфандынг

15 мая 1971 года бібліятэка афіцыйна аформілася ў асобную ўстанову — Беларускую бібліятэку і музей імя Францішка Скарыны. Гэта адбылося пасля таго, як святарам удалося набыць выстаўлены на продаж дом, што месціўся праз дарогу ▸

Па к'юар-кодзе — кніга Аляксандра Надсана «**Біскуп Чэслаў Сіповіч: сьвятар і беларус**».



СА ЗБОРУ БЕЛАРУСКАЙ БІБЛІЯТЭКІ І МУЗЕЯ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

**Уваход у бібліятэку.**

ад Марыян-хауса. Купля была вельмі своечасовай, бо магчымасці самога Марыян-хауса ўжо зусім не адпавядалі патрэбам захавання такой вялікай калекцыі: пад цяжарам паліц банальна праламалася падлога.

Каб набыць новы дом, біскуп Сіповіч абвясціў кампанію па зборы сродкаў. Іх збіралі сярод беларусаў па ўсім свеце. Лонданскія святары аддавалі значную частку сваіх заробкаў, каб выплаціць пазыку за будынак, а дзясяткі суродзічаў рабілі ахвяраванні і пакідалі бібліятэцы грошы ў спадчыну. Было разуменне таго, што сур'ёзны навукова-акадэмічны асяродак на Захадзе для паўнавартаснага беларускага жыцця за межамі СССР жыццёва неабходны. Беларускі пісьменнік

**Прадпрымальны беларус-бухгалтар дапамог зрабіць удалыя інвестыцыі, якія стварылі для Скарынаўкі надзейную грашовую падушку**



ФОТА ЯРАСЛАВА КРЫВОГА

з Польшчы Сакрат Яновіч назваў лонданскую бібліятэку «акном да беларускай культуры на Захадзе».

«З усіх праектаў і пачынанняў біскупа Сіповіча Бібліятэка імя Францішка Скарыны сталася найбольш трывалай і даўгавечнай, — пісаў айцец Аляксандр Надсан. — Яна і цяпер стаіць як помнік любові аднаго чалавека да свайго народа і Бацькаўшчыны — любові, якую не змаглі знішчыць




ФОТА ІГАРА ІВАНОВА

**Лагерная роба Ларысы Геніюш**, якая захоўваецца ў музеі.

### Музей і архіў

Разам з бібліятэкай адразу, як частка адной установы, ствараўся і музей. Ён мае цікавую калекцыю картаў пачынаючы ад XVI стагоддзя — іх, паміраючы, перадаў сын Радаслава Астроўскага Віктар, а таксама тканін, дакументаў часоў Беларускай Народнай Рэспублікі, слуцкія паясы, лагерную робу Ларысы Геніюш часоў яе зняволення ў ГУЛАГу, рукапісы Якуба Коласа і Янкі Купалы.




ФОТА ІГАРА ІВАНОВА

**Калекцыя арыгінальных здымкаў з этнаграфічнай экспедыцыі пад кіраўніцтвам Вацлава Ластоўскага** 1920-х гадоў. Захоўваецца ў архіве пры Бібліятэцы імя Скарыны.



У музейнай зале.

ці аслабіць гады жыцця
на чужыне».

Нягледзячы на ахвярнасць многіх беларусаў, фінансавае становішча бібліятэкі доўга было няпростым. І толькі ў 1980-я гады прадпрымальны беларус-бухгалтар дапамог зрабіць удалыя інвестыцыі, якія стварылі для ўстановы больш-менш надзейную грашовую падушку.

Звалі гэтага чалавека Павел Асіповіч. Ён быў старшынёй Згуртавання беларусаў у Вялікай Брытаніі і сузаснавальнікам Англа-беларускага таварыства.

### Аляксандр Надсан

Найбольшы росквіт Скарынаўскай бібліятэкі звязаны з іменем айца Аляксандра Надсана (1926–2015) — самага маладога са святароў Каталіцкай місіі ў Лондане, якія пасяліўся ў Вялікабрытаніі ў 1946 годзе.

Пры ім бібліятэка набыла прыблізна палову сваіх старадрукаў, то-бок выданняў, што пабачылі свет да XIX стагоддзя. Усяго такіх выданняў у Скарынаўцы каля дваццаці: невялікі фрагмент скарынавых Кніг Царстваў, два Статуты Вялікага Княства Літоўскага, «Апісанне еўрапейскай Сарматыі» Аляксандра Гваньіні, «Сабраніе прыпадкаў» супрасльскага друку і іншыя.

Як святар, айцец Надсан, адведваючы беларускія асяродкі, двойчы аб'ехаў вакол свету. І ніколі не вяртаўся з гэтых паездак з пустымі рукамі: суродзічы пастаянна перадавалі праз яго свае назапашаныя скарбы ў Скарынаўку.

### «Беларусы былі разумныя»

Рэгулярным карыстальнікам беларускай бібліятэкі цягам многіх гадоў быў Гай Пікарда (1931–2007) — чалавек энцыклапедычных ведаў, юрыст паводле адукацыі, знаўца музыкі і кулінарыі. Па словах Джыма Дынглі, аднаго з першых сяброў Апякунскай рады бібліятэкі, Пікарда адкрыў свету скарбы беларускай царкоўнай музыкі. Яму ж належыць аўтарства першага англамоўнага турыстычнага даведніка па Мінску. Пікарда выдатна адчуваў беларускую мову, ведаў нашу гісторыю і звычаі ▶

СА ЗБОРУ БЕЛАРУСКАЙ БІБЛІЯТЭКІ І МУЗЕЯ ІМЯ ФРАНЦЫШКА СКАРЫНЫ



**Гай Пікарда** на вуліцы Лондана.

▶ і неверагодна прыгожа гаварыў пра іх па-англійску. Вывучаючы Беларусь, гэты чалавек, які сцвярджаў, што ў яго жылах цякла брэтонская і ірландская кроў (але магчыма, гэта была яго прыдумка, выглядае, што ён быў французам і англічанінам па паходжанні, магчыма, з дамешкам яўрэйскай крыві), пакінуў запавет, каб пасля смерці ягоны прах пахавалі ў Мінску — і сапраўды ён знайшоў спачын каля Чырвонага касцёла.

Таксама многія гады працавала з фондамі бібліятэкі Вера Рыч (1936–2009) — журналістка, паэтэса і таленавітая перакладчыца. Сёлета, дарэчы, спаўняецца 50 гадоў першай і дагэтуль найбольш поўнай англамоўнай анталогіі беларускай паэзіі — «Як вада, як агонь» (*Like Water, Like Fire*) — у перакладзе Веры Рыч. Пасля смерці адна частка яе праху была пахаваная ў беларускай царкве ў Лондане (дзень першага прыходу туды яна назвала галоўным днём свайго жыцця), а другая — ва ўкраінскім Каневе, непадалёк ад магілы яе ўлюбёнага паэта Тараса Шаўчэнкі.

Навукоўцы прыходзілі ў Скарынаўку не толькі самі, іх адмыслова адсочвалі ды запрашалі. Вось як Арнольд Макмілін, аўтар манументальнай «Гісторыі беларускай літаратуры: ад пачаткаў да сённяшняга дня» і яшчэ шасці манаграфій, з гумарам апісаў сваё знаёмства з беларускай дыяспарай:

«Беларусы былі разумныя: яны хутка даведаліся, што я пачаў працаваць над дактаратам пра беларускую літаратурную лексіку. Яны паслалі Гая Пікарда паглядзець, што я за птушка. Мы сустрэліся ў Белсайз Парку, ён і кажа: "Віно — важная справа, Арнольд". Мы пайшлі ў паб на некалькі кілішкаў. Потым, я думаю, ён даклаў, што я — не абсалютны вар'ят. У выніку я трапіў у бібліятэку, якая тады знаходзілася ў Марыян-хаусе. Бібліятэкарам быў а. Гарошка — даволі рэзкі чалавек, але ён вельмі дапамог мне знайсці патрэбныя тэксты XIX стагоддзя для маіх даследаванняў».



СА ЗБОРУ БЕЛАРУСКАЙ БІБЛІЯТЭКІ І МУЗЕЯ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

**Адам Мальдзіс з Верай Рыч.**

### Агент Мальдзіс

Першым даследчыкам з БССР, які змог папрацаваць у Скарынаўскай бібліятэцы, стаў у 1980-я літаратуразнаўца Адам Мальдзіс. Ён тады быў супрацоўнікам Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук БССР. Заадно беларускі даследчык нарэшце асабіста пазнаёміўся з Арнольдам Макмілінам, з якім яго звязвала рэцэнзія на першую англамоўную «Гісторыю беларускай літаратуры». Напісаць зусім станоўча пра працу «буржуазнага» даследчыка ў савецкія часы было немагчыма, таму Мальдзіс вынайшаў для яго працы адмысловую крытычную характарыстыку — «буржуазны аб'ектывізм». Але Макмілін становішча калег па той бок жалезнай заслоны разумеў, таму зла не трымаў. Пазнаёміўшыся ў Лондане, два прафесары моцна пасябравалі.

Савецкая цэнзура адбілася і на падарожных нататках Мальдзіса з двухмесячнай паездкі ў Вялікабрытанію. Іх фрагменты з'явіліся спачатку ў часопісе «Полымя», а пазней — у асобным раздзеле кнігі, складзенай з падарожных дзённікаў. Пасля першай публікацыі прафесар Мальдзіс атрымаў па галаве за добрыя ўзгадкі пра клопат суродзічаў у Брытаніі аб нацыянальнай культуры. І ў кніжным выданні тэкст быў адрэдагаваны так, што пасля азнаямлення з ім можна было падумаць, што ўсе тыя сустрэтыя Мальдзісам цудоўныя беларускія старадрукі, рукапісы і пазнейшыя выданні захоўваліся не ў Скарынаўцы, а ў Брытанскай бібліятэцы, а забаўныя размовы з Гаем Пікарда адбываліся толькі падчас прагулак па мясцінах і пабах, звязаных з жыццём і дзейнасцю ў Лондане Карла Маркса і Уладзіміра Леніна.



ФОТА EKO PRASETYO

Цяпер у фондах Скарынаўкі — больш за 30 000 розных беларускіх і беларусазнаўчых выданняў.
На фота: **Ігар Іваноў — аўтар артыкула пра айца Аляксандра Надсана.**

У незалежнай Беларусі прафесар Мальдзіс многія гады служыў «агентам» Скарынаўкі па закупках і падпісцы ў Мінску.

## Новае жыццё

Ніхто не адмяняў супольную для ўсіх бібліятэк свету праблему: з эпохі друкаваных кніг і часопісаў давялося перамяшчацца ў час інтэрнэт-кнігарняў, электронных бібліятэк і архіваў. Цяпер бібліятэка алічбоўвае выданні і дакументы.

Пры ёй ёсць памяшканне, у якім могуць пажыць прыезджыя даследчыкі. Караліна Мацкевіч, доктарка біблістыкі і ініцыятарка многіх цікавых беларускіх праектаў у Лондане, заснавала кніжны клуб. Працу Апякунскай рады аднавіў выдатны брытанскі навуковец Джым Дынглі.

Праз бібліятэку імя Скарыны беларуская паваенная дыяспара паказала прыклад, як можна ствараць жывую культуру. Хоць, вядома, лёс нашай бацькаўшчыны, будучыня мовы перадусім залежаць ад тых, хто застаецца ў Беларусі. ◆

Каб **наведаць** Беларускую бібліятэку і музей імя Францішка Скарыны ў Лондане, пішыце на электронную пошту: library@skaryna.org.uk
**Адрас**: 37 Holden Road, London, N12 8HS United Kingdom
Дабрацца з цэнтральнага Лондана: падземкай да станцыі **Woodside Park** (Паўночная лінія ў кірунку *High Barnet*), перайсці па мосце і праз 50 метраў ад станцыі звярнуць управа на *Holden Avenue*, якая прывядзе да самой бібліятэкі.
Інтэрнэт-сайт: skaryna.org.uk

## Скрадзеная кніга Скарыны

У 1997 годзе ў «Нашай Ніве» з'явілася сенсацыйная навіна: Бібліятэка імя Францішка Скарыны ў Лондане здолела набыць адразу пяць кніг Скарыны, пераплеценых у адным томе.

Яны былі галоўным прадметам гонару бібліятэкі ўсяго некалькі гадоў. У студэнцкім доме побач з бібліятэкай жыло некалькі беларускіх студэнтаў тэалогіі, а ў вольных пакоях часта гасцявалі нашы суайчыннікі. Кожнаму госцю а. Аляксандр Надсан паказваў усе тамтэйшыя скарбы. Адзін з такіх гасцей, Іван С-юк — звычайны віцебскі хлопец на выгляд, — змог абдурыць айца: падгледзеў, дзе захоўваліся ключы ад шафаў, і перад самым сваім ад'ездам украў кнігу Скарыны.

Пазней мы даведаліся, што ён — сам ці з дапамогай іншага жыхара студэнцкага дома — спрабаваў скрасці і Кітаб беларускіх татараў, але нешта перашкодзіла яму забраць той вялікі том з сабой.

Айцец Аляксандр заўважыў прапажу ўвечары, калі самалёт з рабаўнікам ужо прызямліўся ў Маскве.

Надсан быў літаральна раструшчаны, ледзь дыхаў: яго даверу да людзей быў нанесены страшны ўдар. Брытанская паліцыя нічым дапамагчы не магла, хоць імя і пашпартныя звесткі хлопца былі вядомыя. Падключыць беларускіх праваахоўнікаў айцец Надсан не змог.

Кажуць, што ў такіх выпадках скрадзеныя рэчы трымаюць ціха шмат гадоў, перш чым іх паспрабуюць прадаць. Том складаецца з пяці кніг (Іова, Прытчаў, Ісуса Сірахава, Эклезіяста і Прамудрасці Божай), злучаных разам пераплётам XVII стагоддзя з дошак і карычневай скуры.

Чаму стаў магчымы крадзеж кнігі?

Трымаць рэчы ў парадку не было звычкай а. Аляксандра. Ён цудоўна функцыянаваў у хаосе. Пра справы бяспекі ў бібліятэцы ён зусім не задумваўся, а ўсім беларускамоўным людзям абсалютна давяраў.

Бібліятэка будзе ўдзячная за любую інфармацыю, якая дапаможа паскорыць вяртанне самага каштоўнага ейнага набытку.



WIKIMEDIA COMMONS

**Сядзіба Ільі Рэпіна ў Здраўнёве.** «Маленькая, фантастычная, але не скажу каб вельмі прыгожая пабудова», пісаў пра яе сучаснік. Але мастаку вельмі падабалася пагружэнне ў Беларусь. Ірвалася сюды і ягоная жонка — нават пасля разводу.

# Святло Рэпіна

## Ілья Рэпін быў зачараваны Дзвіной, «мацаў» беларусаў і не мог наталіцца світаннямі

**Калі ў 1892 годзе мастак выбраў для лецішча занядбаную сядзібку пад Віцебскам, ён першнаперш кінуўся ўмацоўваць бераг ракі, каб сціплы тады яшчэ дамок разам з сям'ёй мастака не змыла паводкай. Піша Святлана Воцінава.**

Дзвіна зачаравала Рэпіна — настолькі, што ён пажадаў быць пахаваным пры ёй. Так і паведаміў малодшаму сябру, віленскаму памочніку пракурора і пісьменніку сярэдняй рукі Аляксандру Жыркевічу, паказаўшы ў бок выкладзенай каменнем ямiны, у якой гасілі вапну. На заўвагу Жыркевіча, што ўвесну вада гэтую яміну лёгка затопіць, махнуў рукой: не бяда. Рака, маўляў, за такое супрацiўленне — 300 метраў берага ўмацаваў — мае поўнае права адпомсціць.

Мастак купіў Здраўнёва амаль у 48 гадоў — паважны век. Ён нярэдка жартаваў на тэму ўласнага пахавання: то жадаў «быць закапаным у садзе з пасадкаю дрэва» (і «скрыні не трэба»), то шкадаваў, што далёка «паўзці да Везувія» (а інакш вызваліў бы родных ад клопату і расходаў). Няшчасны забойца сына Іван Жахлівы, «этнаграфічна бездакорныя» волжскія бурлакі і заспеты за напісаннем ліста да султана «чартоўскі народ» запарожцы — так шмат ужо створана. Але і жыцця яму адмерана нямала — яшчэ поўныя 38 гадоў.

## Вялікі «мацала»

Першае, што было напісана ў Здраўнёве, — мужык-беларус. Сімвалічна. Толькі Рэпін убачыў нашага земляка зусім не такім, якім яго прынята апісваць. «Слаўны народ беларусы, — занатаваў мастак, — вельмі падобныя да хахлоў, толькі больш працавітыя, больш сціплыя і больш дабрадушныя». І ніякіх вам «цёмныя і забітыя», ніякага каўтуна ў валасах. Зірніце: вясёлы тварам, румяны шчокамі, вачыма цікаўны, целам — і зграбны, і моцны, станам і вопраткай — франт.

Мастацтвазнаўцы гавораць пра «фірмовы» ўдар пэндзлем Рэпіна і «фірмовае» ж незафарбоўванне фрагментаў палатна. Але на першае месца трэба паставіць яго ўнікальную здольнасць разгледзець сутнасць сваёй мадэлі, счытаць з яе нешта нябачнае, але непазбежнае, іншымі словамі — лёс.

Возьмем партрэт Аляксандра Керанскага. Хоць і з «банапартавым» вокам, але ўсім ясна, што чалавек ненадоўга, каліф на гадзіну. Іначай Рэпін не зславіў бы таго сонечнага зайчыка, што быў ублытаўся ў валасы персанажа.

Нездарма ён названы «великим щупальщиком» чалавечай істоты, які «абмацвае твары, фігуры і душы» так, што, як пісаў Васілій Розанаў, «страшна жывому чалавеку трапіць пад яго пэндзаль».

Так і ў селяніне-беларусе — намацана Рэпіным (і прытым з лёту, адразу) тое, што аднаго гэтага Сідара ператварыла ў зборны вобраз цэлага народа.

## *Il luce di Repin*

Мастаку дастаткова было ўстаць на світанні і адбегчы ад дома ў бок дзвінскага берага метраў на трыццаць — і ён закахаўся. У тутэйшае сонца. Сёння наддзвінская раніца работы Рэпіна захоўваецца ў мастацкай галерэі горада Кіля (узбярэжжа Балтыйскага мора, Германія).

Здраўнёўскае ж сонца пазалочвае сваім ранішнім промнем сакавіты здраўнёўскі ўзлесак на іншай карціне — «Дуэль». Мастак выставіў карціну ў Італіі — і яе адразу ж купілі. Промень італьянцы назвалі «святлом Рэпіна» — *il luce di Repin*.

Іншымі словамі, помсціць свайму новаму суседу Дзвіна не збіралася, а наадварот: дарыла натхненне. Дарэчы, над гэтай «Дуэллю» Леў Талстой плакаў ад замілавання і захаплення.

Над гэтай, бо ёсць іншыя. Так здаралася з многімі палотнамі Рэпіна праз яго непазбыўную звычку ўвесь час нешта мяняць-перапісваць (часам нават і псуючы, а пасля шкадаваць: чаму не адцягнулі?).



**Аляксандр Керанскі** (1881–1970), міністр-старшыня Часовага ўрада Расіі (1917 год). Партрэт работы Ільі Рэпіна, 1917–1918 гады.

«Дуэль», што трапіла ў Італію, вядомая яшчэ пад назвай «Даруйце!». Крыўдзіцель, атрымаўшы смяротную рану, усведамляе, што не меў рацыі. Апошнім поглядам ён просіць пакрыўджанага прабачыць і адначасова дарue яму сваё забойства. Другі варыянт «Дуэлі», таксама пісаны ў Здраўнёве, — працілеглы па сваёй сутнасці: няма ў ім ні раскаяння, ні прабачэння. Ахвяра ў апошнюю хвіліну жыцця акружана ўсхваляванымі секундантамі, а самотны забойца ўжо запхнуў пісталет у кішэню, адышоў далёка ўбок і знервавана пхае тытунь у люльку.

Сюжэты розныя, але абодва — пратэсныя. Бо дуэлі былі забароненыя ў Расійскай імперыі на працягу больш чым ста папярэдніх гадоў. А ў 1894-м афіцэрам іх раптоўна зноў дазволілі — нібыта з мэтай абароны іх годнасці.

Такі варварскі метад — на парозе XX стагоддзя з усімі яго цывілізацыйнымі дасягненнямі. А мастак таму і мастак, што адчувае тонка.

## Геніяльна суб'ектыўны

Але вось у чым парадокс: на палатне Ілья Рэпін піша не тое, што на паперы. Ці, можа, не разумее, пра што гавораць людзям яго карціны? Жыркевіч, згаданы віленскі памочнік пракурора, калі Рэпін звярнуўся да яго з просьбай прыслаць выпіскі са спраў аб афіцэрскіх дуэлях, ушчуваў мастака: хіба ж можна цяпер маляваць дуэлі? «Я заўважыў яму, што карціна яго будзе пратэстам і супраць абуральнага закона аб дуэлях. Ён не хоча гэта прызнаць», — запісаў Жыркевіч у дзённіку.

У Аляксандру III, які падпісвае дакумент аб легалізацыі дуэляў, ▸

Рэпін бачыць «праўдзівую, светлую, рускую, шырокую, народную душу». «Калі б Расія павінна была выбіраць сабе цара, — піша ён, — яна зрабіла б найлепшы выбар, спыніўшыся на Аляксандру III». Самадзяржаўе ў Рэпіна — «браня дзяржыморды», які «ўзвялічваецца сваімі рабаўніцкімі прывілеямі, пускаючы пыл у вочы дурнямрабам і дармаедам з прапашчым сумленнем», а самадзержца ён «абажае»: «Акрамя ўсіх даброт, якія Гасудар здзейсніў для нас, мастакоў, і ў прыватнасці для мяне, я яшчэ намнога раней проста абажаў гэтага Манарха».

«Я быў у вялікім захапленні ад наведвання і, галоўнае, ад такога шчырага задавальнення, з якім Цар глядзеў на мае работы», — успамінае ён сустрэчу з імператарам на выставе — той самы момант, калі высокая асоба пажадала набыць яго «Запарожцаў». Менавіта за тыя царскія грошы, на трэцюю частку заплачанага за «Запарожцаў», Рэпін і набыў сядзібу пад Віцебскам.

Калі ў тым жа 1894-м, у год вяртання дуэляў, манарх, які іх вярнуў, памірае, Рэпін захапляецца яго апошнімі днямі, напоўненымі малітвамі «сапраўдна рускага чалавека»: «Як ён стаў на калені! Неймаверна!»

Даследчыкі творчасці Рэпіна ў нашы дні, тлумачачы такую супярэчлівасць, называюць яго «геніяльна суб'ектыўным». Хоць сярод некаторых з іх існуе даволі ўстойлівае меркаванне, што Ілья Яфімавіч быў, папросту кажучы, не надта разумны — ва ўсім, што не датычыла мастацтва.

### Чыноўнікі гады, а імператар добры

«І што гэта за абавязак для мастака — мець прагрэсіўны ўплыў на публіку? — разважаў неяк Рэпін. — А калі ён не мысляр? Ён можа быць чалавекам невысокай адукаванасці і г. д.». «Мастак — не прапаведнік, ён хутчэй сфінкс, якога трэба разгадаць», — пісаў ён у адным «павучальным» лісце. Сам Рэпін — таксама такі сфінкс.




**На Заходняй Дзвіне. Узыход сонца.** Ілья Рэпін, 1892 год.

«Што можа быць больш агідным, чым улада без розуму?» — абураецца ён. «Гэтая ўлада сваёй бессэнсоўнай злосцю да такой ступені апаскудзіла ўсё жыццё, што нікому ўжо не патрэбная, акрамя катаў», — піша ён далей пра «агіднае крывавае марыва смерцяў», якім «Расія прасякнута наскрозь». «Здаецца, ужо зямля стогне ад бясконцых павешаных», «Пуцяводная зорка жыхароў Расіі — усіх сумленных грамадзян — шыбеніца!», «Забіваць на карысць Айчыны лічыцца справай вялікай дзяржаўнай важнасці. Узнагароды, пашана, слава».

Так, Рэпін бэсціць сістэму апошнімі словамі — і прытым усё жыццё піша партрэты імператараў ды членаў Дзяржаўнай рады і захапляецца




### Пропаведзь Кунцэвіча

Мясцовая гісторыя вельмі цікавіла Рэпіна. Ён быў знаёмы з «летапісцамі Віцебшчыны» Аляксеем Сапуновым і Уладзімірам Стукалічам, ездзіў з сынам у Полацк «глядзець старыну», цікавіўся асобай Язафата Кунцэвіча і яго «эпізодам з беларусамі». «Пропаведзь Кунцэвіча ў Беларусі» — малюнак памерам 29 на 40 сантыметраў — знаходзіцца ў Віцебскім краязнаўчым музеі.

імі. «Гасудар стварае неймаверна сімпатычнае ўражанне. Ён вельмі добры, мяккі і ласкавы. Размаўляе пра многія рэчы проста і сур'ёзна. Ён вельмі прыгожы і мае цудоўную фігуру. А ведаеце, што ў Гасудару 2 аршыны і 7,5 вяршкі росту? Учора я адмераў гэтую метку на сваім палатне». Гэта ўжо пра Мікалая II, калі атрымаў замову напісаць і яго партрэт.

Але не спяшаймася ўпікаць мастака ў няшчырасці. Калега Аляксандр Бенуа тлумачыў такую флюгернасць тым, што меркаванні Рэпіна вельмі залежныя ад настрою моманту, што апошняе ўражанне выходзіць у іх на пярэдні план, перакрэсліваючы ранейшыя. Рэпін-мастак аддзяляецца ад Рэпіна-чалавека, і пытанне, наўмысна ці ненаўмысна ўскрывае Рэпін «палітычныя моманты», аказваецца лішнім.

### Не хацеў азіяцкіх дурыкаў

Калі адным словам ахарактарызаваць Ілью Рэпіна, дык найлепш пасуе яму «рабацяга» або «прасцяк».

«Вы ж ведаеце, які я просты, звычайны чалавек, а ставіце мяне на такі п'едэстал, што, калі б я на яго ўзлез, вы б самі разрагаталіся», — пісаў ён таму самаму Аляксандру Жыркевічу. З праявамі «барства» Рэпін змагаўся, багаццем пагарджаў. «Сёмгу, шакалад, торты і іншыя далікатэсы Рэпін лічыў непатрэбнай, марнай раскошай, а ананасы, апельсіны і падобную на іх ежу называў азіяцкімі дурыкамі», — успамінала Людміла Шаўцова, пляменніца жонкі мастака. Тры гады ў канцы 1890-х дзяўчынка жыла ў Рэпіна ў яго пецярбургскай кватэры і разам з яго малодшай дачкой Таняй вучылася ▶

### «Толькі ўбогі можа скардзіцца, што яго заядаюць жыды»

З Аляксандрам Жыркевічам Рэпін сябраваў каля дваццаці гадоў, але сяброўства іх абарвалася. Спачатку яно азмрочылася фактам адкрыцця ў Вільні ў 1904 годзе пры непасрэдным удзеле Жыркевіча музея памяці графа Міхаіла Мураўёва. Таго самага, Вешальніка. «Прызнаюся Вам, што пасля Вашага клопату аб мураўёўскім музеі ў мяне рука не падымалася пісаць Вам больш! Варта было старацца! Ды чым хутчэй згарэў бы дзе-небудзь гэты агідны гной дзяржыморды, тым лепш», — напісаў яму Рэпін праз пэўны час.



WIKIMEDIA COMMONS

**Партрэт Аляксандра Жыркевіча.** Ілья Рэпін, 1894 год.

## Рэпін разышоўся з найбліжэйшым сябрам, калі той адкрыў музей Мураўёва

Тлумачэнне ўчынку Жыркевіча вядомае з яго размовы з пісьменніцай Элізай Ажэшка. Ён апраўдваўся перад ёй тым, што Мураўёў у параўнанні з Напалеонам, Бісмаркам ды іншымі дзяржаўнымі дзеячамі Еўропы, «з галавы да ног залітымі чалавечымі крывёй і слязьмі», выглядае як «палітычнае немаўля», а між тым гэтым злачынцам, «якія любілі радзіму і парушалі агульнапрынятыя законы, узводзяць жа ўдзячна помнікі, а дакументы, якія сведчаць пра іх злачынствы, збіраюцца ў асаблівыя любоўна зладжаныя музеі».

Ажэшка Жыркевічу не даравала. Рэпін жа сяброўства з ім працягнуў. Толькі зусім ненадоўга, на два гады — пакуль Жыркевіч не прыслаў яму сваю публікацыю ў выданні чарнасоценца Паўла Крушавана. «Калі я ўбачыў на прысланай Вамі кніжцы імя Крушавана, я адразу ж кінуў гэтую кніжку ў агонь! — абураўся Рэпін у апошнім лісце да былога ўжо сябра. — Нікчэмны той светапогляд, які гарцуе на пагромах жыдоў і палякаў. Толькі ўбогая погань можа скардзіцца, што яе заядаюць жыды».

А пра палякаў Рэпін адгукаўся як пра народ, які цярпеў мукі Тантала, «увесь час свядома жывучы сваім грандыёзным мінулым, сваёй велічнай гісторыяй». У водгуку на ленінскі дэкрэт ад 29 жніўня 1918 года аб незалежнасці польскага народа ён напісаў: «Краіна, якая дала свету Каперніка, Шапэна, Міцкевіча, Матэйку… вартая поўнай свабоды культываваць свой дух, і кожнае высакароднае сэрца ўзрадуецца магчымасці з'яўлення новых сусветных адкрыццяў чалавецтву ад гэтай расы, якая кіпіць талентамі боскага полымя». Праўда, Рэпін не быў бы Рэпіным, калі б не знайшлося ў гэтым яго водгуку пару слоў пра «вялікага Роса-вызваліцеля», якому ён «пры адраджэнні Польшчы» складае «вечны неўвядальны вянок».

у Васілеваастраўскай гімназіі. «Ён патрабаваў ад нас простасці ва ўсім: у паводзінах, вопратцы, ежы, — распавядала яна пра той час. — Памятаю, як сурова ён выгаворваў нам за тое, што мы адмаўляліся ад сачавічнай поліўкі». Сняданкі, пісала далей пляменніца, былі самыя сціплыя: хлеб, галандскі сыр, абаранкі, гарбата. «Памятаю, бывала вяндліна — свая, са Здраўнёва».

## А дзяцей падзялілі

Да куплі Здраўнёва Рэпіны ўжо пяць гадоў як былі ў разводзе і дзяцей «падзялілі»: Ілья Яфімавіч выхоўваў малодшых, Таню і Юру, а Вера Аляксееўна засталася са старэйшымі, Верай і Надзяй. Але гэта быў інтэлігентны развод, і не толькі ўсе чацвёра дзяцей, але і былая жонка, і цесць, дзядок-архітэктар Аляксей Шаўцоў, праводзілі цёплыя месяцы ў Здраўнёве. Часам бывала, што Рэпін ужо з'язджаў у Пецярбург, а Вера Аляксееўна яшчэ заставалася і ў халодны сезон працягвала жыць у сядзібе былога мужа пад Віцебскам.

Дарма што ад горада блізка — дабірацца было складана (зрэшты, як і цяпер). «А ехаць так, — пісаў Ілья Яфімавіч свайму госцю Аляксандру Жыркевічу, — у Віцебск, а з Віцебска ўзяць рамізніка (каштуе два рублі). І сказаць яму, што трэба ехаць на Слабаду, на Койтава ў Здраўнёва — гэта і ёсць наша гняздо. Ад Віцебска 15 вёрст, ехаць праз паром. Або, калі вада будзе, як цяпер, высокая, сесці Вам у Віцебску на параход, і як будзеце пад'язджаць да Койтава, загадайце даць свісток, а пад'язджаючы да Здраўнёва, гэта значыць, да нас, дайце другі, мы вышлем пад Вас лодку і здымем Вас (на параходзе каштуе 15 кап.). Але толькі ж напішыце, калі можна, калі Вы будзеце ў Віцебску, я, мабыць, прыеду па Вас на сваёй таратайцы і клячы рабочай — не паспелі мы яшчэ тут абзавесціся нічым як след. Усё старое, распаўзаецца і развальваецца — столькі клопатаў!»




**«Мастак — не прапаведнік, ён хутчэй сфінкс, якога трэба разгадаць».** Ілья Рэпін, аўтапартрэт.

## «Сесці Вам у Віцебску на параход, мы вышлем пад Вас лодку і здымем»

«Новы дом Рэпіна — маленькая, фантастычная, але не скажу каб вельмі прыгожая пабудова», — так пра Здраўнёва напіша ў дзённіку той самы госць. Куплены Рэпіным дом сапраўды быў у кепскім стане. Але, мабыць, такі яму быў патрэбны: каб працаваць, працаваць, працаваць.

1890-я аказаліся для яго не вельмі ўдалымі ні ў асабістым, ні ў творчым жыцці, і яго неўтаймоўную энергію «рабацягі» мусова было некуды дзець. Здраўнёва пасавала як найлепш. «У мяне зусім закруцілася галава ад клопатаў. Сенакос, уборка хлеба, дастаўка лесу, цэглы, пяску, гліны, моху, драніцы, пільшчыкаў, шалёўкі, фарбаў, алівы. Вязаць снапы, вазіць з поля, рэстаўраваць гумно, вывозіць шчэбень. Дзякуй Богу, прыйшло на падмогу 8 чал. салдацікаў. У антракце, ранкамі, я паспяваў з імі карчаваць пні і завяршыць прасекі ў лесе, якія мы пачалі, жартуючы, на мяжы».

«Рэпін увесь сышоў у гаспадарку, і мне было

### Простасці ва ўсім

Вядомы віцебскі фатограф Сігізмунд Юркоўскі, які першым у свеце сканструяваў імгненны фотазатвор, таксама бываў госцем мастака. Зрабіў некалькі здымкаў, паводле якіх узнаўляліся інтэр'еры ў Здраўнёве сучасным, музейным.

У той час у майстэрні вісела незавершаная работа «Спакушэнне Хрыста», і Юркоўскі ўсё намагаўся сфатаграфаваць яе, але Рэпін адводзіў фотаапарат убок, каб карціна не трапіла ў аб'ектыў. Здымкі, зробленыя ў майстэрні, мастак папрасіў не даваць нікому.

Сюжэт спакушэння мастаку не даваўся. З каго ён толькі не пісаў абодвух герояў, Сатану і Хрыста! Стварыў прынамсі дзевяць амаль што аднайменных палотнаў. Бо і з назвай ніяк не мог вызначыцца. Дзе ж тут напісаць, калі невядома нават, у якім дакладна сэнсе прамовіў Хрыстос да д'ябла: «Хадзі за мной, Сатано» ці «Адыдзі ад мяне, Сатано».

сумна бачыць, што за лета ён усяго толькі два партрэты дочак пачаў», — непакоіцца віленскі госць. «Ілья Яфімавіч падымаецца а 4, 5, 6 гадзіне і ўвіхаецца па гаспадарцы. А 7-й гадзіне — чай. А першай — сняданак. А 3-й зноў чай. Абед а 7-й гадзіне вечара. А 9-й усе кладуцца спаць», — так ён апісвае здраўнёўскую штодзённасць. Рэпін жа працягвае «ваяваць» з Дзвіной і будаваць планы: «Набярэжная мая цэлая, вада была невялікая, толькі знізу, аршыны тры, павымывала грунт з-пад камянёў, і яны аселі, трэба засыпаць шчэбнем... Але ў мяне цяпер іншая задума — надбудова над домам мезаніна ў выглядзе вежы. Цяпер толькі лесу купіў на 371 рубель. Справа за цеслярамі».

Да такога вось ладу жыцця і імкнулася душа Рэпіна. «На вакзал ён мяне завёз на сваёй брычцы, сваімі коньмі, сам правіў», — сведчыць Жыркевіч. І дадае, што па развітанні Рэпін даўся ў горад з мужыком — купляць конскую збрую і розныя рэчы для гаспадаркі. Уявіце сабе пяцідзесяцігадовага Рэпіна,



NASLEDIE-ZHIRKEVICH.RU

**Сям'я ў Здраўнёве**, 1894 год.



RG.RU

**Віцебск** на гравюры Карла Веермана.

акадэміка, без некалькіх гадоў рэктара Пецярбургскай акадэміі мастацтваў, за такімі заняткамі.

### А сядзібу — на дровы

Раскажы пра свае планы, каб Бог з іх пасмяяўся. У Здраўнёве пахаваны не сам мастак, а ягоны бацька, адстаўны салдат Яфім Васільевіч Рэпін. Сам Рэпін апошні раз жыў тут улетку 1904 года, а пасля ў яго з'явіліся новая жонка, экзальтаваная журналістка Наталля Нордман, і новая сядзіба «Пенаты».

У Здраўнёве засталіся сваякі Рэпіна. Адна з дачок, Таццяна, пасля рэвалюцыі была настаўніцай у вясковай школе, што адкрылася проста ў сядзібе, у 1930-м пераехала з сям'ёй ужо ўласнай дачкі ў бацькавы «Пенаты», а пазней — выехала ў Францыю. А сядзібу ў Здраўнёве разабралі на дровы. Адбудуюць яе ў 1989 і 2000 годзе. ◆

**«Пенаты»**

у якіх Рэпін правёў апошнія 30 гадоў свайго доўгага жыцця, месціліся зусім недалёка ад сталічнага Пецярбурга, але гэта была ўжо тэрыторыя аўтаномнага Вялікага Княства Фінляндскага. У Фінляндыі гэтая сядзіба засталася і пасля яе аддзялення ад Расіі ў 1918 годзе, а паколькі Рэпін адсюль не выязджаў, то жыхаром (але не грамадзянінам) гэтай краіны да канца жыцця застаўся і ён. А ў Расіі, ужо савецкай, пасля таго ніколі не быў, хоць з сярэдзіны 1920-х бальшавікі настойліва запрашалі славутага мастака, як і іншых эмігрантаў, вярнуцца на радзіму.

Пасля смерці 86-гадовага Ілы Яфімавіча ў верасні 1930 года ў сядзібе працягвалі жыць ягоныя дзеці Вера і Юрый. А вось 28-гадовы сын Юрыя Дзій, адурманены бальшавіцкай прапагандай, у лютым 1935-га перайшоў мяжу ў савецкі рай, якая пралягала ўсяго за 6 кіламетраў ад «Пенатаў», і заплаціў за гэта жыццём. Яго расстралялі 6 жніўня 1935 года, назаўтра пасля дня нараджэння славутага дзеда.

Калі ў 1939 годзе пачалася савецка-фінская вайна (гл. пра яе артыкул Андрэя Акушкі ў № 11/2019 «Нашай гісторыі»), нашчадкі Рэпіна былі разам з іншымі жыхарамі гэтых мясцін эвакуіраваныя фінскімі ўладамі ўглыб Фінляндыі і больш сюды не вярнуліся. Мястэчка Куокала, у якім месціліся «Пенаты», па ўмовах Маскоўскага міру 1940 года разам з усім Карэльскім перашыйкам адышло да СССР, як аказалася, назаўсёды. Пасля Другой сусветнай вайны, у 1948 годзе, яно атрымала назву Рэпіна. Цяпер гэта Курортны раён Санкт-Пецярбурга.

# «БЕЛАРУС»
## Годнасць і энергія

Піша мастацтвазнаўца
Надзея Вусава.

Спрэчкі аб тым, хто быў прататыпам рэпінскага «Беларуса», ішлі даўно. Называлі дзвінскага плытагона Сцяпана Крывенку, які памёр у 1932 годзе. Яго прызнавалі ў партрэце і старажылы, і нават ягоныя ўнукі, якія вучыліся ў здраўнёўскай школе, арганізаванай унучкай Рэпіна. Сцяпан сапраўды пазіраваў Рэпіну для карціны «Бітва Давіда з Галіяфам».

Але ў БССР не было вядома, што ў 1926 годзе вядомы беларускі дзеяч, колішні кіраўнік урада Беларускай Народнай Рэспублікі Язэп Варонка, які ў той час жыў у ЗША, адважыўся напісаць ліст самому Рэпіну ў Фінляндыю з просьбай адказаць на гэтае пытанне. І атрымаў ад Рэпіна адказ! Ён быў надрукаваны ў першым нумары эмігранцкага часопіса «Беларуская трыбуна» (Чыкага) 26 кастрычніка 1926 года. Вось што пісаў Варонку Рэпін:

«“Беларус” напісаны ў 1892 годзе ў сядзібцы маёй Здраўнёва за 16 км ад Віцебска Вярхоўскай воласці, якая стаіць на рэчцы Заходняя Дзвіна. За рэчкай супраць нас жыў селянін Сідар Шавура, ён і пазіраваў мне, стоячы на паветры перад вокнамі маёй майстэрні. Шавуры — сям’я з некалькіх братоў і сёстраў. Сідар як старэйшы брат быў спадчыннікам дома па смерці бацькі; дом жа быў з дастаткам, заможны. Другі брат, Міхалка, быў цясляр і сталяр, трэці — школьны настаўнік. Сідар быў непісьменны, але меў характар трымаць у строгасці ўсю сям’ю. Сястра яго была сястрой міласэрнасці, прыгожая, здольная... Усё трымалася на ўладзе Сідара. Па словах меншага брата, ён ведаў на памяць шмат вершаў Лермантава і Пушкіна і гучна ды пачуццёва распяваў іх нават у полі і на дарозе. Карціна “Беларус” была набытая былой імператрыцай Марыяй Фёдараўнай і падараваная Рускаму музею Аляксандра III»*.

Праз некалькі гадоў Рэпін запрасіў сястру Сідара — сястру міласэрнасці — апекавацца сваёй захварэлай псіхічна дачкой Надзеяй.

### Легенда аб невідушчым

З рэпінскага ліста стала вядома, што «Беларус» — партрэт канкрэтнага чалавека, Сідара Шаўрова. Ён жыў у вёсцы Сахарава, што знаходзілася цераз Дзвіну насупраць маёнтка Рэпіна ў Здраўнёве. Прозвішча Сідара (як і назва вёскі Сахарава — некалі «Захарава») было зрусіфікавана — Шавура стаў Шаўровым.

* У каталозе Дзяржаўнага Рускага музея адзначаецца, што карціна паступіла ў 1901 годзе непасрэдна ад аўтара.

Сяляне ўпарта лічылі, што Рэпін выбраў менавіта Шавуру не проста так, а за незвычайнасць ягонага лёсу. У тутэйшых мясцінах бытавала легенда аб рэпінскім «Беларусе», якая грунтуецца на выпадку, які апісаны ў «Полацкіх епархіяльных ведамасцях», што выдаваліся ў Віцебску.

Быццам бы ў дзяцінстве хлопчык Сідар моцна хварэў: меў нарывы на твары. Маці звярнулася да мясцовай знахаркі-шаптухі, якая вышмаравала твар сына лячэбным «цудадзейным» зеллем. Паколькі мазь утрымлівала ртуць, дзіця раптоўна асляпла, але праз 10 гадоў зрок нечакана вярнуўся. Чутка пра такі цуд і дайшла таксама да Ільі Рэпіна, які паехаў у Сахарава, каб асабіста пазнаёміцца з выпадкам цудоўнага вылечвання.

І вось нібыта, пераплываючы на лодцы Дзвіну, Рэпін пачуў песню. Выдатны голас выканаўцы яго зачараваў. Таленавітым спеваком аказаўся малады Сідар Шавура! Высокі, статны, дужы — вось ён, сапраўдны беларус! Вось з каго трэба пісаць тып беларуса.

Прыгожа. Але дзеці Сідара абверглі гэтую легенду: бацька ніколі не быў сляпым. Хутчэй за ўсё, Сідар працаваў у Рэпіна на будаўніцтве сядзібы. А працы там было шмат, Рэпін наймаў дзясяткі сялян, сам працаваў з талакой. Там ён і ўгледзеў Сідара.

**Валасы.** Сідару на карціне 28 гадоў. Ён акуратна паголены і падстрыжаны, чырванашчокі, чарнявы, з прыгожымі вусікамі.

**Твар.** Каб пацешыць натуршчыка, каб яго твар быў жывы, не напружаны, дочкі Рэпіна Надзея і Вера па чарзе чыталі яму вершы. Адчуваецца, што Сідар з цікавасцю, асэнсавана і захоплена іх перажывае, яго твар адухоўлены, нават натхнёны, вочы глядзяць проста ў вочы гледача.

**Вопратка.** Апрануты ў ільняны армяк (тып світы), пад якім ружовая кашуля (ці з вышыўкай па гарлавіне, не зразумела). Так апраналіся сяляне паўночнай часткі былой Магілёўскай губерні. **Армяк** не просты, а фасоністы, з шалевым каўняром і сінімі адваротамі.

**Пояс.** Галоўнае ўпрыгожанне — доўгі, адмыслова завязаны зялёны пояс з воўны, мяккі, фабрычны, які насілі ў горадзе фурманы-ліхачы.

**Фон.** Гэта, фактычна, эцюд: прастора за фігурай пададзена ўмоўна-жывапісна, у прыгожым зялёным каларыце. Такі травяны фон быў арганічны і рытмічна звязаны з колерам пояса.

**Подпіс.** Фарсісты, прыгожы, нават віртуозны. Так Рэпін падпісваў карціны, калі быў задаволены і ўпэўнены, што праца завершана. Ён досыць часта перапісваў карціны па некалькі разоў, спрабуючы некалькі варыянтаў. Тут бачны вынік кароткай натхнёнай працы.


ДЗЯРЖАЎНЫ РУСКІ МУЗЕЙ

**«Манблан»**

Каб маляваць на пленэры, г. зн. на паветры, з улікам сонечнага святла, блікаў і рэфлексаў, Рэпін уладкаваў пляцоўку проста насупраць вокнаў майстэрні. Сяляне насыпалі горку, абклалі яе дзірваном. Мастак з гумарам называў яе «Манблан». Для апоры зладзілі нешта накшталт плота. Каб трапіць на гэты Манблан, трэба было прайсці па ліпавых прысадах міма пляцоўкі для гульні ў кракет.

Вера Фёдарава, унучка Шавуры, расказвала са слоў дзядулі: «Рэпін запрасіў яго сюды і сказаў, каб той яму пазіраваў. Сідар не зразумеў, што яму трэба рабіць. А ён кажа: “Ну, ты проста пастаіш, а я цябе буду маляваць”. Сідар здзівіўся, але згадзіўся. Партрэт пісаўся тры дні».

Рэпін прызнаваўся, што «на кароткі час улюбляўся» ў натуру, нават у адценне скуры і тканіну кашулі. Перажываў гэткі кароткі «раман» з натурай. Ён працаваў пэндзлямі практычна ўсляпую, стараючыся не адрываць погляду ад чалавека перад ім. Рукі самі выхоплівалі патрэбны пэндзаль, самі змешвалі фарбы — на падсвядомасці. Нараджаўся ▶

поўны жыцця, энергіі і каларыту эцюд. Нездарма пэндзаль Рэпіна называлі «хуткім». Гэта асабліва бачна ў відарысах рук і складак вопраткі.

### Нашчадкі захавалі фота

Сідар рана ажаніўся, жонка была маладзейшая за яго. Нарадзілася дзевяць дзяцей, якія гадаваліся «ў строгасці». Гаспадарка была моцная, заможная і вялікая — коні, каровы — у 1930-я Шавураў мусілі раскулачыць. Але не, усё нажытае было да таго моманту пароўну падзелена паміж дзецьмі (адзін з сыноў пабудаваў дом у Віцебску) — і кулакамі Шавуры не лічыліся.

Памёр Сідар у 1939 годзе, у 75 гадоў. На лясных могілках вёскі Сахарава ёсць яго магіла, побач — цэлае сямейнае пахаванне.

Яго сын-настаўнік даў некалі паэту Давіду Сімановічу фотаздымак бацькі, перададзены цяпер у Здраўнёўскі музей. На фота Сідар Шавура ў сталым узросце, але ўсё яшчэ ўражвае магутнасцю і годнасцю працоўнага чалавека, заснавальніка вялікага роду.

Адзін з праўнукаў Сідара Шаўрова, кандыдат навук Валерый Дамброўскі, стаў вядомым вучоным-арнітолагам, працуе ў Нацыянальнай акадэміі навук.

### Годны прадстаўнік нацыі

Сучаснікі з захапленнем прынялі «Беларуса», які красаваўся на адной з перасоўных выстаў.

«Майстэрскі пэндзаль Рэпіна стварыў сваімі смелымі шырокімі мазкамі тыповую і незвычайна жыццёвую постаць беларуса. Малады і прыгожы прадстаўнік Белай Русі, які свабодна абапіраецца ў сваёй белай світцы на жэрдку плота, схоплены пэндзлем мастака ў жывы момант гарачай гутаркі. Словы яшчэ гарацць на яго вуснах, яшчэ не паспела ў ім астыць узбуджэнне размовы, але яно ўжо падхоплена мастаком, і назаўжды захаваны і ажыўлены слаўны выраз твару маладога хлопца-беларуса», — пісаў у 1902 годзе карэспандэнт часопіса «Ніва», дзе ўпершыню быў надрукаваны гэты эцюд.

Беларуская нацыянальная інтэлігенцыя ў 1920-я гады зразумела вялікі сэнс гэтага «этнаграфічнага» эцюда з беларуса — як партрэт годнага прадстаўніка нацыі. Ен разбіваў каланіяльнае ўяўленне пра беднага беларуса: «хворага, худога, змардаванага, з бяскроўнымі вуснамі і запалымі павекамі, апухлымі нагамі і каўтуном у галаве», — якое стала стэрэатыпным пасля някрасаўскай «Чыгункі» 1864 года.

У карціне ўбачылі сімвал нацыі, якая абуджаецца да новага, лепшага жыцця. Малады селянін, прадпрымальны і працаздольны, які цэніць музыку і паэзію. Ён упэўнена глядзіць у будучыню. Гэта рэпінскі запавет нашаму народу.



**Сідар Шаўроў у старасці.** Гэтае фота яго сын-настаўнік перадаў Давіду Сімановічу, а той — у музей Здраўнёва. Пахаваны Сідар на могілках у Сахараве. Яго нашчадкі дагэтуль дагледаюць ягоную магілу.

### «Беларус» ніколі не быў у Беларусі

Рэпін называў свой рэалізм «простанародным», і ў савецкія часы яго назвалі веснікам «сацыялістычнага рэалізму». Яго карціны рэкамендаваліся да закупкі, яны мусілі быць у кожным рэспубліканскім музеі. Алене Аладавай, якая з сярэдзіны 1940-х фарміравала новыя зборы для пасляваеннай Карціннай галерэі, пашчасціла ў 1956 годзе набыць з прыватнага збору «Месячную ноч у Здраўнёве».

Але як жа было б добра, каб у галоўным мастацкім музеі Беларусі вісеў «Беларус»! Аладава вяла перамовы з Міністэрствам культуры СССР: абмяняць, прадаць, перадаць — што можна зрабіць, каб займець у Мінск «беларускага» Рэпіна?

Але кіраўніцтва Рускага музея 1950-х гадоў катэгарычна адмовілася перадаваць або мяняць «Беларуса» на іншую карціну: яны выдатна разумелі значэнне гэтага партрэта ў творчасці Рэпіна.

Больш за тое, «Беларус» ніколі не быў ні ў Мінску, ні ў Віцебску на выставах, хоць размах «Славянскага базару» даваў для гэтага мноства фінансавых магчымасцяў. Але ў віцебскім музеі няма клімат-кантролю, а Нацыянальны мастацкі музей пакуль не можа сабе дазволіць дарагую страхоўку.

Таму беларусы ведаюць гэты партрэт выключна па рэпрадукцыях. ◆

У артыкуле выкарыстаныя даследаванні **Валерыя Шышанава**, аўтар таксама дзякуе за кансультацыі **Марыі Вінікавай**.



**Елісееўскі Лаўрышаўскі манастыр** стаіць на высокім беразе Нёмана.

# Цуды пад Лаўрышавам

## Як імперская бюракратыя ліквідавала беларускую Фатыму ў зародку

**Вясною і летам 1872 года сярод жыхароў вёсак Гнесічы, Лаўрышава і іх ваколіц на Наваградчыне панавала нязвыклае ажыўленне. Людзі масава збіраліся ва ўрочышчы Незвішча каля Гнесіч на беразе Нёмана. Прычынай стала распаўсюджанне чутак, што менавіта ў гэтым месцы схаваныя і маюць адкрыцца мошчы святога Елісея, які жыў у XIII стагоддзі. І здарыліся цуды, піша Уладзімір Камінскі.**

### «Святая яма»

Людскія натоўпы штодзень збіраліся на Незвішчы. Найбольш экзальтаваныя людзі, у першую чаргу жанчыны, начавалі на гары ва ўрочышчы, посцячыся і молячыся ў чаканні цудаў і з'яўлення мошчаў святога. Напружанае чаканне і доўгае неспаннё і ўстрыманне ад ежы ўрэшце далі свой вынік: людзям стала мроіцца, што над гарой нібыта пачалі лётаць светлыя вянкі, зоры і агменьчыкі. Падахвочаныя гэтым жанчыны пачалі рукамі капаць на гары яму, упэўненыя, што менавіта тут яны знойдуць мошчы святога Елісея.

Чуткі пра цуды, якія адбываюцца ў Незвішчы, імгненна распаўсюдзіліся і пачалі прыводзіць сюды ўсё больш і больш гледачоў. Ехалі яны не толькі з Наваградскага і суседніх паветаў, але нават з іншых губерняў. Сярод гэтых людзей знайшлося нямала візіянераў — людзей, схільных да галюцынацый і відзежаў. Таму няма чаго дзівіцца, што неўзабаве ▶

▶ ў выкапанай яме на гары былі ўгледжаныя і ўкрыжаваны Хрыстос з крываточнымі ранамі, і падмуркі храма з гукамі набажэнства.

## «Кніга гэтая нібыта ўзляцела ўгару, а літары з яе ўпалі пад ногі гледачоў»

### Містычная кніга

Далей падзеі набывалі ўсё больш дзівосны характар. У народнай свядомасці адрадзілася памяць пра мінулы ўніяцкі досвед, хоць царкоўная унія была скасаваная ў Беларусі за 33 гады да гэтага здарэння, у 1839 годзе. Людзі сталі бачыць містычную кнігу з заклікам яшчэ больш узмацніць пост і маліцца па-польску, співаючы пабожныя песні. Кніга гэтая нібыта ўзляцела ўгару, а літары з яе ўпалі пад ногі гледачоў.

Зразумела, што бачыць падобныя рэчы маглі толькі асабліва «годныя» людзі, але многія іншыя не маглі пагадзіцца з тым, што яны «нягодныя», таму запэўнівалі ўсіх, што і яны бачаць усё як належыць.

Выконваючы запавет з пабачанай містычнай кнігі, вакол ямы пачалі вадзіць працэсіі са спяваннем каталіцкіх пабожных песень. Яны праходзілі без святароў і царкоўнага інвентара, а замест абраза наперадзе неслі дзіця — «святога анёлка». Агульны псіхоз моцна закрануў прысутных дзяцей, якія пачалі выконваць функцыі медыумаў. Дзеці бачылі Божую Маці, «галоўку на крылах» (анёла-серафіма, як ён малюецца на абразах), непасрэдна паведамляючы пра свае відзежы і кіруючы рухам натоўпу.

Псіхоз перасягнуў канфесійную мяжу, да праваслаўных далучыліся каталікі. Касцельныя дэвоткі (вельмі пабожныя жанчыны, часцей за ўсё немаладога ўзросту) у «святой» яме пачулі арган, атрымаўшы містычнае адкрыццё пра будучае з'яўленне на гэтым месцы касцёла і кляштара. І таксама чакалі цудоўнага адкрыцця мошчаў, але не святога Елісея, а Язафата Кунцэвіча ці святога Казіміра.

Сталі гаварыць пра цудоўнае аздараўленне хворага дзіцяці пасля паломніцтва ягонай маці да «святой» ямы.

## Замест абраза наперадзе неслі дзіця — «святога анёлка»

### І ўдарыла маланка

Масавы рэлігійны псіхоз, тым больш калі ён набыў такі ўніяцкі падтэкст, не мог не ўстрывожыць як праваслаўных іерархаў, так і свецкія расійскія ўлады. Тым больш што агульным настроям паддаліся нават духоўныя асобы. Незвішча наведалі святар і дыякан царквы з недалёкіх Шчорсаў, сваёй прысутнасцю

### Святы Елісей і ягоныя мошчы

Пра святога Елісея амаль не засталося гістарычных звестак. Першая згадка ягонага імя (і больш нічога) у даравальным лісце магната Аляксандра Хадкевіча Лаўрышаўскаму манастыру датуецца 1517 (1530?) годам.

Больш падрабязна пра святога напісаў у 1650 годзе рэктар Віленскага ўніверсітэта Альберт Віюк-Каяловіч са спасылкай на славянскі рукапіс жыція Елісея. Каяловіч паведамляў, што Елісей быў сынам знатных бацькоў і доўгі час жыў пры двары вялікага князя літоўскага, верагодна Міндоўга, займаючы высокую пасаду. Пасля ж, пакінуўшы свецкае жыццё, Елісей знайшоў бязлюднае месца сярод балотаў, дзе стаў весці манаскі лад жыцця. А калі вакол яго сабралася шмат манахаў і служкаў, то ён пабудаваў для іх царкву і манастыр. Верагодна, менавіта ў манастыры Елісея жыў манахам князь Войшалк, сын Міндоўга. Відаць, і сам манастыр атрымаў сваю назву па ягоным манаскім імені Лаўраш.

Аднойчы ўначы Елісей быў забіты сваім хворым служнікам.

Слава пра Елісея разышлася шырока, калі ў 1505 годзе падчас татарскага нашэсця на Літву Лаўрышаўскі манастыр пазбегнуў спусташэння. У 1517-м на царкоўным саборы ў Вільні Елісея за гэты цуд уславілі як святога.

Што да Елісеевых мошчаў, то ў часы Віюка-Каяловіча труна з целам святога яшчэ стаяла ў манастырскай царкве. Але ў апошні час існавання манастыра звестак пра яе ўжо не было. Цалкам верагодным выглядае паданне, што манахі некуды схавалі мошчы падчас нейкай небяспекі, якой маглі быць вайна з Расіяй у XVII стагоддзі ці Паўночная вайна пачатку XVIII стагоддзя. А пасля манастыр запусцеў. З таго часу і мошчы прапалі.



**Помнік Елісею Лаўрышаўскаму** ў Наваградку.



Лаўрышава знаходзіцца на паўночны ўсход ад Навагрудка.

DEPOSITPHOTOS.COM.BY MW@TUT.BY




толькі падвышаючы аўтарытэт візіянераў з народу. Настаяцель жа самой Лаўрышаўскай парафіі, у якую ўваходзіла вёска Гнесічы, мала таго што зусім не перашкаджаў адбывацца ўсім гэтым падзеям, дык яшчэ і наказваў шчырэй маліцца аб адкрыцці мошчаў Елісея.

## Адзін цуд быў несумненны: мясцовы карчмар так узбагаціўся на паломніках, што паставіў новы шынок

У той жа час святар з суседняга прыхода ў сяле Сенненскае Загор'е, Клімент Савіч, — дзякуючы менавіта ягонай карэспандэнцыі ў газеце «Віленскі веснік» мы ведаем падрабязнасці гэтай сітуацыі — быў куды больш крытычны. Спецыяльна наведаўшы 24 чэрвеня Гнесічы, ён усё сам агледзеў і прыйшоў да высновы, што ва ўсім гэтым ёсць толькі адзін несумненны «цуд»: мясцовы габрэй-карчмар раптам так узбагаціўся, што нават здолеў пабудаваць новы раскошны будынак для адпачынку наведвальнікаў Незвішча. Усё ж астатняе, маўляў, толькі ілюзіі і галюцынацыі.

Урэшце былі прынятыя энергічныя і дзейныя меры, скіраваныя на барацьбу з псіхозам. Царкоўным і свецкім уладам супольнымі намаганнямі ўдалося прадухіліць з'яўленне ў Беларусі праваслаўнага аналагу Фатымы — партугальскага ▸



**Жанчына з казой** у Лаўрышаве. Фотаздымкі ў артыкуле — Надзеі Бужан.

▸ мястэчка, каля якога ў 1917 годзе траім дзецям з'явілася Дзева Марыя і даверыла прароцтвы пра будучыню свету. «Святую яму» ў Незвішчы засыпалі, паступова ажыятаж вакол яе стаў спадаць. Але ж... Неўзабаве пасля знішчэння ямы у ваколіцах маланкай забіла жаўнера, дзвюх жанчын, згарэлі дзве хаты і зжатае жыта. Сяляне ўспрынялі гэтыя здарэнні як нябесную кару.

### «Чаго тут не знойдзеце! — і Лаёлу, і Пія IX»

Галоўны ліквідатар Брэсцкай царкоўнай уніі мітрапаліт Іосіф Сямашка, далучаючы ў 1839 годзе Грэка-Каталіцкую царкву да Праваслаўнай, лічыў, што не варта дзейнічаць аж занадта радыкальна, каб не выклікаць масавага незадавальнення вернікаў. Маўляў, на першым этапе дастаткова толькі калектыўна з'яднаць былых уніятаў з Праваслаўнай царквой, абрадную ж сферу ўніфікаваць паступова, крок за крокам. Таму фармальна ўжо праваслаўныя беларускія вернікі яшчэ доўгі час верылі і маліліся па-старому, шануючы абразы з каталіцкімі святымі і даючы дзецям не ўласцівыя праваслаўнай традыцыі імёны.

Захавалася вельмі характэрнае апісанне сялянскага кута з абразамі ў мястэчку Глыбокім Дзісенскага павета, зробленага ў сярэдзіне 1860-х гадоў мясцовым святаром Іларыёнам Віляноўскім: «Чаго тут не знойдзеце! — і Ігнація Лаёлу, і Пія IX, і слупа, што за Зялёным мостам у Вільні, і Яна Непамуцэна і іншых святых, якія ў дастатку маюцца для продажу ў кожнай габрэйскай краме любога мястэчка і абавязкова ж у кожнай каробцы габрэя-разносчыка». (Пра «слуп за Зялёным мостам» чытайце артыкул Сяргея Кузняцова «Езус са Сніпішак» у № 11/2020 «Нашай гісторыі»)

Іншы праваслаўны святар, І. Канцэвіч, тады ж адзначаў, што сяляне, хрысцячы дзяцей у праваслаўнай царкве, часцей за ўсё просяць называць хлопчыкаў у гонар каталіцкага святога Антонія Падуанскага. І дзеля таго заклікаў, што, «пакуль не выпарыцца ў іх гэтая памяць, імя Антоній павінна быць рэдкім».

## Дзе быў Лаўрышаўскі манастыр?

Да XIX стагоддзя ніхто не сумняваўся, што святы Елісей заснаваў манастыр у вёсцы Лаўрышаве, які пазней стаў уніяцкім і быў зачынены ў 1836 годзе. Аднак пасля скасавання уніі набылі вядомасць народныя паданні пра першапачатковае знаходжанне Лаўрышаўскага манастыра менавіта ва ўрочышчы Незвішча. Манастыр пасля закрыцця запусцеў, хутка зніклі ўсялякія прыкметы яго існавання. Гэта толькі ўзмацніла народнае паданне пра Незвішча і спрыяла разгортванню апісаных тут падзей менавіта там.

У 1913 годзе на Незвішчы спрабавалі адчыніць манастыр, ва ўрочышчы нават збудавалі царкву, якая, праўда, хутка згарэла. І ўжо ў наш час да гэтай ідэі зноў вярнуліся, пабудаваўшы на Незвішчы Елісееўскі манастыр з назвай Лаўрышаўскі.

У той жа час археалагічныя даследаванні Незвішча выявілі поўную адсутнасць на гэтым месцы нейкіх пабудоў у Сярэднявеччы і ў Новы час. А вось у Лаўрышаве знойдзеныя археалагічныя матэрыялы XIV стагоддзя. Манастыр жа на гэтым месцы пастаянна згадваецца ў дакументах пачынаючы з XVI стагоддзя. Крыніцы таксама паведамляюць пра манастырскі млын на рацэ Баловіч (Балавяча, Валовіч, познія назвыВаловая, Валоўка), і гэта цалкам суадносіцца са знойдзеным у 2020 годзе ў сербскім набажэнскім рукапісе XVI стагоддзя запісам дня памяці «Елісея Лаўраша, што стварыў манастыр на рацэ Белавечы, блізка вялікай ракі Нёман».

Захаваннем шматлікіх элементаў колішняй абраднасці акурат і тлумачыцца той на першы погляд парадаксальны факт, што праз больш чым 30 гадоў пасля скасавання уніі праваслаўныя сяляне Наваградчыны ўспомнілі ў Незвішчы каталіцкія пабожныя песні. Бо яны не ўспрымаліся як нешта чужое.

### Елісей замест Язафата

Звычаем, з якім у першую чаргу змагалася праваслаўнае духавенства, было шанаванне святога Язафата Кунцэвіча. Ягоныя мошчы захоўваліся ў горадзе Белая Седлецкай губерні (цяперашняя Бяла-Падляска), і расійскі афіцыёз пасля паўстання 1863–1864 гадоў пачаў актыўную кампанію па дыскрэдытацыі рэліквій уніяцкага пакутніка, вядомага актыўным прасоўваннем уніі ў пачатку XVII стагоддзя. У прэсе, напрыклад, з'яўляліся публікацыі пра тое, што насамрэч ад Кунцэвіча захавалася толькі пасма валасоў, а цела ў Белай яму не належыць. Магчыма, гэтыя публікацыі паўплывалі і на свядомасць жанчын, якія чакалі цудоўнага аб'яўлення мошчаў Кунцэвіча ў Незвішчы, хоць яўна і ведалі пра рэліквіі ў Белай.

Менавіта для выцяснення культаў каталіцкіх святых у той час і рабіліся спробы адраджэння старых ды стварэння новых культаў святых праваслаўных. Своеасаблівым маніфестам гэтай ідэі сталася ўпрыгожанне новаасвечанага Макараўскага прыдзелу ў віленскім Прачысценскім саборы абразамі святых, якія былі альбо ўраджэнцамі, альбо нейкім іншым чынам звязаныя з Вялікім Княствам Літоўскім. Адным з такіх святых стаў вялебны Елісей Лаўрышаўскі.

А неўзабаве яго асобу сталі актыўна прапагандаваць і на месцы колішняга служэння. У пачатку 1860-х у Лаўрышава прыязджаў рэктар Мінскай духоўнай семінарыі, вядомы гісторык-«заходнерусіст» архімандрыт Мікалай (Трускоўскі), які шукаў месца былога манастыра і збіраў матэрыялы для «Гісторыка-статыстычнага апісання ▶



**Даўней манастыр стаяў там, дзе цяпер царква ў Лаўрышаве** — густоўнай народнай архітэктуры, строгія формы якой у нечым натхнёныя абрысамі готыкі, а ў нечым — модамі XVIII стагоддзя.

▶ Мінскай епархіі». Гэты візіт у звычайную вёску прадстаўніка царкоўнай эліты быў няправільна інтэрпрэтаваны сялянамі. Яны ўспрынялі гэта так, што архімандрыта спецыяльна прысылалі з губернскага горада паказаць, дзе схаваныя мошчы Елісея.

За год да апісаных падзей лаўрышаўскі святар арганізоўваў хросныя хады ў Незвішча, асвячаў там ваду і ў казаннях успамінаў святога Елісея. Сінхронна з ім настаўнік мясцовага народнага вучылішча расказваў вучням пра старажытны Лаўрышаўскі манастыр.

Аказалася, што ўся гэтая асветніцкая праца падала на надзвычай прыдатную глебу. Вось толькі практычнае ўвасабленне гэтага атрымалася не такое, якое хацелі б улады.

## Містыка ў трэндзе

Масавы рэлігійны псіхоз у Гнесічах не выглядаў такім ужо незвычайным з пункту гледжання грамадства XIX стагоддзя. Бо гэтае стагоддзе было часам вялікай папулярнасці акультызму ва ўсім свеце. Яно пачалося з нечуваных раней па размаху напалеонаўскіх войнаў агульнаеўрапейскага маштабу, што абудзіла ў людзях апакаліптычныя прадчуванні і стварыла ўрадлівую глебу для разнастайных містычных вучэнняў. Менавіта ў XIX стагоддзі сфарміраваліся і шырока распаўсюдзіліся такія акультныя навукі, як спірытызм і тэасофія. І вельмі папулярным заставалася масонства.

Акультызмам і месіянізмам была прасякнутая тагачасная літаратура, асабліва паэзія. Дастаткова прыгадаць, што наш зямляк Адам Міцкевіч на эміграцыі зрабіўся адэптам містычнага вучэння Анджэя Тавянскага, які вызнаваў палякаў народам-месіяй у свеце і здолеў нават пераканаць паэта, што ў яго ўсялілася душа Жанны д'Арк. Іншы наш зямляк, сябар Міцкевіча Франц Савіч, седзячы на гнілой саломе ў турэмнай камеры меў відзежу безлічы палякаў, якіх сама Дзева Марыя нібыта ўзначаліла на нейкі месіянскі подзвіг. У той жа час расійскія славянафілы, катэгарычна адмаўляючы палякам у месіянстве, лічылі народам-месіяй рускіх: маўляў, менавіта ім наканаваная незвычайная роля ў сусветнай гісторыі. Гэта праходзіць чырвонай ніткай праз раманы расійскага генія Фёдара Дастаеўскага.

Містыцызм быў нормай і для тагачаснага духавенства. То чаго ж тады было чакаць



**Ад Гнесіч да новага манастыра вядзе маляўнічы драўляны мост**: такіх у Беларусі не шмат.

ад простага сялянства, у якім шчырая пабожнасць спалучалася з жудаснымі забабонамі?

Вось толькі пару прыкладаў, зафіксаваных у Беларусі прыблізна ў той жа час, як адбываліся падзеі ў Незвішчы. За год да іх на могілках у вёсцы Ішчална Лідскага павета сямёра сялян уначы выкапалі з магілы мужчынскае цела і адсеклі яму рукі. З вытапленага з іх трупнага тлушчу яны мерыліся зрабіць свечку, з дапамогай якой можна было б вольна рабаваць па начах дамы. Бо, згодна з павер'ем, абнесеная вакол хаты трупная свечка ўводзіць яе жыхароў у «мёртвы» сон. Рабаўнікоў выпадкова злавіў паліцэйскі, калі яны зайшлі ў шынок у суседняй вёсцы Ва́верка. Праваахоўніка зацікавіла змесціва іхняга мяха, у якім тыя рукі ляжалі.

**Па дарозе ў слонімскую паліцэйскую ўправу Настасся Гарбацэвіч нават уваскрасіла з мёртвых памерлага габрэя**

А праз год пасля падзей на Незвішчы ў Жыровічах паліцэйскі затрымаў сялянку Настассю Гарбацэвіч з групай паслядоўніц, якая сцвярджала, што паклікана для збаўлення жаночай палавіны людского роду, як Ісус Хрыстос — мужчынскага. Яна лячыла хворых малітвай і польскім малітоўнікам.




**Дзеці з Фатымы (Партугалія), якім у 1917 годзе аб'яўлялася Божая Маці.** Гэты цуд прызнаны Каталіцкай царквой.

Па дарозе ў слонімскую паліцэйскую ўправу Настасся нібыта нават уваскрасіла з мёртвых памерлага габрэя, у чым прызнавалася ўжо ў паліцэйскай управе Навагрудка. Пасля чаго чутка пра «збавіцельніцу» паловы чалавечага роду распаўсюдзілася па цэлым павеце. Да арыштанцкага пакоя пачалі збірацца людзі з горада і вёсак, сяляне і шляхцянкі са сваімі хворымі, патрабуючы пусціць іх да арыштаванай. Сведкі расказвалі, што Настасся нібыта ў адно імгненне ацаліла жанчыну з параненымі да костак нагамі, проста абмыўшы ёй ногі вадой. Сяляне сведчылі таксама, што Настасся зімою хадзіла басанож і ад яе следу снег раставаў як ад агню. Паліцэйскія называлі ўсё гэта «галімацццёй», у адказ Настасся характарызавала іх як антыхрыстаў, што топчуць славу Божую.

Так, нашы продкі жылі ў чаканні цудаў, верылі ў іх. А попыт нараджаў прапанову. Для кожнага цуду можна было знайсці сведак, якія ўсё нібыта бачылі на ўласныя вочы і былі гатовыя пацвердзіць свае сведчанні. ◆




**Равіч Славамір. Доўгі шлях.** — Мінск: Кнігазбор, 2021. — 272 с.

Упершыню на беларускую мову перакладзены сусветны бестселер паводле ўспамінаў ураджэнца Беларусі. І хоць аўтар, відаць, апісаў не сваю ўласную гісторыю, яна кранае і дае сілы рухацца наперад.

…Увосень 1939 года малады паручнік польскай кавалерыі Славамір Равіч трапляе ў самае пекла пачатку Другой сусветнай вайны. Пасля паразы польскага войска ён вяртаецца ў родны Пінск, але тут яго ўжо чакаюць. Да поўнага выратавання герой Славаміра Равіча прайшоў больш за 6000 кіламетраў, маючы пры сабе толькі сякеру, нож і мару пра свабоду.

Раскажыце нам пра вашу родавую вёску або дом, квартал у горадзе — для нашай рубрыкі **«Нацыянальная геаграфія»**.

У ёй ужо пісалі пра:
Калоднае, Столінскі раён;
Берашты, Шчучынскі раён;
Чыжоўскія могілкі, Мінск;
Унорыца, Рэчыцкі раён;
Трашчычы, Карэліцкі раён;
Мачуль, Столінскі раён;
Падміколле, Магілёў;
Белы Ковель, Аршанскі раён.



FOTO.KG

**19-гадовы Бродскі** ў гарах Цянь-Шань (Кыргызстан) падчас геалагічнай экспедыцыі. 1959 год.

# «Галоўнае — веліч задумы» ІОСІФ БРОДСКІ

## Цкаванне «цудоўна няправільнага» паэта дапамагло яму стаць сусветна вядомым

**Яго судзілі за «дармаедства» і пазбавілі савецкага грамадзянства. Затое ў Вольным свеце ён стаў мегапапулярным універсітэцкім выкладчыкам і голасам рускай паэзіі. А пахаваць сябе ён папрасіў у сваёй любімай Венецыі. Піша Андрэй Дзмітранок.**

«Якую біяграфію робяць нашаму Рыжаму!» — адрэагавала Ганна Ахматава на пераслед камуністычнымі ўладамі тады яшчэ зусім маладога Іосіфа Бродскага. У адной фразе — лёс чалавека.

### Блакаднік з няскончанай школай

*Я родился и вырос в балтийских болотах, подле*
*серых цинковых волн, всегда набегавших по две,*
*и отсюда — все рифмы, отсюда тот блёклый голос,*
*вьющийся между ними, как мокрый волос, если вьётся вообще.*

Іосіф Бродскі нарадзіўся 24 мая 1940 года ў сям'і ленінградскіх габрэяў. Вайна, што пачнецца праз год, найлепш патлумачыць дзяцінства паэта. Бацька на фронце, маці з дзецьмі зведаюць блакаду і эвакуацыю, вернуцца ў Ленінград у 1944-м. Школай жыцця будзе вуліца.

Звычайнай школы Бродскі не прызнае, вучыцца кепска, застаецца на другі год. Пятнаццацігадовым аднойчы пасярод урока проста ўстане з-за парты і назаўжды яе пакіне. І пазней успамінаў: «Што б ні штурхнула мяне на прыняцце гэтага рашэння, я бязмерна яму ўдзячны, бо гэта быў мой першы свабодны ўчынак».

І разважае: «Ты павінен альбо біцца за месца, альбо пакінуць яго. Я аддаваў перавагу другому. Зусім не таму, што не здольны біцца, а хутчэй з агіды да сябе: калі ты

выбраў нешта, што прываблівае іншых, гэта азначае пэўную вульгарнасць густу».

Пасля спрабуе паступіць у Другое Балтыйскае марское вучылішча, але пятая графа пашпарта самай дружба-народнай і справядлівай краіны свету становіцца перашкодай. Габрэю ходу туды няма. Што ж, пойдзе працаваць фрэзероўшчыкам на завод, памочнікам празектара ў морг, качагарам у кацельню, матросам на маяк, рабочым у геалагічных экспедыцыях. Пошукі сябе скончацца нервовым зрывам, Бродскі вернецца ў Ленінград.

## Суддзя: Ніякіх «я думаю»

Справа паэта — пісаць. Бродскі ўспрымае сябе звяном у культурным ланцугу, дзе літаратура — экзістэнцыйны працэс, які передаецца праз мову і слова. З дзяцінства шмат чытае, назапашваецца паэзіяй, філасофіяй, рэлігійнымі тэкстамі, вывучае англійскую і польскую мовы. «Іерархія таго пантэону была нашым сапраўдным Цэнтральным камітэтам».

Толькі ўладу ў краіне меў зусім іншы ЦК, і ён дыктаваў норму. Калі творца не быў членам афіцыйнага Саюза пісьменнікаў, то абавязкова было недзе працаваць, інакш ты — сацыяльны дармаед, чужы савецкаму ладу. І такіх судзяць. На судзе над Бродскім адбудзецца такі дыялог:

Суддзя: Чым вы займаецеся?
Бродскі: Пішу вершы. Перакладаю. Я думаю…
Суддзя: Ніякіх «я думаю». У вас ёсць пастаянная праца?
Бродскі: Я думаў, што гэта пастаянная праца.

Пісаць вершы Бродскі пачынае ў 1956 годзе. Асноўныя тэмы — каханне і летуценнасць жыцця. Піша «Бывай», «Пілігрымы», «Адзінота», «Элегія», «Дзеясловы». Лірыка ранняга Бродскага патэтычная, з лёгкай іроніяй і між тым меладычная, з рытмамі папулярнага ў той час джазу. Ён не баіцца эксперыментаў і прызнае, што на яго паўплывалі Яўгеній Баратынскі, Марына Цвятаева, Ганна Ахматава і Восіп Мандэльштам.

Ахматаву ён лічыць настаўніцай, яна яго — сынам і рэінкарнацыяй Мандэльштама: «Нарэшце з'явіўся нехта здольны на вялікія тэмы». Ахматава не толькі дае высокую ацэнку паэзіі Бродскага, чым спрыяе яго папулярнасці ў літаратурных колах, але ўздзейнічае і сэнсава. Даводзіць ідэю пра тое, што паэт мусіць быць голасам, які выказвае душу мовы, не апускаючыся пры гэтым да народнага. Умацоўвае ўяўленне пра хрысціянства, яго духоўныя каштоўнасці, канцэпцыю паэзіі, падобнай да малітвы. «Любое мастацтва звяртаецца да вуха Усёмагутнага», — скажа пазней Бродскі, не будучы вернікам.

### Карані — ва Украіне і Латвіі

Сам Бродскі лічыў сваёй радзімай Расію, але трошкі і ўкраінскую Галіччыну. Бо ведаў, што далёкія карані Бродскіх — у мястэчку Броды (цяпер Львоўская вобласць). Тым часам маці Іосіфа Бродскага, Марыя Майсееўна Вольперт, нарадзілася ў 1905 годзе ў Дзвінску (цяпер Даўгаўпілс у Латвіі).

## Пакараць па волі працоўных

Першы публічны выступ Бродскага — адразу скандал. Савецкая сістэма адмаўляе канкурэнцыю, але бавіцца гульнямі ў спаборніцтва. 14 лютага 1960 года на «Спаборніцтве паэтаў» Бродскі чытае верш «Габрэйскія могілкі». Трыццаць радкоў, пасля якіх яго выклікаюць на прафілактычную гутарку ў кампетэнтныя органы.

У творчасці Бродскі падкрэслена апалітычны, але сістэма адчувае «інакшасць», успрымаючы яго занадта песімістычным і індывідуалістычным. Публікуецца з напісанага мала: зрэдку выходзяць яго пераклады, друкуюць некалькі вершаў у самвыдатаўскім ксераксным часопісе «Сінтаксіс». Але сябры адчуваюць, што Бродскага трэба схаваць — і ўладкоўваюць яго ▸



1955 год. **Іосіф Бродскі з бацькам, Аляксандрам Бродскім** — мараком, ваенным карэспандэнтам.

ФОТА МАРЫІ ВОЛЬПЕРТ-БРОДСКАЙ, PINTEREST.COM

на абследаванне ў маскоўскую псіхіятрычную клініку.

Паэт аддана кахае Марыну Басманаву — музу М. Б., ёй прысвечана большасць лірыкі Бродскага. Яна — мастачка, ён — паэт, людзі навокал бачылі ў іх лёд і полымя. Толькі М. Б. не можа выбраць, бо ў трохкутніка ёсць яшчэ адна вяршыня — паэт Дзмітрый Бобышаў. І вось, знаходзячыся ў Маскве, Бродскі даведваецца, што М. Б. паддалася спакусе — і, верагодна, здрадзіла яму. Ведаючы, што ў Ленінградзе рыхтуецца яго затрыманне, паэт вяртаецца: «Мне было ўсё роўна — павяжуць там мяне ці не. І ўвесь суд потым — гэта было дурасцю ў параўнанні з тым, што адбылося з Марынай».

*Я был только тем,*
*чего ты касалась ладонью,*
*над чем в глухую, воронью*
*ночь склоняла чело.*

Затрыманню Бродскага папярэднічае кампанія цкавання ў прэсе. У газеце «Вечерний Ленинград» выходзіць артыкул «Калялітаратурны труцень» з абвінавачаннем у фармалізме і ўпадніцтве, працоўныя калектывы «пішуць» звароты «Пакараць дармаеда». 12 лютага 1964 года Бродскі схоплены, неўзабаве — суд:

Суддзя: А наогул якая ваша спецыяльнасць?
Бродскі: Паэт. Паэт-перакладчык.
Суддзя: А хто гэта прызнаў, што вы паэт? Хто далучыў вас да паэтаў?
Бродскі: Ніхто. А хто далучыў мяне да роду чалавечага?
Суддзя: А вы вучыліся гэтаму?
Бродскі: Чаму?
Суддзя: Каб быць паэтам? Не спрабавалі скончыць ВНУ, дзе рыхтуюць... дзе вучаць...
Бродскі: Я не думаў, што гэта даецца адукацыяй.
Суддзя: А чым жа?
Бродскі: Я думаю, гэта... (разгублена)... ад Бога...

## Кот

Он был тощим, облезлым, рыжим,
Грязь помоек его покрывала.
Он скитался по ржавым крышам,
А ночами сидел в подвалах.

Он был старым и очень слабым,
А морозы порой жестоки.
У него замерзали лапы,
Точно так же, как стынут ноги.

Но его никогда не грели,
Не ласкали и не кормили.
Потому что его не жалели.
Потому что его не любили.

Потому что выпали зубы.
Потому что в ушах нарывы.
Почему некрасивых не любят.
Кто-то должен любить некрасивых.

*Лета 1957*

### Браць прыклад з катоў

Цяпер ужо па прадпісанні органаў Бродскага тры тыдні трымаюць у псіхіятрычнай




**Помнік Бродскаму** на Навінскім бульвары ў Маскве.




Санкт-Пецярбург, Ліцейны праспект, 24. **У гэтым доме Іосіф Бродскі жыў з 1955 па 1972 год.** Пакой Бродскіх выкуплены Фондам стварэння музея Іосіфа Бродскага.




лякарні. Вырак суда: высылка на 5 гадоў у Архангельскую вобласць з абавязковым прыцягненнем да фізічнай працы. Нягледзячы на цяжкую працу і жыццё ў паўночных умовах, Бродскі той час называе самым шчаслівым. Бацька Іосіфа, Аляксандр, у лісце да сына заклікае таго не сумаваць і браць прыклад з катоў, якія заўсёды аптымістычныя. Іосіф і не сумуе, жыве словам і страсцю.

М. Б. паэта наведвае, у іх нараджаецца сын. Высылка нібы не пра Бродскага, паэт піша лірычныя «Песні шчаслівай зімы», «Лустачку мядовага месяца» — агулам будзе створана каля 80 вершаў. Суд, што меў на мэце пакараць, робіць Бродскага сусветна вядомым. Вызвалення патрабуюць Ганна Ахматава, Самуіл Маршак, Аляксандр Твардоўскі, Дзмітрый Шастаковіч, Канстанцін Паўстоўскі і нават камуністычны «карысны ідыёт» Жан-Поль Сартр. Сістэме такі вязень толькі стварае праблемы, а таму Бродскаму скарачаюць пакаранне да паўтара года, гэтыя месяцы паэт якраз фактычна адбыў.

### «Ещё одна будет лишней»

Час, што застаецца да эміграцыі, будзе плённым у творчасці і драматычным у асабістым жыцці: М. Б. не жадае выходзіць за яго замуж, КГБ вяртае з выдавецтва падрыхтаваны да друку рукапіс вершаў «Зімняя пошта».

*О, не выходи из комнаты. Танцуй,*
*поймав, боссанову*
*в пальто на голое тело, в туфлях*
*на босу ногу.*
*В прихожей пахнет капустой*
*и мазью лыжной.*
*Ты написал много букв; ещё одна*
*будет лишней.*

У маі 1972 года Бродскага ставяць перад выбарам: вар'ятня ці эміграцыя. «Бальніца страшнейшая за турму», — кажа паэт. А М. Б. ехаць разам у эміграцыю адмаўляецца.

У чым прычына такога бясконцага праследу? У Бродскага такі адказ: «Быў габрэем і складаў вершы».

Перад выгнаннем ён робіць марнае намаганне — піша ліст самому Леаніду Брэжневу: «Я хачу прасіць вас даць магчымасць захаваць маё існаванне, маю прысутнасць у літаратурным працэсе. Хоць бы ў якасці перакладчыка — у той якасці, у якой я да гэтага часу і выступаў... ▸

▶ Мне горка з'язджаць з Расіі. Я тут нарадзіўся, вырас, жыў, і ўсім, што маю за душой, я абавязаны ёй. Усё дрэннае, што выпадала на маю долю, з лішкам перакрывалася добрым, і я ніколі не пачуваўся пакрыўджаным Айчынай. Не адчуваю і цяпер. Бо, перастаючы быць грамадзянінам СССР, я не перастаю быць рускім паэтам. Я веру, што я вярнуся; паэты заўсёды вяртаюцца: у плоці або на паперы...»

Нічога не памагло. 4 чэрвеня 1972 года рэйсам Ленінград — Вена пазбаўлены савецкага грамадзянства Бродскі назаўжды пакідае радзіму.

### З чыстага аркуша

Гэта будзе спроба пачаць усё спачатку. Паэт не выракаецца мовы і таго, што было, але і не жыве эміграцкім сіндромам.

Звыклая схема тагачаснай эміграцыі — з'язджаць з адной сістэмы ў другую. Ён жа не ідзе працаваць на радыёстанцыі, што вядуць ідэалагічную барацьбу з савецкім рэжымам, хоць гэта было б дастаткова лёгкім і прыбытковым заняткам. Але Бродскі — не пра палітыку.

Ён пераязджае ў Амерыку і ўладкоўваецца на працу ў правінцыйны каледж Эн-Арбар (штат Мічыган), вучыць англійскую мову, хоча стаць амерыканскім аўтарам. У Новым Свеце Бродскі не хоча іншай залежнасці: пры ўсёй сваёй празе да славы, яшчэ больш ён хоча свабоды.



**З Марынай Басманавай.**

*Подруга, дурнея лицом, поселись*
*в деревне.*
*Зеркальце там не слыхало*
*ни о какой царевне.*

Бродскі выяўляецца добрым выкладчыкам. Умее наладжваць са студэнтамі кантакт, прымае іх дома, на занятках паводзіць сябе непасрэдна. Можа расказаць анекдот, закурыць, расчуліцца ад добра прачытанага верша ці раззлавацца. Студэнты ўспамінаюць яго як «цудоўна няправільнага». Ён, які не скончыў савецкай школы, будзе выкладаць 24 гады. Пасля штата Мічыган будуць найлепшыя ўніверсітэты свету. У ягоным спісе Калумбійскі ўніверсітэт, англійскі Кембрыдж, французская Сарбона, навучальныя ўстановы Італіі, Швецыі, Канады і Ірландыі.

Бродскаму важна пераадолець вобраз ахвяры сістэмы, быць самадастатковай адзінкай. У Амерыцы ён паэт, драматург, перакладчык і эсэіст. Выйдзе зборнік яго амерыканскіх вершаў «Частка гаворкі». Кніга эсэ «Больш за адзінку» атрымае прэмію Нацыянальнага кола кніжных крытыкаў. Нарэшце ён можа выдаць даэміграцкую лірыку, і новую ніхто не забараняе.

### Бродскі па-беларуску

Творы Бродскага можна пачытаць і на нашай роднай мове. У 2015 годзе намаганнямі перакладчыка Вадзіма Болбаса ў Гомелі быў выдадзены нават невялікі зборнічак вершаў пад назвай «Туга і спакой». Перакладалі вершы Бродскага таксама Вера Бурлак, Марыя Мартысевіч, Андрэй Хадановіч, Алесь Чобат. Прыклад, як гучыць Бродскі па-беларуску, — ва ўрыўку з перастварэння ягонага верша «Калядны раманс» («Рождественский романс»), зробленага Андрэем Хадановічам.

**Рождественский романс**

Плывет в тоске необьяснимой
среди кирпичного надсада
ночной кораблик негасимый
из Александровского сада,
ночной фонарик нелюдимый,
на розу желтую похожий,
над головой своих любимых,
у ног прохожих.

Плывет в тоске необьяснимой
пчелиный ход сомнамбул, пьяниц.
В ночной столице фотоснимок
печально сделал иностранец,
и выезжает на Ордынку
такси с больными седоками,
и мертвецы стоят в обнимку
с особняками…

**Калядны раманс**

Плыве ў журбоце беспрычыннай
паміж цаглянага надсаду
караблік зыркай аблачынай
ад Аляксандраўскага саду,
начны ліхтарык нечуваны,
як ружа жоўтая, прыгожы,
над галавой сваіх каханых,
ля ног прахожых.

Плыве ў журбоце беспрычыннай
пчаліны хор прапойцаў смешных.
Глядзіць маркотнымі вачыма
й фатаграфуецца замежнік,
і выязджае на Ардынку
таксоўка, хворая вякамі,
і сталі мёртвыя ў абдымку
з асабнякамі…

Больш вершаў Іосіфа Бродскага па-беларуску даступна па спасылцы:

Друкуюцца шматлікія зборнікі і эсэ на англійскай мове. Калі ў 1987 годзе Бродскі атрымае Нобелеўскую прэмію па літаратуры, ён будзе фігураваць як прадстаўнік літаратуры ЗША.

## «Галоўнае — **веліч** задумы», — любіў паўтараць Бродскі

«Галоўнае — веліч задумы», — любіў паўтараць Бродскі.

Што атрымае Нобеля, Бродскі напрарочыў сабе, будучы яшчэ дваццацігадовым ленінградскім паэтам: «Нобелеўская прэмія? Так, будзе, мая прыгажуня!» — фарсіў перад сяброўкай. А атрымаўшы, успрымае будзённа: «Я як кот. Калі мне нешта падабаецца, я да гэтага прынюхваюся і аблізваюся... Вось, глядзіце, кот. Кату зусім напляваць, ці існуе таварыства "Памяць". Або аддзел прапаганды ЦК КПСС. Гэтак жа, зрэшты, яму абыякавы прэзідэнт ЗША, яго наяўнасць або адсутнасць. Чым я горшы за ката?»

Толькі што ўзяць з ката? Як яго зразумець?



LIPETSK.RU

**З жонкай Марыяй Сацані.**



YANDEX.RU

**Доктар літаратуры Іосіф Бродскі** ў мантыі Оксфардскага ўніверсітэта, 1991 год.

Але Бродскі да канца жыцця застанецца чалавекам рускай культуры, з усімі ўласцівымі такім людзям каштоўнасцямі і траўмамі. Менавіта гэтым тлумачыцца, напэўна, поўны пагарды і імперскай фанабэрыі верш «На незалежнасць Украіны», напісаны ў 1991-м:

*Прощевайте, хохлы! Пожили*
*вместе, хватит.*
*Плюнуть, что ли, в Днипро: может,*
*он вспять покатит...*

І далей:

*С Богом, орлы, казаки, гетманы,*
*вертухаи!*
*Только когда придет и вам*
*помирать, бугаи,*
*будете вы хрипеть, царапая край*
*матраса,*
*строчки из Александра, а не брехню*
*Тараса.*

Бродскі не мог зразумець, як некаму «Думи мої, думи мої, лихо мені з вами...» можа быць даражэйшым сэрцу, чым «Я помню чудное мгновенье». Гэтага чалавеку рускай культуры было *не понять*.

**Пра Венецыю** гл. артыкул «Я забараняю сабе сюды прыязджаць» у № 2/2020 «Нашай гісторыі».

Па спасылцы — **нобелеўская лекцыя паэта** ў перакладзе Валянціна Акудовіча.

### Набярэжная невылечных

Бродскі па-пазёрску забараняе публікацыю сваёй біяграфіі да 2071 года, але сам піша біяграфічныя эсэ. Там усё. Боль, што бацькі так і не змаглі пераехаць да яго ў ЗША. Адчай, што М. Б. так і не стала ягонай. Але там жа і сродак для загойвання ранаў — італьянка Марыя Сацані, з якой у 1990 годзе Бродскі ажэніцца.

Там і вялікае пачуццё да Венецыі: «Венецыя недасяжная. Калі існуе пераўвасабленне, я хацеў бы сваё наступнае жыццё пражыць у Венецыі — быць там катом, кім заўгодна, нават пацуком, але абавязкова ў Венецыі». Цягам 20 гадоў Бродскі кожнае Раство праводзіць у Венецыі. «Павольны рух лодкі скрозь ноч нагадваў праход сувязной думкі скрозь падсвядомасць. Абапал, па калена ў чорнай як смоль вадзе, стаялі вялізныя разьблёныя скрыні цёмных *palazzo*, поўныя неспасцігальных скарбаў». Венецыі ён прысвеціць эсэ «Набярэжная невылечных». «Калі дух Божы лунаў над вадою, значыць, адбіўся ў ёй. Усе гэтыя складкі, маршчыны, рабізна і ёсць час, а Венецыя — яго сховішча».

Сэрца паэта спыніцца 28 студзеня 1996 года. Пахаваюць Бродскага ў Венецыі на востраве-могілках Сан-Мікеле. «Адзінай рэччу, здольнай пераўзысці гэты водны горад, быў бы горад, пабудаваны ў паветры». Паэт, вышэйшы за любую сістэму, цяпер мае вечнасць для любімага горада.

На развітанне сябрам Бродскі часам казаў: «*Мяў*». ◆




**Алег Пянькоўскі фатаграфаваў сакрэтныя дакументы проста на падаконні.** Фота зроблена спецыяльнай апаратурай, усталяванай у доме насупраць.

# Пяць версій пра шпіёна Пянькоўскага

**Палкоўнік ГРУ Алег Пянькоўскі: прайшло 60 гадоў, а дагэтуль невядома, быў ён героем, што ратаваў свет, прагным да грошай здраднікам ці ўдзельнікам мегаінсцэніроўкі. Асноўныя версіі разабраў ваенны гісторык Віталь Чырвінскі.**

11 мая 1963 года, 16-я гадзіна. Масква. Зала судовых пасяджэнняў Вайсковай калегіі Вярхоўнага суда СССР перапоўнена людзьмі. Гучаць бурныя апладысменты. Нарэшце завяршаецца апошні дзень суда. Трапіць у гледачы пашанцавала толькі надзейным і праверанымі, дарма што суд лічыўся адкрытым.

Больш за гадзіну зачытвалі тэкст абвінавачвання. Аб прысудзе назаўтра напішуць усе савецкія і многія замежныя газеты: расстрэл. Прысуд будзе выкананы ўсяго праз 5 дзён.

## Фэйк пра «стрыечнага дзядулю»

Алег Пянькоўскі нарадзіўся ва Уладзікаўказе. На той момант цэнтральную частку Паўночнага Каўказа кантралявалі войскі Добраахвотніцкай арміі генерала Антона Дзянікіна. Ішоў 1919 год — пік грамадзянскай бойні ў Расіі.

Пра бацьку мы ведаем толькі са словаў самога Пянькоўскага: белагвардзейскі афіцэр (паручнік), імаверна — дзянікінец, які загінуў падчас грамадзянскай вайны ў змаганні з бальшавікамі. Як загінуў, невядома: можа, у баі, а мо быў павешаны, утоплены або расстраляны. Так ці інакш, хлопец рос без бацькі, і ўспамін пра белага афіцэра даводзілася хаваць.

Але дарослым, як і дзецям, таксама хочацца верыць у цуд. А можа, бацька не загінуў, можа, недзе ёсць яго сваякі? Таму, выпадкова сустракаючы сваё прозвішча (напрыклад, у газетах), Пянькоўскі калі-нікалі сапраўды верыў, што вось ён, нарэшце, сваяк, родны чалавек па бацькавай лініі.

Відаць, так адбылося і са знакамітым аднафамільцам — савецкім военачальнікам, беларусам Валянцінам Пянькоўскім (чытайце пра яго ў № 2/2021 «Нашай гісторыі»), пра якога Алег Пянькоўскі даведаўся толькі падчас Другой сусветнай вайны. Калі Алега Пянькоўскага арыштавалі і на Захадзе апублікавалі яго дзённік, у якім Валянцін Антонавіч згадваўся як стрыечны дзядуля, радавод беларускага генерала пільна вывучалі спецыялісты з КГБ — і сувязяў з уладзікаўказскім Пянькоўскім не знайшлі.

## Чырвоны камандзір з кантузіяй і ўзнагародамі

Біяграфія Алега Пянькоўскага вядомая ўрыўкава, але вельмі цікава прасачыць яго

ўзыходжанне па кар'ернай лесвіцы.

Школу скончыў у пасёлку Арджанікідзэ (Крым), у 1939 годзе выпусціўся з 2-га Кіеўскага артылерыйскага вучылішча ў званні лейтэнанта. Відаць, быў разумным і ўмеў гаварыць, бо пайшоў у палітрукі. Удзельнічаў у «Польскай кампаніі» 1939 года, дайшоў да Львова.

Панюхаў пораху падчас савецка-фінляндскай вайны. Пасля гэтага як адзін з перспектыўных палітработнікаў быў адкамандзіраваны ў Маскоўскую вайсковую акругу, дзе і сустрэў напад на Савецкі Саюз гітлераўскай Германіі.

Добрую палову вайны правёў у якасці «тылавога трутня» (па яго ж прызнанні) у Маскве. На фронт трапіў толькі ў лістападзе 1943 года. Вызваляў Украіну. Атрымаў кантузію, лячыўся ў Маскве ў шпіталі. Некаторы час быў афіцэрам сувязі пры камандуючым артылерыі 1-га Украінскага фронту генерал-палкоўніку артылерыі Сяргею Варэнцове. Камандаваў палком супрацьтанкавай артылерыі. Ваяваў у Польшчы, Германіі, Аўстрыі. Вайну скончыў у званні падпалкоўніка з пяццю баявымі ордэнамі.

Пасля вайны пайшоў вучыцца ў Акадэмію імя Фрунзэ і вельмі ўдала ажаніўся: з масквічкай, дачкой генерала Дзмітрыя Гапановіча, дарэчы, беларуса па паходжанні. Цесць быў галоўным зампалітам Маскоўскай вайсковай акругі.

У 30 гадоў Пянькоўскі атрымаў пагоны палкоўніка. Дыплом Вайскова-дыпламатычнай акадэміі і шлюб адкрылі дарогу ў іншы свет. Галоўнае разведвальнае ўпраўленне Генеральнага штаба Савецкай Арміі. Прэстыжная кватэра ў Маскве. Камандзіроўкі за мяжу.

Жыццё задалося.

### Справы сямейныя

У шлюбе ў Пянькоўскіх нарадзіліся дзве дзяўчынкі, малодшая — у лютым 1962 года, калі Пянькоўскі ўжо быў пад следствам. Пасля суда жонка змяніла сваё і дачок прозвішчы на Гапановіч, каб цень бацькі не лёг на дзяцей.

### Хто каго завербаваў

Першую спробу выйсці на прадстаўнікоў замежных спецслужбаў — даволі нязграбную, трэба прызнаць — палкоўнік зрабіў у кастрычніку 1960 года. Пянькоўскі праз выпадковых людзей перадаў ліст у амерыканскую амбасаду ў Маскве. Дарагі сэр, пісаў ён, я хачу супрацоўнічаць са спецслужбамі і перадаваць сакрэтную інфармацыю. Адказу палкоўнік не атрымаў: напэўна, не паверылі.

Праз два месяцы ў Маскву прыехала дэлегацыя англійскіх спецыялістаў, сярод якіх быў бізнэсмен Грэвіл Уін (на самай справе, пасланец брытанскай замежнай разведкі). Пянькоўскі ведаць пра гэта не мог, але гэтак жа адкрыта прапанаваў свае паслугі падчас вячэры.

20 красавіка 1961 года Алег Пянькоўскі ў складзе савецкай дэлегацыі вылецеў у Лондан, дзе пры сустрэчы з прадстаўнікамі англійскай і амерыканскай разведак даў пісьмовае абавязальніцтва супрацоўнічаць. Атрымаў два мініяцюрныя фотаапараты «Мінокс», фотаплёнкі да іх, транзістарны прыёмнік «Соні», два шыфравальныя блакноты, запісную кніжку з капіравальнай паперай для таемных запісаў.

І вярнуўся ў Маскву.

### Чалавецтва падышло да мяжы самазнішчэння

Гэта быў момант, калі выбухнуў Карыбскі крызіс — і з гэтым звязанае адно з магчымых тлумачэнняў матываў Алега Пянькоўскага.

Гэты перыяд у гісторыі называюць «халоднай вайной».

У 1961-м ЗША размяшчаюць у Турцыі, сваёй саюзніцы па блоку НАТО, ядзерную зброю, каб пры неабходнасці даць ▶



ECHO.MSK.RU

Шпіёнскае абсталяванне

сіметрычны адказ краінам арганізацыі Варшаўскай дамовы, якія ў звычайнай зброі маюць перавагу.

У тым жа 1961-м Мікіта Хрушчоў высоўвае ўльтыматум: Берлін павінны пакінуць усе ўзброеныя сілы. Захад ультыматуму не прыняў, таму Берлін разрэзала сумна вядомая бетонная сцяна.

30 кастрычніка 1961 года ў 11 гадзін 33 хвіліны маскоўскага часу над архіпелагам Новая Зямля, што ў Паўночным Ледавітым акіяне, адбыўся выбух 50-мегатоннай тэрмаядзернай бомбы, якую неафіцыйна ахрысцілі «Цар-бомба». Успышка была бачная на адлегласці 1000 км, а сейсмічная хваля ад выбуху тройчы абышла зямны шар.

Гэта было выпрабаванне Савецкім Саюзам самай магутнай выбуховай прылады ў гісторы чалавецтва. І недвухсэнсоўнае пасланне Злучаным Штатам Амерыкі. Такімі тэмпамі свет упэўнена рухаўся ў бок самазнішчэння. Напружанасць паміж СССР на чале з Мікітам Хрушчовым і новай амерыканскай адміністрацыяй Джона Кенэдзі была страшэннай.

WIKIMEDIA COMMONS




Элітны дом, у якім **жыла сям'я Пянькоўскіх.**

У кастрычніку 1962 года СССР размясціў на Кубе 40 балістычных ракет з ядзернымі боегалоўкамі. Аперацыя праводзілася ў надзвычайнай сакрэтнасці: савецкім вайскоўцам казалі, што яны накіроўваюцца на Чукотку, і выдавалі футры ды лыжы, а капітанам пра пункт прызначэння паведамілі толькі пасля адплыцця.

Пянькоўскі перадаваў звесткі за мяжу на працягу шаснаццаці месяцаў. Якую інфармацыю атрымалі брытанская і амерыканская спецслужбы за гэты час?

У колькасным пераліку даволі шмат: 5 тысяч здымкаў, сярод якіх пэўную частку займалі старонкі савецкіх ведамасных часопісаў «Военная мысль», «Артиллерийский сборник», «Военный вестник». Былі і сакрэтныя звесткі, якія мелі палітычны, эканамічны і ваенны характар.

Выказваліся думкі, што менавіта ад Пянькоўскага амерыканскі ўрад атрымаў звесткі, што дазволілі знайсці савецкія ракеты на Кубе.



WIKIMEDIA COMMONS

**Плакат часоў халоднай вайны.**







**Так сачылі за Алегам Пянькоўскім.**

У тыя дні сапраўды магла распачацца Трэцяя сусветная вайна. Аднак бакі пайшлі на ўзаемныя саступкі: СССР прыбраў ракеты з Кубы, а Амерыка пакінула ў спакоі Фідэля Кастра і прыбрала ракеты з Турцыі.

### Супераперацыя супраць суперагента

Пад нагляд КГБ Алег Пянькоўскі трапіў вельмі хутка (хоць і выпадкова). А вось далей адбыліся падзеі, у якіх шмат неверагоднага і незразумелага.

Камітэтчыкі круглыя суткі сачылі за Пянькоўскім, яго цяжарнай жонкай і дачкой. Спецыяльныя брыгады колькасцю да некалькіх дзясяткаў чалавек фіксавалі кожны іх рух. Кватэру Пянькоўскіх шчыльна нашпігавалі апаратурай для праслухоўвання. Сям'ю, якая жыла паверхам вышэй, тэрмінова перасялілі ў іншы дом. А ў падлозе іх кватэры прасвідравалі непрыкметную дзірачку непасрэдна над пісьмовым сталом Пянькоўскага. Яшчэ адну адтуліну зрабілі на суседскім балконе, адкуль таксама вёўся запіс усяго, што рабіў палкоўнік ГРУ.

Кватэру рэгулярна і старанна абшуквалі. Пры гэтым кожны відэлец на кухні, кожная кніга на паліцы, кожная рэч асабістага гардэробу жыхароў гэтай кватэры пакідаліся дакладна на тым самым месцы, дзе былі дагэтуль. Тут усё адбывалася так, як апісаў у рамане «1984» Джордж Оруэл: «Дзе б ён ні быў, удзень ці ўначы, на працы ці на адпачынку, у ванне ці ў ложку, за ім могуць назіраць без папярэджання, так, што ён і не будзе пра гэта ведаць. Нічога з таго, што ён робіць, не можа заставацца незаўважаным. З кім ён сябруе, як бавіць час, як ставіцца да жонкі і дзяцей, які ў яго твар, калі ён адзін, што ён мармыча праз сон, нават яго характэрныя рухі — усё назіраецца з назольнай дакладнасцю».

## Пянькоўскага завезлі на Лубянку і правялі па калідорах голым

Алег Пянькоўскі жыў у Маскве ў элітным доме. Вокны яго пакоя, абсталяванага пад кабінет, выходзілі на Маскву-раку. Паміж домам і ракой былі яшчэ дарога і набярэжная. Зазірнуць праз вокны ў яго кватэру маглі адно што гарадскія птушкі. Ён адчуваў сябе ў поўнай бяспецы. Таму, павольна адкінуўшы фіранкі, смела выкладаў пад дзённае святло прынесеныя са службы дакументы. Даставаў шпіёнскі «Мінокс» і пачынаў чарговую «фотасесію».

У гэты ж самы момант з гарышча аднаго з будынкаў, які стаяў праз раку насупраць, чалавек «у штацкім» пачынаў шчоўкаць сваім суперсучасным фотаапаратам, абсталяваным звышмагутнай оптыкай. Тое самае рабілі і часовыя «суседзі» зверху, якія знаходзіліся літаральна над галавой Пянькоўскага.

Гэтыя кошкі-мышкі працягваліся больш за год. Скончылася арыштам, які адбыўся нечакана проста на вуліцы. Арышт праводзіў асабіста першы намеснік старшыні КГБ генерал-палкоўнік Пётр Івашуцін (ураджэнец Брэста, дарэчы). Пянькоўскага завезлі на Лубянку, дзе, распранутага дагала, правялі па мармуровых вестыбюлях і гранітных прыступках (фірмовае «вітанне», каб псіхалагічна зламаць арыштаванага). Далей былі сем месяцаў следчых дзеянняў і ўрэшце расстрэл у сутарэннях Бутырскай турмы.




**Алег Пянькоўскі падчас суда.** 11 мая 1963 года.

## Гульні шпіёнаў




**Мераб Нінідзэ** ў ролі Алега Пянькоўскага.

У гэтым годзе ў пракат выйшаў фільм «Кур'ер» («Гульні шпіёнаў») брытанскага кінарэжысёра Дамініка Кука, заснаваны на падзеях 1960-х. Высокапастаўлены савецкі служачы Алег Пянькоўскі (у яго ролі Мераб Нінідзэ) турбуецца з-за гонкі ўзбраенняў і хоча папярэдзіць цалкам магчымую, на яго погляд, ядзерную вайну. Стаць кур'ерам паміж ім і амерыканскай разведкай выпадае не надта паспяховаму камерсанту Грэвілу Уіну (Бенедыкт Камбербэтч). Наш Мінск таксама «здымаецца» ў стужцы: калі трэба ўзмацніць напружанне і паказаць магутнасць і бязлітаснасць савецкай сістэмы, у кадры з'яўляецца Палац Рэспублікі на Кастрычніцкай плошчы.

## Першая версія. Проста здраднік

Пасля заканчэння суда стэнаграма гэтага мерапрыемства была выдадзена 100-тысячным накладам. Асобныя часткі гэтага «бестселера» абмяркоўвалі падчас інфармацыйных гадзін у навучальных установах, працоўных калектывах, армейскіх падраздзяленнях.

Заключнае слова ваеннага пракурора генерал-лейтэнанта Арцёма Горнага не павінна было пакінуць сумневаў у справядлівасці прысуду: «Абвінавачаны Пянькоўскі — адступнік, кар'ерыст, маральна разбэшчаная асоба, якая стала на шлях здрады і прадажніцтва радзімы, — аказаўся на службе ў імперыялістычных разведслужбаў».

## Другая версія. Супергерой

На Захадзе тое, што адбылося, назвалі «феноменам Пянькоўскага». Быццам бы, усведамляючы авантурнасць замежнай палітыкі Савецкага Саюза, ён марыў выратаваць чалавецтва ад ядзернай катастрофы, таму і пайшоў на супрацоўніцтва з заходнімі спецслужбамі. У заходніх газетах яго з піетэтам называлі «шпіёнам, які выратаваў свет».

У 1965 годзе ў ЗША вялікім накладам выйшла кніга «Запіскі Пянькоўскага». Дзе ў той кнізе словы аўтара, а дзе фантазіі складальнікаў, цяпер сказаць цяжка. Але ўсё адно праўда на старонках кнігі прысутнічала. І не вельмі прыгожая для тагачаснай кіраўнічай савецкай эліты, унутры якой хапала і маральнага разлажэння, і двухаблічнасці, і крывадушнасці.

Лічыцца, што менавіта дзякуючы звесткам, якія перадаў савецкі палкоўнік амерыканцам, быў патушаны Карыбскі крызіс

і тым самым прадухілена катастрофа Трэцяй сусветнай вайны.

### Трэцяя версія. Гераічны савецкі разведчык

Некаторыя да сёння лічаць, што справа Пянькоўскага была інсцэніроўкай, суперапрацыяй савецкіх спецслужбаў — «спектаклем, пастаўленым на Лубянцы». Згодна з канспіралагічным сцэнарыем, галоўны герой пасля паспяхова зробленай працы і ўяўнага расстрэлу знік з поля зроку грамадскасці і працягваў жыццё ўжо шчаслівага пенсіянера пад іншым прозвішчам недзе ў расійскай глыбінцы. Так бы мовіць, жыццё пасля смерці.

### Чацвёртая версія. Падстаўная фігура

У 1990-я гады ў расійскіх СМІ («Военно-исторический журнал», «Красная звезда») прагучала, што папраўдзе Алег Пянькоўскі атрымаў заданне ад ГРУ пад выглядам служачага Дзяржаўнага навукова-тэхнічнага камітэта ўвайсці ў давер да маскоўскай агентуры амерыканскай або англійскай разведак. Нават назвалі канкрэтнага чалавека, які паставіў яму такую задачу — начальнік ГРУ Генеральнага штаба генерал арміі Іван Сяроў. А сакрэтнай інфармацыяй, недаступнай звычайнаму палкоўніку ГРУ, з Пянькоўскім шчыра дзяліўся цэлы галоўны маршал артылерыі Сяргей Варэнцоў, які на той час камандаваў ракетнымі войскамі і артылерыяй сухапутных войскаў СССР.

Аднак выпадкова Алег Пянькоўскі трапіў пад распрацоўку КГБ (супрацоўнікі Сёмага ўпраўлення падчас планавага назірання за жонкай англійскага дыпламата зафіксавалі яе кантакт з незнаёмым мужчынам). І ў далейшым стаў падстаўной фігурай у супрацьстаянні паміж КГБ і ГРУ.

### Пятая версія. Ахвяра барацьбы за ўладу

Пянькоўскі мог быць разменнай манетай у інтрыгах партапаратчыкаў.




**Пропуск Алега Пянькоўскага** ў будынак Генеральнага штаба.

Вядома, што 18 снежня 1961 года старшыня КГБ генерал-палкоўнік Уладзімір Сямічасны пісьмова праінфармаваў аднаго з членаў Прэзідыума ЦК КПСС (так тады звалася Палітбюро), сакратара ЦК Фрола Казлова (на той момант другога чалавека ва ўладзе пасля ▶

**Казлоў Фрол Раманавіч** (1908–1965), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, у 1960–1964 гадах сакратар ЦК КПСС. Прэтэндаваў на галоўную ролю ў Савецкім Саюзе, лічыўся верагодным пераемнікам Хрушчова. Па ўспамінах сучаснікаў, быў уладным і рашучым, «прасталінска настроеным», «адзначаўся рэзкасцю і жорсткасцю і моцна трымаў у кулаку ўсе справы», «дзеля кар'еры мог пайсці на многае», а «інтрыгі замянілі для яго сапраўдную працу». Менавіта Казлоў падчас масавых беспарадкаў у Новачаркаску ў 1962 годзе загадаў прымяніць зброю супраць людзей, якія сабраліся перад гаркамам партыі. Рэпутацыю ў наменклатуры ён меў не найлепшую, таму правал ягонага прыходу да ўлады замест Хрушчова многія сустрэлі з палёгкай.




**Пісьмовы стол Пянькоўскага, у якім быў знойдзены тайнік**, дзе ён захоўваў фальшывы пашпарт, інструкцыі і «сігнальныя» паштоўкі.

Мікіты Хрушчова) аб уцечцы звышсакрэтнай інфармацыі ад найвышэйшага кіраўніцтва Узброеных сіл Савецкага Саюза і аб ролі ў гэтым палкоўніка ГРУ Алега Пянькоўскага.

Аднак Казлоў, які кантраляваў і кадры партыйна-дзяржаўнага апарату, і ваенную прамысловасць, і дзяржбяспеку, вырашыў выкарыстаць гэта ў барацьбе за пасаду першага сакратара. Таму загадаў шэфу КГБ не перашкаджаць шпіёну, а назіраць і чакаць зручнага моманту: «Не хвалюйцеся, усё трымаем пад кантролем, я сам паведамлю пра гэту справу Мікіту Сяргеевічу».

Можа, Казлоў чакаў зручнага моманту, каб дыскрэдытаваць Хрушчова і вярхушку Савецкай Арміі? Ці нават сам стварыў Пянькоўскага-агента для гэтага?

## Ці спалілі Пянькоўскага жыўцом?

Гэтую версію запусціў іншы савецкі перабежчык — Уладзімір Разун (літаратурны псеўданім — Віктар Сувораў). Аднак гэта міф, у адзін голас кажуць абазнаныя савецкія спецслужбісты.

А 22 кастрычніка 1962 года ЗША ўручылі савецкаму ўраду ноту з патрабаваннем неадкладна прыбраць з Кубы свае ракеты і ядзерныя боегалоўкі, выявіўшы дэталёвую інфармаванасць аб відах і тыпах савецкіх ракет. Гульня правалілася.

У гэты ж дзень Алег Пянькоўскі быў неадкладна арыштаваны. А ў Фрола Казлова праз паўгода здарыўся інсульт. Яго цяжкая хвароба кардынальным чынам змяніла расклад сілаў у кіраўніцтве краіны, на ягонае месца быў абраны Леанід Брэжнеў.

## Што пасля

Працяг гэтай гісторыі таксама неадназначны.

Галоўнага маршала артылерыі Сяргея Варэнцова і генерала арміі Івана Сярова пакаралі аднолькава: пазбавілі званняў Герояў Савецкага Саюза і разжалавалі да генерал-маёраў — «за страту пільнасці». Такі падыход быў тыповы для Хрушчова.

А вось сям'ю Алега Пянькоўскага рэпрэсіі не закранулі. Ім выдалі іншую кватэру. Былой жонцы Пянькоўскага дапамаглі ўладкавацца на працу рэдактарам у выдавецтва замежнай літаратуры. Старэйшая дачка паспяхова скончыла філалагічны

## Дзённік Пянькоўскага

Справы Пянькоўскага і Уіна дагэтуль засакрэчаныя. Аўтарства дзённіка Алега Пянькоўскага, апублікаванага на Захадзе, аспрэчваецца. Аднак думкі, пададзеныя ў ім, гучаць праўдзіва.

«Як палітрук, я быў кіраўніком і асветнікам салдацкіх мас. Я верыў у савецкую сістэму і быў гатовы даць адпор любому, хто хоць бы адно слова скажа супраць яе.

Але прасвятленне прыйшло да мяне не столькі нават на вайне, колькі пазней, калі па родзе службы мне прыйшлося цесна мець зносіны з высокімі чынамі і генераламі Савецкай Арміі. Ажаніўшыся з генеральскай дачкой, я апынуўся ў коле вышэйшага савецкага грамадства. Я зразумеў, што ўсхваленне партыі і камунізму — усяго толькі рытуальныя фразы ў іх асяроддзі. У прыватным жыцці яны хлусілі, падманвалі, рабілі паскудствы, інтрыгавалі, даносілі і гатовыя былі перагрызці адзін аднаму глоткі.

Дзеля грошай і атрымання тых ці іншых выгод яны даносілі КГБ на сваіх сяброў і калег. Іх дзеці грэбавалі ўсім савецкім, глядзелі толькі замежныя фільмы і пагардліва ставіліся да простых людзей. Наш камунізм, які мы будуем амаль сорак пяць гадоў, аказаўся падманам.

Я і сам быў часткай гэтага падману; бо, што ні кажы, я ўваходзіў у разрад прывілеяваных. Некалькі гадоў таму я стаў адчуваць агіду да сябе, не кажучы ўжо пра нашых любімых правадыроў і кіраўнікоў. Я адчуваў раней і адчуваю зараз неабходнасць нейкага ўнутранага ачышчэння, якое надасць сэнс майму існаванню.

Я спрачаўся з сабой. Я праклінаў сябе. Нарэшце я прыйшоў да безумоўнай высновы, што тая сістэма, якую мы называем "нашым камуністычным грамадствам", усяго толькі фасад».

І далей: «Я пагарджаю сабой, бо я частка гэтай сістэмы і жыву ў хлусні. Ідэалы, за якія гінулі мільёны нашых бацькоў і старэйшых братоў, ператварыліся ў блеф і падман. Я ведаю армію, многія афіцэры думаюць сапраўды гэтак жа. Я ўсхваляю нашых лідараў, але ў глыбіні душы жадаю ім пагібелі. Я маю зносіны са шматлікімі высокапастаўленымі людзьмі: міністрамі і маршаламі, генераламі і старшымі афіцэрамі, членамі Цэнтральнага камітэта КПСС. Мне асабіста ніхто з іх не зрабіў нічога дрэннага, наадварот, некаторыя з іх дапамаглі мне дасягнуць сённяшняга майго стану. А сёй-той і сёння дапамагае. Тым не менш я не магу больш выносіць гэтага двудушнага існавання.

Урад Хрушчова — гэта ўрад авантурыстаў. Дэмагогі і хлусы, якія прыкрываюцца сцягам барацьбы за мір. Хрушчоў не адрокся ад вайны. І пры спрыяльным для яго збегу абставінаў ён неадкладна яе развяжа. Яго неабходна спыніць».

факультэт Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ламаносава, і вядома, што нейкі час нават служыла ў адным з упраўленняў КГБ.

У злапамятнай савецкай сістэме гэтыя факты выглядаюць больш чым дзіўна. Відаць, не так проста адказаць на пытанне, кім быў напраўдзе Алег Пянькоўскі.

Адно бясспрэчна: у савецкіх спецслужбах у другой палове XX стагоддзя выявілася шмат кратоў і з'явілася шмат перабежчыкаў. Некаторым з іх, ад палкоўніка Алега Гардзіеўскага да генерала Алега Калугіна, удалося шчасліва перабрацца на Захад. ◆

## Халодная вайна спецслужбаў

Заходнія агенты пранікалі ў савецкія структуры, а савецкія — у заходнія.

**Алег Гардзіеўскі**, палкоўнік замежнай разведкі КГБ. Працаваў на брытанскую разведку з 1974 да 1985 года. Пачаў працаваць на брытанцаў з ідэйных меркаванняў, расчараваўшыся ў савецкай сістэме. Гэта здарылася падчас яго службы ў Даніі, з падачы дацкай разведкі, якая зафіксавала настроі Гардзіеўскага. Калі на яго пала падазрэнне, брытанскія дыпламаты вывезлі яго ў тайніку аўтамабіля. Дагэтуль жывы і дзейны.

**Дытэр Герхарт**, камандор Ваенна-марскога флоту Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі. Працаваў на савецкае ГРУ з 1962 да 1983 года. Сцвярджаў, што працаваць пачаў з ідэйных меркаванняў, нязгодны з сістэмай апартэіду, але прымаў узамен за сваю працу мільённыя сумы ў валюце. Перадаў СССР сакрэты найноўшых французскіх і брытанскіх ракет, якія былі на ўзбраенні флоту ПАР. Раскрыў яго завербаваны французскай разведкай падпалкоўнік КГБ Уладзімір Ветраў. Французы, у сваю чаргу, перадалі матэрыялы Ветрава амерыканцам. Арышт Герхарта, яго жонкі-сувязной і іх куратара, палкоўніка ГРУ Віталія Шлыкава, быў аперацыяй, у якой удзельнічалі і спецслужбы Швейцарыі. Герхарта асудзілі да пажыццёвага зняволення, але ён выйшаў на свабоду праз 9 гадоў пасля падзення сістэмы апартэіду.

**Дзмітрый Палякоў**, генерал-маёр ГРУ, з 1961 да 1986 года працаваў на ЦРУ. Перадаў амерыканцам інфармацыю аб прыкладна 1650 савецкіх разведчыках і агентах. Амерыканцы не раз прапаноўвалі яму застацца на Захадзе, ён адмовіўся, бо дзейнічаў з ідэйных меркаванняў. Раскрылі яго, калі ён ужо быў пенсіянерам. У 1987 годзе яго расстралялі. Магчыма, дзейнасць Палякова — гэта самая вялікая ўцечка інфармацыі ў гісторыі спецслужбаў XX стагоддзя.

**Олдрыч Эймс** — кіраўнік аддзела СССР і Усходняй Еўропы ў контрразведцы ЦРУ. Працаваў на савецкую разведку з 1985 да 1994 года. Ён выдаў не менш за 12 амерыканскіх агентаў у СССР і Расіі, 10 з іх былі прыгавораныя да смяротнага пакарання. Пішуць, што ў Маскве былі шакаваныя колькасцю агентуры ва ўласных шэрагах. Эймс дзейнічаў за грошы, атрымаў агулам каля 4,6 мільёна даляраў. Прыгавораны да пажыццёвага зняволення.



WIKIMEDIA COMMONS

Палкоўнік КГБ Алег Гардзіеўскі супрацоўнічаў з брытанскай выведкай 11 гадоў, а калі яго нарэшце западозрылі, брытанскія дыпламаты вывезлі яго праз фінскую мяжу. **На фота: амерыканскі прэзідэнт Рональд Рэйган прымае Алега Гардзіеўскага.**

# Чые жамчужыны рассыпаліся ў Магілёве

**Гэта было ў апошнія гады эпохі абсалютных манархій. У куродыме феерверкаў і прыдворнай мітусні, пад абыякавыя позіркі магілёўцаў два чужыя імператары дзялілі Турцыю і Рэч Паспалітую і на радасцях будавалі класіцыстычныя храмы. Байку пра заснаванне сабора Святога Іосіфа ў Магілёве выкрывае Аляксей Бацюкоў.**

У магілёўскіх экскурсаводаў ёсць улюбёная паказка. Нібыта падчас закладкі ў Магілёве ў 1780 годзе сабора Святога Іосіфа ў расійскай імператрыцы Кацярыны II парвалася нітка караляў — і жамчужыны пасыпаліся на зямлю. Світа кінулася падбіраць, аднак імператрыца спыніла падданых словамі: «Не трэба. Няхай гэты будынак будзе такі ж прыгожы, як мае каралі». Як мы потым пабачым, каралі былі зусім не Кацярыны, ды і рассыпаліся яны і не выпадкова, і не там.

## Грэчаскі праект на магілёўскіх землях

Але спачатку кантэкст. У 1768 годзе пратэст шляхты супраць расійскага ўмяшальніцтва ў справы краіны і караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага, былога каханка Кацярыны, аформіўся ў Барскую канфедэрацыю. Расія ўзялася бараніць нежаданага караля — і гэта паслужыла *casus belli* (фармальнай прычынай) для руска-турэцкай вайны 1768–1774 гадоў, бо Асманская імперыя мела на Рэч Паспалітую свае віды. У выніку расійскія войскі Барскую канфедэрацыю раздушылі, землі Рэчы Паспалітай усходней за Дняпро, Друць і Дзвіну адабралі, у вайне з туркамі перамаглі. Па яе выніках да Расіі адышлі крымскія тэрыторыі Керч і Енікале, а Крымскае ханства трапіла пад расійскі пратэктарат.

Вось у гэтыя самыя часы, калі Расія пераправаўляла першую порцыю адабраных у Рэчы Паспалітай і Турцыі зямель, імператрыца выступіла з нечаканай ініцыятывай, якую гісторыкі называюць «грэчаскім праектам». Для іншых



ФОТА СА ЗБОРАЎ ДАВІДА АЛЕГА ЛІСОЎСКАГА



**Саборная плошча (праект).** Акварэль Мікалая Львова.

абсалютных манархаў Еўропы гэта стала неспадзяванкай: яны не бачылі мэтазгоднасці так рэзка мяняць баланс сілаў у рэгіёне.

Ідэя Кацярыны заключалася ў тым, што нанесці цяпер аслабленай Турцыі ваеннае паражэнне будзе не цяжка, а пасля можна пасадзіць на грэчаскі трон (а ў самых смелых марах — на трон адроджанай Візантыі) унука Кацярыны, Канстанціна Паўлавіча, якому ад самага нараджэння ў 1779 годзе вызначылі лёс стаць «першым уладаром вызваленага грэчаскага народа». Не дарэмна ж яго, урэшце, назвалі Канстанцінам — нетыповым тады яшчэ іменем для дынастыі Раманавых.

Прыдворныя творцы вельмі чула адгукаюцца на мроі першых асобаў геапалітыкі. Так, неўзабаве каля Царскага Сяла, у нядаўна створаным павятовым гарадку Сафія будзе пабудавана мініяцюрная копія Сафійскага сабора. А потым яшчэ і ў самім Царскім Сяле паўстане стылізаваная рэінкарнацыя Ая-Сафіі — Узнясенскі сабор. Але першым маніфестам грэчаскага праекта стане магілёўскі сабор Святога Іосіфа.

Гэты сабор спраектаваў малады і яшчэ не вядомы архітэктар-самавучка Мікалай Львоў. У адным будынку ён хацеў увасобіць мары пра Грэцыю ва ўсёй яе гістарычнай рэтраспектыве: дарычныя калоны звонку, іанічныя і карынфскія — усярэдзіне, візантыйскі купал і агульны вобраз раннехрысціянскай базілікі.

## Ці можа імператар застацца інкогніта

Каб абмеркаваць раскройванне Усходняй Еўропы, да Кацярыны інкогніта прыехаў эрцгерцаг Аўстрыі і імператар Святой Рымскай імперыі Іосіф II. Сустрэча двух манархаў адбывалася ў паўпадпольнай атмасферы: даводзілася захоўваць таямніцу і сцерагчыся іншых уплывовых гульцоў — Францыі і Брытаніі. Таму Іосіф прыехаў пад іменем графа Фалькенштэйна. Ён часта рабіў так у падарожжах, калі хацеў падкрэсліць, што не збіраецца праз сваю асобу рэпрэзентаваць ▶




WIKIMAPIA.ORG

**У 1937 годзе, падчас «сталічнай» рэканструкцыі Магілёва, сабор разбурылі.** На месцы святыні ўзвялі гасцініцу «Дняпро». Цяпер у будынку офісны цэнтр. Ад Саборнай плошчы засталася толькі арка, на ёй напісалі назвы савецкіх вайсковых часцей, якія вызвалялі Магілёў у 1944-м.


WIKIMEDIA COMMONS

**Іосіф II Аўстрыйскі** (1741–1790), імператар Святой Рымскай імперыі (з 1765).

усю Аўстрыю. Пазнаваць у ім імператара ў такіх паездках лічылася некарэктным.

Сучаснік і ўдзельнік гэтых падзей, аўтар цудоўных мемуараў расійскі чыноўнік Гаўрыла Дабрынін згадвае характэрны эпізод. Магілёўскі губернатар Пётр Пасек выпадкова сустрэў апранутага простым афіцэрам Іосіфа II — а яны былі знаёмыя — на Гандлёвай плошчы Магілёва і аддаў яму незвычайна нізкі паклон, дэзавуяваўшы такім чынам інкогніта імператара. Ужо праз некалькі хвілін Пасек каяўся перад набліжанымі, што зрабіў памылку ад нечаканасці.

Кацярына, зразумела, ні ад каго не хавалася, і першыя пару дзён яе працоўнай паездкі ў «новаатрыманыя землі» суправаджаліся неабходнай для двара пампезнасцю і бляскам. Драўляная трыумфальная арка за тры вярсты ад горада, працэсія чыноўнікаў, урачыстая прамова архіепіскапа Георгія Каніскага, некалькі тэатральных пастановак, ваенныя манеўры і штовечаровыя феерверкі.

На чацвёрты дзень гулянняў імператрыца Кацярына II планавала раздаваць падарункі. Але на галоўную сцэну выйшаў вельмі ўпэўнены ў сабе чалавек, які ўсё ўсім сапсаваў.

## Як прымусіць усіх цябе ненавідзець

Захар Грыгор'евіч Чарнышоў быў генералам-фельдмаршалам


WIKIMEDIA COMMONS

**Сустрэча Кацярыны II і Іосіфа II.** Ёган Еранім Лёшэнколь. Музей гісторыі Вены.




**Захар Чарнышоў**, першы беларускі генерал-губернатар (1772–1782).

далучанага да Расіі Беларускага генерал-губернатарства — галоўным намеснікам манарха на нашых землях. Кажуць, што ў маладосці ў яго была закаханая жонка будучага імператара Пятра III. Так-так, яна самая — цяпер ужо імператрыца, Кацярына Аляксееўна.

Але Чарнышоў быў даўнім фаварытам, а разам з Кацярынай у Магілёў прыехаў фаварыт цяперашні, князь Грыгорый Аляксандравіч Пацёмкін.





**Георгій Каніскі.** Яго ні з кім не зблытаеш: вельмі ж нос характэрны.

На гэты самы чацвёрты дзень Чарнышоў стаў угаворваць Пацёмкіна («праз якога цяклі ўсе міласці», падкрэсліць адзін сучаснік падзей), што было б зусім някепска ўшанаваць магілёўскага праваслаўнага епіскапа Георгія Каніскага панагіяй*. Пацёмкін пагадзіўся імгненна і пайшоў адразу ў кабінет Кацярыны. Хутка вярнуўся з панагіяй і са словамі «Будзьце ласкавыя самі адвезці пажаданую вамі ўзнагароду архіепіскапу».

Чарнышоў засмяяўся: «У вас ёсць на гэта ад'ютанты, а я ўжо, мой шаноўны, стараваты для рассылак». Пацёмкін так і зрабіў, сумеўшыся: адправіў панагію ▶

**Выѣздъ государыни-императрицы изъ Могилева былъ предъ полуднемъ, при колокольномъ звонѣ, при пушечной пальбѣ и при вяломъ стеченіи городского народа, ибо не долженъ я пропустить, что бѣлорусскіе жители, почти всѣхъ состояній, — исключая любопытныхъ жидовъ, когда у нихъ не саббасъ,—смотрятъ на великой и малой предметъ, на печальной и радостной, съ кошечьимъ равнодушіемъ и совсѣмъ не имѣютъ той пріятной наружности, которая раждается отъ внутреннихъ движеній, при случаѣ отличныхъ предметовъ.**

**З кнігі «Истинное повествование, или Жизнь Гавриила Добрынина**, им самим написанная в Могилёве и в Витебске».

* **Панагія** — невялікі багата ўпрыгожаны абраз, які носяць на грудзях епіскапы (архірэі).

з ад’ютантам. На адзіным прыжыццёвым партрэце Каніскага мы яе і бачым.

Але Кацярыне на непрыемны выпадак з Чарнышовым Пацёмкін паскардзіўся. І нібыта гэта так раз’юшыла імператрыцу, што яна не толькі з графам Чарнышовым стала падкрэслена стрыманай, але і шчодрыя ўзнагароды чыноўнікам беларускіх губерняў, ордэны і падарункі, раздаваць передумала. Назаўтра Кацярына і Іосіф заклалі Іосіфаўскі сабор — і праз пару дзён з’ехалі.

Гаўрыла Дабрынін сцэну імператарскага ад’езду пераказвае даволі цікава: маўляў, беларусы на ўсе падобныя праявы глядзелі з кашэчай абыякавасцю.




Цяпер у Магілёве ставяць інфармацыйныя шыльды з QR-кодамі, па якіх можна ўбачыць сучасную візуалізацыю страчаных помнікаў архітэктуры. **На фота — сабор Святога Іосіфа ў рэканструкцыі Алега Іванюка.**

### Вінаваты, а расплачвацца жонцы

Па ад’ездзе Кацярыны архіепіскап Георгій Каніскі даваў абед. У сваіх успамінах пра тыя падзеі сын магілёўскага губернатара Леў Энгельгарт распавядаў, што граф Чарнышоў, пацяжэўшы пасля віна, выступіў перад гасцямі:




**У Херсоне і дагэтуль стаіць сабор Святой Кацярыны**, заснаваны Грыгорыем Пацёмкіным у 1781 годзе. Яго называюць «братам» магілёўскага сабора Святога Іосіфа.

— Ну, сябры мае, я вінаваты перад вамі, што ніхто з вас не ўзнагароджаны. Прызнаюся, дарма пагарачыўся. Ну затое хоць дарункам сваёй жонкі падзялюся з вамі.

З гэтымі словамі ён разарваў каралі на графіні Ганне Чарнышовай, што сядзела побач. І пасыпаліся жамчужыны.

Раз’ехаўся двор, раз’ехаліся чыноўнікі беларускіх губерняў — і са шматлюднага і чаднага горада Магілёў ператварыўся ў ціхае і прасторнае места, альбо, кажучы словамі Энгельгарта, — «прыняў свой выгляд».

А грэчаскія праекты так праектамі тады і засталіся. Дабіваць Асманскую імперыю ў той час не наважыліся, і незалежная Грэцыя паўстала толькі ў 1830 годзе, дый тое стараннямі Брытаніі і без Канстанцінопаля. Хоць пра ўсталяванне кантролю над чарнаморскімі пралівамі расійскія самаўладцы працягвалі марыць да самага канца існавання Расійскай імперыі. ◆

# «Паравы чалавек»

## Цыганովы боты, японскія камікадзэ і п’янства за рулём



З СЯМЕЙНАГА АРХІВА АЎТАРА

**Васіль Казлоўскі.** Канец 1950-х – пачатак 1960-х. Вуліца Прудская, вёска Лебедзева.

**Хачу расказаць пра лёс майго дзеда па кудзелі Васіля Казлоўскага. Ён нарадзіўся 15 ліпеня 1915 года (хоць ва ўсіх афіцыйных дакументах памылкова фігуруе 1917-ы) у вёсцы Забарэчча цяперашняга Крупскага раёна, піша наш чытач Вячаслаў Курбака з Маладзечна.**



Б.С.С.Р.

Крупскі ... Крупскі Раённы Выканаўчы Камітэт

ДАВЕДКА

Даведка гэта гр-ну Казлоўскі Васіль Андрэеў вескі Забарэчча Сельсавету Забарэцкага у тым, што Камісія па акрэдаленьню ўзросту пры Крупскім Райвыканкоме ... 1933 г. ... яму ўстаноўлена дата нараджэньня ... семнаццатага (1917)

Што і сьведчыцца. Выдана для прад'яўленьня у ...

СТАРШЫНЯ КАМІСІІ

САКРАТАР

З СЯМЕЙНАГА АРХІВА АЎТАРА

**Даведка аб узросце Васіля**, 1933 год.

Дзедаў бацька Андрэй быў ляснічым і заўсёды меў магчымасць зарабіць з лесу дадатковую капейчыну. Сям’я мела сем з паловай гектараў уласнай зямлі, але ўвесь сельскагаспадарчы клопат пры вечна занятым бацьку клаўся ў асноўным на маці Таццяну і дзяцей. Апроч Васіля, у сям’і быў яшчэ адзін сын, Пётра, а таксама дзве дачкі — Домна і Марыя.

Дзеці мусілі хадзіць пешшу ў школу, што месцілася ажно за дзясятак кіламетраў, у Халопенічах. Ішлі, калі была цёплая пара года, басанож, а «неацэнныя» чаравікі вешалі на плячо, бо вельмі бераглі, апранаючы іх толькі ў будынку школы.

### Цыганскія боты

Дзеткі хадзілі на навучанне звычайна толькі гуртом, бо навакольныя мясціны ў міжваенныя часы былі поўныя ваўкоў, якія маглі нападаць на адзінокіх падарожных. Аднойчы Васіль пазніўся пасля школы і мусіў ісці адзін. У цемры з ускраіны бору даносілася працяглае выццё, нібы светлячкі, там і тут знічамі свяціліся воўчыя вочы. Ад жаху хлопец гучна заспяваў, пачаў выцягваць з торбы сшыткі і павольна, па аркушы, паліць іх, ідучы. ▶

▶ Вынаходлівасць, магчыма, выратавала хлопчыку жыццё.

Згадваў дзед і яшчэ адну містычную гісторыю з дзяцінства. Аднойчы каля яго Забарэчча спыніўся цыганскі табар, і адзін з цыганоў раздзеўся, каб пакупацца. Дзед жа падпільнаваў момант і... скраў ягоныя боты. Але цыган бачыў гэта і, злавіўшы малога Васіля за вуха, папрасіў вярнуць іх. Васіль пачаў аднеквацца, але цыган не паверыў і прадрок за гэты ўчынак цяжкі лёс яму і яго нашчадкам. «Эх, не боты былі, а — цуд, — успамінаў дзед. — Бліщчастыя, скураныя — мара! За іх і не тое сцерпіш!»...

### У Сібір

Але лёс сапраўды наперадзе быў цяжкі. Надыходзілі 1930-я — перыяд масавых рэпрэсій у СССР. Бацьку, маці і дзяцей як «не па часе» гаспадарлівых людзей раскулачылі і выслалі ў Сібір. Бязлітасная машына сталінскіх рэпрэсій падзяліла сям'ю. Але ўрэшце пасля доўгіх пакутаў лёс дазволіў маці і сёстрам вярнуцца ў роднае Забарэчча. А вось усялякія сляды бацькі Васіля, майго прадзеда, зніклі. На жаль, падрабязнасцяў пра гэта не ведаю: дзед не любіў пра той перыяд жыцця ўспамінаць. Увогуле, ягоныя расповеды пра маладосць, вайну і іншыя выпрабаванні жыцця былі вельмі рэдкія і заўсёды пад чарачку.

Пётра і Васіль пасля некалькіх гадоў прымусовага пасялення рабілі спробу адшукаць бацьку, але дарэмна. Пётра ў выніку ажаніўся ў Свярдлоўску (цяпер Екацярынбург) і застаўся там дажываць век. Васіль жа падаўся спачатку ў Сібір. У 1938 годзе паступіў у Канскі сельгастэхнікум і пасля яго заканчэння працаваў механікам у




**Брат Васіля Пётра з жонкай Ганнай**. 1942 год, Свярдлоўск.

сяле Вялікі Улуй Краснаярскага края да сакавіка 1939-га.

Але калі ў свеце замаячыла пагроза новай сусветнай вайны, Савецкі Саюз пачаў паступовую мабілізацыю, і Васіля таксама прызвалі ў Чырвоную армію. Там лёс дзеда быў звязаны з аўтатэхнікай, бо ён валодаў навыкамі кіравання і рамонту амаль усіх калёсных аўтамашын. І так сталася, што ўсю Другую сусветную яму давялося праслужыць на Далёкаўсходнім фронце.

Час прызыву ў войска супаў са знакамітымі баямі з японцамі на рацэ Халхін-Гол, у якіх дзеду хоць і апасродкавана, як аўтамеханіку, але прыйшлося паўдзельнічаць. Яны працягваліся з вясны ажно да верасня 1939 года, і гэта было першае баявое хрышчэнне Васіля. Пасля ж асноўны тэатр ваенных дзеянняў перамясціўся на захад, на вайну з немцамі, а на ўсходзе было куды спакайней.

Але наступіў жнівень 1945 года, і СССР пачаў наступальныя дзеянні супраць японцаў. Васіль удзельнічаў у знакамітай Маньчжурскай аперацыі. Памятаю, што дзед расказваў, як пад колы савецкай вайсковай тэхнікі кідаліся японцы, пераапранутыя ў кітайскіх сялян, абвязаныя выбухоўкай. Гэта былі так званыя «камікадзэ» — смяротнікі. «Жылі як на іголках», — казаў дзед Васіль, бо японцы, хоць і не мелі суперсучаснай зброі, адрозніваліся фанатычнай адданасцю сваёй Радзіме. За тыя кароткія пару месяцаў сапраўднай вайны нямала сівых валасоў дадалося на галаве маладога кіроўцы.

### Загадка матросаў і гранаты

Увогуле ж, з ягоных успамінаў ваенных часоў запомніліся два ўзаемазвязаныя выпадкі. Аднойчы, калі Васіль быў па справах палка ў камандзіроўцы, да яго падышлі двое салдат і папрасілі падкінуць іх у адно месца, што было не па дарозе. Дзед пагадзіўся, хоць гэта было і небяспечна, калі б даведалася начальства. Але калі пад'ехалі да месца прызначэння, то, на яго дзіва, з кузава вылезлі ўжо не салдаты, а пераапранутыя матросы. Якія, калі развітваліся, не толькі не аддзячылі яму, але ўдарылі па галаве, аглушыўшы. І добра, што ягонай затрымкі ў часці не заўважылі.

А неўзабаве пасля таго, у чэрвені 1944-га, з боекамплекту аддзялення, якім камандаваў старшы сяржант Васіль Казлоўскі, знікла баявая граната, якую пасля знайшлі ў ягонай тумбачцы. Дзед быў абвінавачаны ў дыверсіі і шпіянажы, яго некалькі разоў дапытвалі. І на адным з допытаў прысутнічаў афіцэр, у якім дзед пазнаў аднаго з тых матросаў. У канцы допыту той падышоў да следчага, пра нешта пашаптаўся з ім і выйшаў

З СЯМЕЙНАГА АРХІВА АЎТАРА



**Жонка Галіна (справа)** з калегамі. Канец 1940-х.

за дзверы. Больш на допыты Васіля не вадзілі і ў хуткім часе вярнулі па месцы службы. Да трыбунала справа не дайшла, толькі што са старшых сяржантаў разжалавалі ў проста сяржанты ды знялі з камандзіраў.

## З вайны вярнуўся не пешкі, а на грузавіку «Міцубісі»

Доўгачаканая дэмабілізацыя прыйшла ў лістападзе 1945 года. Пасля яе Васіль Казлоўскі быў «добраахвотна-прымусова» камандзіраваны для пад'ёму зруйнаванай народнай гаспадаркі БССР. «Лёс і партыя» накіравалі яго ў Заходнюю Беларусь, дзе для ідэалагічна апрацаванага савецкага хлопца ўсё было падазронае, дзіўнае і нават крыху варожае. Яму не падабалася, калі хтосьці з мясцовых жыхароў спрабаваў гаварыць па-польску, а любімай яго прымаўкай было «Едуць паны на равэрах — на паноў плююць».

У пачатку 1946-га дзед быў размеркаваны для працы шафёрам у Маладзечанскае райспажыўтаварыства, а ў 1949-м перабраўся на працу на цагельню ў вёску Мароські, дзе і сустрэў маю бабулю — маладую фельчарку Галіну Шыманскую, былую сувязную партызан Арміі Краёвай. У тым жа годзе яны пабраліся. У шлюбе ў іх нарадзіліся дзве дачкі: Людміла і Таццяна (мая мама). Цётка Людміла, дарэчы, маці некалі



**Васіль Казлоўскі.**
Канец 1940-х.

З СЯМЕЙНАГА АРХІВА АЎТАРА

вядомай беларускай спявачкі, вакалісткі рок-гурта *Hasta La Fillsta*, рок-князёўны'97 Хрысціны Мендзялеевай.

З вайны Васіль вярнуўся не пешкі, а на японскім грузавіку «Міцубісі», выдзеленым для патрэбаў мясцовай народнай гаспадаркі. І гэта ў той час, калі не толькі японскія аўтамабілі былі вялікай рэдкасцю, але і ўвогуле колькасць грузавога транспарту на ўвесь Маладзечанскі раён была мізэрная. З-за гэтага шафёра Васіля Казлоўскага на машыне прыцягвалі да ўсемагчымых мерапрыемстваў, у тым ліку і па лініі міліцыі.

## Пасляваенныя жахі

Аднойчы дзед забяспечваў транспартам следчае мерапрыемства, якое да глыбіні душы ўсхвалявала яго і не давала спакойна спаць па начах. У адной з вёсак нейкі былы франтавік у змове са сваёй каханкай забіў жонку і малую дачку. Забіў жорстка — сякерай. Забіць малое дзяўчо мужчына доўга не адважваўся і папрасіў дачку закрыць падолам сукенкачкі твар, нібы гуляе з ёй, а тады нарэшце ўдарыў. Калі мой дзед слухаў тыя жахлівыя расповяды нелюдзя, яго проста ванітавала. І такія выпадкі ў жорсткі пасляваенны час не былі рэдкімі.

Былі і іншыя няпростыя, хоць у параўнанні з ранейшай гісторыяй больш вясёлыя моманты. Аднойчы швагра майго дзеда (таксама Васіля) папрасілі перавезці мэблю з Маладзечна ў недалёкае мястэчка Лебедзева. Добра заклаўшы за каўнер у маладзечанскай прывакзальнай забягалаўцы «Блакітны Дунай», яны рушылі ў дарогу апоўначы і ўмудрыліся сутыкнуцца на шашы з іншым грузавіком. З сустрэчнай ▶

машыны выскачыў капітан з расшпіленай кабурой і пачаў раўсці: «Застрэліць цябе мала! Пару машын у раёне — і не змаглі размінуцца!» Доўга тады Васілю прыйшлося ездзіць па розных раённых МТС і скручваць патрэбныя дэталі, каб адкупіць шкоду і не трапіць пад суд.

## П'янства ўсеагульнае

Дарэчы, п'янства за рулём у першыя пасляваенныя дзесяцігоддзі, асабліва ў асяроддзі вадзіцеляў грузавой і іншай цяжкай тэхнікі, мела масавы характар. Лічылася звычайнай справай закласці за каўнер падчас абедзеннага перапынку «для апетыту». І часцей за ўсё гэтая кепская звычка сыходзіла кіроўцам з рук па некалькіх прычынах. Па-першае, малая агульная колькасць тэхнікі рабіла магчымай адносна бяспечную язду па дарогах нават з заплюшчанымі вачыма. Па-другое, цяжкая праца па пасляваеннай адбудове гаспадаркі патрабавала ў тым ліку і ад кіроўцаў ненармаванага працоўнага часу,




**Падчас маладзечанскай абласной сельгасвыставы,** 1956 год.


Вид удостоверения | Серия | № удостоверения | Дата | № | Дата протокола | № дела и страницы, где хранятся документы | Подпись нач. отделения

Учет нарушений и взысканий

| Дата нарушения | Краткая характеристика нарушения | Дата наложения взыскания | Мера взыскания |
|---|---|---|---|



**Вадзіцельская картка** прыцягвае ўвагу характарам парушэнняў.

а ў такіх абставінах як не прымаць «допінг». Па-трэцяе, чалавек з машынай быў непазбежным удзельнікам шматлікіх «калымаў», дзе асноўным сродкам разліку, улічваючы пасляваенную галечу, былі гарэлка і прадукты харчавання. А самае, бадай, галоўнае — большасць пасляваенных не толькі шафёраў, але і інспектараў ДАІ прыйшлі з франтавікоў і на фоне перажытых успамінаў пра ліхалецці вайны самі былі ніколі не супраць выпіць па сто грамаў «наркамаўскіх», у тым ліку сумесна з парушальнікамі.

## «Таварыш вадзіцель, прад'явіце дакуменцікі!»

Памятаю, дзед Васіль любіў распавядаць пра свайго сябрука-даішніка, які часам, бывала, спыняў яго, каб праверыць дакументы, і сам частаваў гарэлачкай, а на адваротным шляху тармазіў і з вялікай помпай пытаўся: «Таварыш вадзіцель, прад'явіце дакуменцікі!.. А пачаму вы п'яны?!.» У выніку дзед накрываў яму паляну «алаверды», і гэтак працягвалася не адзін год. Часам, праўда, калі інспектару не хапала планавых «дзірачак» (талоны да пасведчання кіроўцы тады «дыраколілі» за парушэнні), ён усё ж штрафаваў дзеда. Апеляцыі накшталт «Дык мы ж пару гадзін таму разам пілі!» не мелі ніякага эфекту.

Характар у дзеда быў запальны, ён усюды хутка псаваў адносіны з начальствам, таму за сваё жыццё змяніў нямала месцаў працы — і ў вёсках Маладзечанскага ды суседняга Смаргонскага раёнаў, і ў розных маладзечанскіх арганізацыях. Але ўсюды праца была звязана з тэхнікай. З добрым спецыялістам мірыліся, нягледзячы на яго круты характар, а ў 1968 годзе ён скончыў завочна Беларускі дзяржаўны інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі.

## Парадокс чырвонага чалавека

Што мяне заўжды здзіўляла: нягледзячы на справакаваную бальшавікамі трагедыю яго сям'і, дзед усё жыццё заставаўся адданым камуністам. Прытым што з-за рэпрэсаванай сям'і яго нават не ўзялі ў камсамол,

а ў кампартыю ўдалося ўступіць толькі у траўні 1950 года — раней не бралі, хоць і прасіўся. Ды і пазней былі моманты, калі з партыі ледзь не выключылі. На адным з пахаванняў Васілю даручылі несці крыж, а пасля «крамольнае» фота нехта занёс у парткам. У другім жа выпадку з «цяжкой галавой» пасля святкавання Вялікадня нешта яму собіла павітацца з начальнікам «Хрыстос уваскрос!»...

Тым не менш камунізм дзед абараняў да канца жыцця, а на мае пярэчанні заўжды заяўляў, што і рэпрэсіі, і вялікія страты ў вайне, і іншыя негатыўныя моманты — гэта «перагібы на месцах», а не заганы ўсёй савецкай сістэмы.

## Агародніну ў Маскву

У 1976-м дзед Васіль выйшаў на пенсію, але сумаваць на ёй не даводзілася. Ён быў добрым агароднікам і вырашчаную сваімі рукамі садавіну-гародніну вазіў на сваім «ІЖ-Комбі» ажно ў Маскву і Эстонію, дзе, як расказваў, яго чакалі «пастаянныя кліенты».

Канец 80-х — пачатак 90-х дзед перажываў цяжка. Распаўся СССР, які, хоць і раскідаў па свеце яго сям'ю, ён, як ні дзіва, любіў, нягледзячы ні на што. У адрозненне ад яго, бабуля Галіна ўсім сэрцам вітала незалежнасць Беларусі і вяртанне нацыянальнай сімволікі. Такі вось сямейны парадокс.

## На матацыкле да міленіума

Бабуля памерла ў маі 1995-га, праз тыдзень пасля рэферэндуму па змене нацыянальнай сімволікі і ўвядзенні дзяржаўнага двухмоўя, чаго яна катэгарычна не ўхваляла. Дзед жа храбрыўся і абяцаў, што «дажыве да міленіума». Нават дзесьці за месяц да сваёй смерці ён ліха раскатваў на матацыкле з каляскай «Дняпро» па Лебедзеве, у якім жыў. Але ягоным планам не суджана было здзейсніцца.

Васіль Казлоўскі памёр пасля цяжкай хваробы 3 лістапада 1999 года, зусім крыху не дацягнуўшы да такога чаканага ім міленіума. Памятаю, у дзень пахавання ліў дождж, а на наступны дзень выпаў першы снег. «Паравы чалавек», — як казалі людзі...


ПАСВЕДЧАННЕ АБ СМЕРЦІ

Грамадзянін (ка) Казлоўская Галіна Паўлаўна

памер (ла) 21.05.1995 г.

1 ВН № 033366

З СЯМЕЙНАГА АРХІВА АЎТАРА

**Жонка памерла ў 1995-м**, Васіль пераржыў яе на чатыры гады.

Спакою яму, аднак, няма і на тым свеце. У кастрычніку 2016-га невядомыя вандалы пабілі каля 50 помнікаў на могілках у Лебедзеве. Ахвярай гэтага вандалізму сталі і магілы дзеда Васіля ды памерлай у 2008 годзе ягонай дачкі Таццяны, маёй маці. Помнікі на іх былі зрушаныя з месца. Вядома, гэта ўсё пасля аднаўляецца, але непрыемны асадак усё адно застаецца.

Я ж, каб крыху ўвекавечыць памяць пра свайго дзеда Васіля, у сусветна вядомай беларускай камп'ютарнай гульні *«World of Tanks»* змагаюся пад нікам *Вася Казлоўскі*. ◆


**Апошні здымак дзеда Васіля (справа).** З дачкой Таццянай, зяцем, пляменніцай і пляменнікам. Лебедзева, жнівень 1999 года.

З СЯМЕЙНАГА АРХІВА АЎТАРА

**Ад рэдакцыі**

Дарагія чытачы, дасылайце нам тэмы ды ідэі артыкулаў, успаміны, сямейныя гісторыі (і нават рэцэпты!) на **history@nn.by**. А таксама падпісвайцеся, каб штомесяц гарантавана атрымліваць «Нашу гісторыю» ў паштовую скрыню.

# Падарожжа ў затопленую Нубію



**Нубійская вёска.**
Каля 100 000 нубійцаў былі пераселеныя, бо іх землі затапляла.

**У Егіпце можна не толькі цешыцца з цёплага мора і марнаваць час, але і падарожнічаць да спадчыны фараонаў, піша кандыдат сацыялагічных навук і апантаны падарожнік Аляксей Ластоўскі.**

З Луксора, музеі ды некропалі якога мы агледзелі ў мінулы раз (№ 12/2020), можна рушыць ці на поўнач — да сталіцы, Каіра, з Вялікімі пірамідамі побач, ці на поўдзень, уверх па цячэнні Ніла, да першых парогаў і старажытнай Нубіі. Гэтым разам рушым на поўдзень.

### Ці можна сесці на цягнік, які сышоў

Уздоўж даліны Ніла ходзіць цягнік, і здаецца вельмі добрай ідэяй сесці на яго ўвечары, каб дабрацца да Асуана — галоўнага цэнтра Егіпта на поўдні. Толькі не забудзьцеся зрабіць папраўку на хаос, які пануе на тутэйшай чыгунцы.

Ужо каля чыгуначных касаў адчуваеш нядобрае: людзі нервуюцца, крычаць, ломяцца без чаргі. Сціснуў зубы, не зважаю на бардак — і вось у руцэ запаветны квіточак. Але гэта толькі пачатак эпапеі, бо аказваецца, што цягнікі бязлітасна спазняюцца.

Інфармацыйных стэндаў няма, людзі бегаюць па платформах, і разабрацца, калі нарэшце мусіць прайсці менавіта твой цягнік, цэлая праблема.

### Асуан

які ў старажытнасці называўся Сіенай, быў тым горадам, дзякуючы якому грэчаскі астраном Эратасфен у II стагоддзі да н. э. вельмі дакладна вылічыў радыус Зямлі. У дзень летняга сонцастаяння прамяні сонца тут падаюць проста перпендыкулярна да зямлі і асвятляюць апоўдні дно ў самым глыбокім калодзежы.



DEPOSITPHOTOS.COM, BY DINHHANG

Але вось і цягнік! Праўда, не той: гэты мусіў прыбыць 5 гадзін таму. Не, сесці на яго нельга. Давядзецца чакаць свайго, але ўрэшце і гэтая няпростая задача выканана. Цягнік спазняецца, але прыходзіць, у першым класе сапраўды зручныя крэслы — і можна разняволіцца ды перавесці дух.

Толькі дарожныя прыгоды на гэтым не завяршаюцца. У Асуане я наняў кватэру на Слановым востраве пасярод Ніла, і да яго неяк трэба даплыць, а цягнік са скрыгатам прыбывае ўжо ўначы. Гаспадар арандаванага жытла па тэлефоне падказвае выйсце: можна скарыстацца бясплатным паромам, які кругласуткава дастаўляе жыльцоў у раскошны гатэль *Movenpick*, што ўзвышаецца над патрэбным востравам.

Праўда, ахоўнікі гатэля, непасрэдна да якога прывёз мяне паром, ашалелі ад нечаканых гасцей, але за бакшыш пагаджаюцца вывесці мяне з закрытай тэрыторыі па нейкіх канавах і мастках. Егіпецкія гатэлі добра ахоўваюць, бо баяцца нападаў ісламскіх тэрарыстаў на багатых заходніх турыстаў. Але бедныя беларускія падарожнікі мала каго тут цікавяць, таму рызыкнём пасяліцца і без аховы.

Раніцай можна нарэшце адчуць, дзеля чаго былі ўсе гэтыя прыгоды. Кубачак кавы наладзіць настрой, а з тэрасы дома адкрываецца фантастычны краявід на яшчэ адзін востраў, названы ў гонар генерала Герберта Кітчэнера, які камандаваў брытанскай арміяй у Егіпце і заваяваў Судан. Дзіўна, што егіпцяне не прайшліся па брытанскай спадчыне антыкаланіяльнай чысткай і назва захавалася. Цяпер на гэтым востраве знаходзіцца знакаміты батанічны сад.

## Востраў завецца Слановым, а ўшаноўваюць тут бараноў

Я выпраўляюся аглядаць востраў. Калісьці гэта быў апошні фарпост Старажытнага Егіпта на поўдні, адсюль намеснікі фараонаў кіравалі ваяўнічай і мяцежнай Нубіяй, у якой увесь час паўставалі сепаратысты. Разам з тым гэта быў і важны гандлёвы цэнтр: у часы персідскага панавання над Егіптам тут асела вялікая габрэйская дыяспара.

З цягам часу востраў набыў статус сакральнага цэнтра: тут ушаноўвалі баранападобнага бога Хнума, які адказваў за кантроль Егіпта над Нубіяй, і яго жонку, багіню Сетат (або Саціс), адказную за разводдзе на Ніле. Святы горад на востраве меў ганарыстую назву *Yebu*, якая ў славянамоўных турыстаў сёння выклікае кпіны.

Ад вялікага горада, які квітнеў на ахвяраванні паломнікаў, засталіся толькі руіны. Мясцовы музей на рэканструкцыі, яна цягнецца трынаццаць гадоў і, відаць, ніколі не завершыцца. Сярод рэштак храмавых комплексаў мяне найбольш зацікавілі могілкі сакральных бараноў, якія ўвасаблялі сабою бога Хнума. Бараноў гадавалі жрацы, кармілі і даглядалі, а пасля смерці іх муміфікавалі, упрыгожвалі золатам і ўрачыста хавалі. Цяпер пазалочаныя муміі святых бараноў можна ўбачыць у музеях Луксора і Каіра.

Па вузкіх прыступках я спусціўся ў крыпту падземнага храма багіні Сетат, пабудаванага за царыцай Хатшэпсут — і тут на мяне напалі кажаны, устрывожаныя такім уварваннем у іхні дамініён. Хацеў іх пакусаць у якасці помсты за каранавірус, але кажаны ўцяклі: маўляў, ▶



нічога асабістага і вы ж самі ўсё разумееце.

Проста ад храма Сетат можна прайсці да аднаго з найстаражытнейшых у Егіпце *ніламетраў*. Гэта збудаванне ў выглядзе калідора з каменнымі сходамі для ацэнкі ўзроўню Ніла. На сценах уздоўж спуску зробленыя пазнакі, з дапамогай якіх ацэньвалі, наколькі разлілася рака сёлета. Ад гэтага залежалі ўраджаі і, адпаведна, падаткі, якія будзе плаціць насельніцтва.

Ідэя простая і настолькі эфектыўная, што гэтым ніламетрам карысталіся тысячагоддзямі, нават пасля арабскага заваявання. Сведчаннем пераемнасці з'яўляецца нумарацыя ўзроўняў: тут і іерогліфы, і рымскія лічбы, і арабскія. Але цяпер пабудавалі плаціну — і разлівы Ніла перасталі вызначаць жыццё егіпцян.

## Нубійская вёска

Таксама на востраве ёсць пасяленне карэнных жыхароў гэтага рэгіёна — Нубійская вёска. Тут адчуваеш, што



ФОТА АЛЯКСЕЯ ЛАСТОЎСКАГА

**Музей Слановага вострава ахоўвае «ганаровая варта».**



Храмавы комплекс Слановага вострава пазначаны сімваламі **бога Хнума ў вобразе барана.**

ФОТА АЛЯКСЕЯ ЛАСТОЎСКАГА

нарэшце трапіў у сапраўдную Афрыку: вузкія разбітыя вулачкі, паўразваленыя глінабітныя дамкі, мірныя козы меланхалічна блукаюць па занядбаных падворках, чарнаскурыя дзяўчаты зацікаўлена паглядаюць на экзатычнага еўрапейца з-пад хіджабаў. Арыентавацца ў гэтых лабірынтах вельмі складана, нават мапа на смартфоне кепска дапамагае, а трэба неяк прабрацца да парома, каб перапраівіцца ў «звычайны» горад.

## Плаціна, якую збудаваў СССР

Асуан адрозніваецца ад іншых егіпецкіх гарадоў: тут менш турыстаў і індустрыя зазывалаў сканцэнтраваная толькі на

### Нубійцы

карэнныя жыхары сучасных паўночнага Судана і паўднёвага Егіпта. Сярэдняе цячэнне Ніла — калыска чалавецтва, і нубійцы — нашчадкі першых людзей. Самыя раннія знойдзеныя тут пасяленні датуюцца 7000 гадоў да н. э. У Сярэдневеччы нубійцы пабывалі хрысціянамі, аднак цяпер практычна ўсе яны мусульмане. Многія навукоўцы лічаць, што назва «Нубія» пайшла ад старажытнаегіпецкага *nbw* — «золата».

беразе Ніла, дзе вас настойліва паспрабуюць зацягнуць у сваю фелуку. Але пасля луксорскай загартоўкі ад гэтай гасціннасці адмахваешся лёгкім кіўком пляча.

Тут значна стражэй ставяцца да выканання правілаў ісламу ў параўнанні з паўночным Егіптам. Гэта адбіваецца і на вопратцы — у шортах асабліва не паблукаеш, асабліва калі ты жанчына, і паўсюль забаронена прадаваць алкаголь. Праўда, гэта не быў бы Егіпет, калі б на кожным рагу беламу сахібу не спрабавалі ўпіхнуць кантрабандную пляшку.

Але мой шлях ляжыць да паўднёвага ўскрайку горада, дзе знаходзіцца знакаміты Нубійскі музей. Гісторыя яго стварэння цесна звязаная з будаўніцтвам Асуанскай плаціны.

Першую плаціну тут пабудавалі брытанцы яшчэ ў пачатку XX стагоддзя, толькі яна была досыць сціплай па памерах і не перакрывала Ніл цалкам. Пасля рэвалюцыі 1952 года новы лідар краіны Гамаль Абдэль Насер вырашыў пабудаваць новую плаціну, гіганцкую, якая мусіла не проста вырашыць пытанне з паводкамі на Ніле, але і даць краіне вялікія запасы электраэнергіі.

Спачатку быў разлік, што новую плаціну прафінансуюць амерыканцы, але тыя ўрэшце адмовілі. Раз'юшаны Насер тады звяртаецца па дапамогу да іх зацятага ворага — Савецкага Саюза, які быў зацікаўлены зрабіць з вялікай арабскай краіны саюзніка. З савецкай падтрымкай і прыбыткамі ад нацыяналізацыі Суэцкага канала нарэшце ўдалося зрушыць гэты грандыёзны праект.

Будаўніцтва плаціны прадугледжвала стварэнне велізарнага штучнага возера на поўдні ад Асуана. Фактычна пад ваду сыходзіла гіганцкая па плошчы зона на мяжы Егіпта ▸

### Галубы як ежа

Мусульманам можна есці далёка не ўсё. Галубоў — можна, таму адкормленых птушак прадаюць паўсюль проста на вуліцах.



**Асуан**: ад старога да новага.

▶ і Судана — гістарычная Нубія. Археолагі пачалі біць у званы, бо знішчаліся гістарычныя аб'екты, храмы і крэпасці, а да многіх помнікаў яны яшчэ нават і не дабраліся са сваімі даследаваннямі. Возера абяцала паглынуць цэлую старажытную краіну!

Егіпецкія ўлады вымушаныя былі шукаць кампраміс. Археолагі з многіх краін свету памянялі свае планы і рушылі па нубійскія старажытнасці, бо Егіпет прапанаваў неймаверна шчодрыя ўмовы: палову знаходак замежныя даследчыкі маглі забраць сабе.

Гэта быў перыяд вельмі актыўнага і плённага даследавання Нубіі, што сыходзіла пад ваду. Набралася шмат каштоўнасцяў, з якіх у 1997 годзе быў створаны Нубійскі музей. Сама Нубія стала для егіпцян варотамі ў Афрыку, і безумоўна, што вялікая егіпецкая культура моцна паўплывала на нубійцаў.

Музей вельмі класна рэалізаваны: правільная падсветка, уцямныя подпісы, ясная арганізацыя прасторы. І можна нават паспрабаваць ухапіць спецыфіку тутэйшага мастацтва: кідаецца ў вочы, што нубійцам былі ўласцівыя больш рэалістычныя выявы.

Але што было рабіць са старажытнымі храмамі, якія стагоддзямі стаялі на гэтай зямлі і якія былі выракаваныя апынуцца пад вадою? Тут ужо рэсурсаў адной краіны не хапала, і за справу ўзялася міжнародная супольнасць. ЮНЕСКА арганізавала беспрэцэдэнтную кампанію па пераносе храмаў у бяспечнае месца. Самыя актыўныя памагатыя, кшталту ЗША ці Іспаніі, скарысталіся гэтым, каб перавезці цэлыя старажытнаегіпецкія храмы да сябе.

### Асуанская плаціна

(правільней — Асуанскі гідравузел)— дагэтуль найбольшая плаціна ў свеце. Яе вышыня — 111 м, даўжыня — 4000 м, шырыня ля падножжа 980 м і на грабяні 40 м. Калі б нешта здарылася з плацінай, у Міжземнае мора змыла б увесь Егіпет.

Штучнае возера, што ўтварылася, назвалі Насер — у гонар прэзідэнта. Яно мае 550 км удоўжкі і да 35 км ушыркі.

Патэнцыйная магутнасць турбін Асуанскай плаціны — 2,1 ГВт (для параўнання: планавая магутнасць Астравецкай АЭС — 2,4 ГВт).

### «Абу Сімбел»

Адным са слядоў гэтага супрацоўніцтва стала настойка на травах «Абу Сімбел», якая прадавалася ў СССР у 1970–1980-х гадах. Цяжка сказаць, ці сапраўды яна выраблялася ў Егіпце, але была па-замежнаму дарагой.

### Абу Сімбел і старажытная прапаганда

Сімвалам гэтых надзвычайных высілкаў стала выратаванне храма Абу Сімбел, у які я і накіроўваюся назаўтра. Патрапіць да яго складана, бо цяпер ён знаходзіцца на беразе ўтворанага плацінай возера Насер, на самай мяжы з Суданам. Гэта вайсковая зона, і доступ туды абмежаваны. У лепшыя часы можна было сесці ў турыстычны аўтобус, але цяпер турыстаў няма — і даводзіцца ў турыстычным агенцтве замаўляць адмысловы мінівэн. Усё сур'ёзна: паліцыя загадзя правярае адрас пражывання, а ў мінівэн садзяцца два ахоўнікі. Праўда, незразумела, які з іх толк: ад аўтаматных чэргаў гэтыя тоўстыя мілыя дзядзькі наўрад ці выратуюць.

Амаль трыста кіламетраў на поўдзень. Праз шматлікія блокпасты нарэшце дабіраемся да храмавага комплексу. Спачатку звыкла трэба прабіцца праз шэрагі гандляроў, але ў іх вачах угадваецца поўная безнадзейнасць: турысты вымерлі як від. І сапраўды, уражанне фантастычнае: уся пляцоўка перад культавымі пабудовамі вольная, можна бегаць, куляцца, гучна размаўляць — і нікога навокал.



WIKIMEDIA COMMONS




**Статуя Хекаба**, губернатара Слановага вострава часоў 12-й дынастыі. Нубійскі музей.




**Статуя Харвы,** святара-служкі з часоў 25-й дынастыі (кушыцкай па паходжанні), адрозніваецца характэрным рэалізмам. З храма ў Карнаку. Нубійскі музей.

Абу Сімбел правільна будзе назваць шэдэўрам палітычнай прапаганды. Гіганцкі храм быў створаны Рамзесам II для праслаўлення панавання Егіпта над Нубіяй, каб нубійцы схіляліся ў захапленні і страху перад веліччу фараонаў, якія іх скарылі. Але рэльефы ў гіпастыльнай* зале распавядаюць пра вайсковыя трыумфы Рамзеса на далёкім адсюль паўночным ускрайку імперыі: відаць, так зручней, калі ўдасканальваеш гісторыю ў патрэбным прапагандысцкім ключы. Прыкладам, папраўдзе егіпецкія войскі так і не ўзялі хецкі Кадэш, але нубійцам распавялі гэту гісторыю па-іншаму: на барэльефах фараон на гіганцкай калясніцы з лукам пераследуе хетаў, якія ўцякаюць, хоць у рэчаіснасці Егіпет быў змушаны падпісаць з імі мірную дамову.

Якасць працы над скульптурамі і рэльефамі яўна саступае храмам у Фівах, тут стаўка зроблена не на вытанчанасць, а на гіганцкія памеры. Але і нубійцы па сваіх эстэтычных запатрабаваннях яўна саступалі жыхарам сталіцы.

Пасля будаўніцтва Асуанскай плаціны храм Абу Сімбел у выніку складанай і дарагой аперацыі перанеслі крыху вышэй, на штучную гару побач. Вялізны будынак распілавалі на блокі, блокі пранумаравалі, а потым, як кубікі канструктара, склалі разам. І што дзіўна, ходзіш і адмыслова шукаеш: дзе ж тыя шнары, якія мусяць паказваць смерць і новае нараджэнне храма? Звычайнае вока іх не заўважае, ►

## Фараоны-нубійцы

Некалькі нубійскіх па паходжанні фараонаў кіравалі над сваімі традыцыйнымі валадарамі-егіпцянамі.

* **Гіпастыльная зала** — вялікая зала са шматлікімі, рэгулярна пастаўленымі калонамі.




Унікальная магчымасць у адзіноце наведаць **храмы Абу Сімбел.**




**Азірыс** — бог урадлівасці, адраджэння, цар замагільнага свету.

як быццам усё так і было тысячагоддзямі.

Храм перанеслі так удала, што захавалася важная сімвалічная фішка: у дзень народзінаў і ў дзень каранацыі Рамзеса II (21 лютага і 21 кастрычніка, з другой датай я крыху размінуўся) сонца на кароткі час асвятляе статую фараона ў глыбокай нішы. Цудоўнае рашэнне даўніх архітэктараў.

Побач знаходзіцца і храм жонкі Рамзеса II, Нефертары. Храм значна сціплейшы, чым у сонцападобнага мужа, але на рэльефах відарысы Рамзеса і Нефертары аднолькавыя па велічыні. Жонак іншых фараонаў звычайна выяўляюць меншымі па памеры — а значыць, меней важнымі.

## Храм Ізіды, ідэала жаноцкасці

З турыстычным агенцтвам я дамовіўся, каб пасля Абу Сімбела падвезлі яшчэ і ў Філы, дзе знаходзіцца храм Ізіды, ідэалу жаноцкасці і мацярынства, якая лічылася маці ўсіх фараонаў. Гэта быў апошні вялікі егіпецкі храм, што асноўную славу і сілу здабыў ужо пры Пталамеях, якія ўсталявалі сваю дынастычную ўладу пасля заваёваў Аляксандра Македонскага, і рымлянах, калі культ Ізіды пашырыўся на ўсё Міжземнамор’е.

Зусім побач востраў, дзе памёр Азірыс (а Ізіда лічылася яго сястрой і жонкай: у гэтым плане ў егіпцян усё было заблытана). Але туды пускалі толькі жрацоў, а храм на востраве Філы быў даступным для ўсіх.

Храм Ізіды быў апошнім бастыёнам старой егіпецкай рэлігіі, які пратрымаўся ажно да 550 г. н. э., калі нарэшце




Падплываем **да вострава Філы.**

быў ператвораны ў копцкую хрысціянскую царкву. Менавіта тут зафіксаваныя апошнія па часе іерагліфічныя надпісы.

Але лёс не быў літасцівым да гэтага знакавага храма. З першай Асуанскай плацінай яго пачало падтапляць, змыла ўсю паліхромію, прыгажосць рознакаляровых фарбаў, а з будаўніцтвам другой плаціны востраў з храмам і ўвогуле апынуўся пад вадою.

Храм усё ж выратавалі і перанеслі на іншы востраў, хоць многія храмы і крэпасці Нубіі так і пайшлі назаўжды пад ваду. Дабірацца даводзіцца на лодцы, у звыклым для Егіпта ключы трэба яшчэ таргавацца з лодачнікам пра кошт пераезду, і ад тоўстага ахоўніка ў гэтай справе таксама ніякага толку няма. На самім жа востраве, калі даць правільны бакшыш, то можна забрацца наверх храма — і адтуль аглядаць пабураныя часам калоны. Можна ўбачыць нават суседні востраў, дзе жыццё працягваецца і жыхары выпраўляюцца лавіць рыбу,



ФОТА АЛЯКСЕЯ ЛАСТОЎСКАГА

**Храм у Філах** спалучае старажытнаегіпецкія і элінскія матывы.

пакуль забытыя багі спяць у сваім вечным сне.

На гэтым кароткая выправа ў патопленую ў імя прагрэсу і электрыфікацыі старажытную Нубію завяршаецца, нас з вамі чакае доўгі начны пераезд цягніком на поўнач, да Вялікіх пірамід, дзе будзе магчымасць адчуць атмасферу шматпакутнага Каіра і колішняй сталіцы вучонага свету Александрыі. ◆



**Александровіч Станіслаў. Картаграфія Вялікага Княства Літоўскага XV – першай паловы XVIII ст.** — Мінск: Тэхналогія, 2021. — 304 с.




Станіслаў Александровіч (1931–2015) нарадзіўся ў Вільні, але род яго паходзіў з-пад Браслава. Усё жыццё ён меў сантымент да Беларусі, лічыў наш край сваёй другой радзімай.

У гэтай кнізе навуковец даў грунтоўны аналіз найбольш значных мапаў Вялікага Княства, а таксама канчаткова ўстанавіў, што першае выданне Радзівілаўскай мапы Вялікага Княства Літоўскага, падрыхтаванае ў Нясвіжы каля 1603 года, існавала.



# Палын
## І пах расстання і абсэнту

**Швейцарцы зрабілі на базе яго абсэнт, італьянцы — вермут, грузіны — тархун. А ў нас здавён-здаўна гатавалі горкую палыноўку. Піша доктар гісторыі Алесь Белы.**

### Сімвал горычы

Гэтак жа, як мёд — першая метафара слодычы, палын сімвалізуе ўсё самае горкае. Ён і сапраўды вельмі горкі: нават калі разбавіць сок палыну вадой у суадносінах 1:800, вы яшчэ адчуеце горыч.

Пра палыновую горыч сустрэнеш згадку ў многіх паэтаў. Прыкладам, у вершы Канстанцыі Буйло «Яму» (1943):

> Ты прыедзеш ка мне, і у доме маім
> У той час маё шчасце ўваскрэсне ізноў.
> І не будзе туга ліць у сэрца палын,
> Наліваць яе горыч у кроў.

Агульнаславянская назва *палын* паходзіць ад кораня «пал», «палаць», як і прыметнік «горкі» — ад агульнаславянскага «гарэць». Грэчаская і лацінская назвы *artemisia* — ад кораня *artemes*, што азначае «здаровы» і паказвае на лячэбныя ўласцівасці палыну, якія людзі цанілі здаўна. Яго незвычайнай горычы прыпісвалі боскае паходжанне: магчыма, расліну назвалі ў гонар грэцкай багіні Артэміды, па сваіх «кампетэнцыях» падобнай да старажытнаславянскай багіні Дзіванны (аднайменнай зёлцы



DEPOSITPHOTOS.COM, BY STEVANOVICIGOR

*Знаю: мне не вяртацца*
*Гэтым шляхам ніколі —*
*На апошнюю ростань,*
*На спатканне з былым.*
*Белай стужкай дарога*
*Раскацілася ў полі,*
*А па ўзбочны дарогі —*
*Толькі шызы палын.*
Ніл Гілевіч

**Палын** (*Artemisia)* — вельмі шматлікі род травяністых або паўкустарнікавых раслін сямейства астравых. У ім налічваюць ад 200 да больш як 450 відаў. Большасць з іх мае характэрны «палынны» пах. На тэрыторыі Беларусі найбольш вядомыя 4 віды палыну: палын горкі (*Artemisia absinthium*), палын звычайны, або чарнобыль, або проста быльнік ці быльнёг (*Artemisia vulgaris*), палын палявы (*Artemisia campestris*), а таксама эстрагон, або тархун (*Artemisia dracunculus*). Але людзі завуць іх аднолькава: палын.

быў прысвечаны артыкул у № 1/2020 «Нашай гісторыі»).

Ёсць таксама версія, што назву расліне дала адна з царыц са старажытнага Міжземнамор’я — Артэмізія II, вядомая таксама як батанік і лекар. Так лічыў рымскі пісьменнік Пліній-старэйшы. Артэмізія была сястрой і жонкай Маўзола, цара малаазіяцкай краіны пад назвай Карыя, і так любіла мужа, што пасля яго смерці штодзень дадавала драбок праху каханага ў свой кубак з напоем. Таксама Артэмізія дала назву аднаму з сямі цудаў свету: маўзалею ў Галікарнасе, у якім і быў пахаваны прах яе самой і мужа.

### Мацнейшы цярпіць

Здаўна заўважылі: калі палын насіць у абутку, то чалавек нібыта робіцца нястомным і хуткім на хаду. Можна нават проста расцерці палын у далонях і панюхаць — і стома адкаснецца.

Аднак асноўны ўжытак палыну для практычных патрэб — змаганне з паразітамі як вонкавымі (блохі, вошы, мышы і г. д.), так і ўнутранымі (гельмінты і г. д.). Горыч, якую чалавек можа сцярпець пры патрэбе, яны не выносяць. Таму парасткі палыну дадавалі ў сена, клалі ў клеткі для трусоў, у сабачыя буды, куратнікі, на падлогу хляўоў, у матрацы. Нават некаторыя птушкі, напрыклад вераб’і, носяць парасткі палыну ў свае гнёзды, каб адпудзіць паразітаў. Сок палыну даўней дадавалі ў атрамант, якім пісалі дакументы і рукапісныя кнігі, каб мышы не грызлі паперу.

Рэальныя ахоўныя якасці палыну, як і многіх іншых нашых раслінаў — аеру (артыкул у № 2/2021), ядлоўцу (артыкул у № 3/2021) і іншых, — былі перабольшаныя і перанесеныя ў сферу містычнага. Дзяўчаты на Купалле закладалі яго пад пахі як засцярогу ад ведзьмаў і сурокаў. А ў чацвер пасля Сёмухі палын уплталі ў косы, каб не стаць ахвярай русалак. На іх пытанне «Што ў цябе ў руках?» трэба было адказваць: «Палын», — русалка тады быццам бы скажа: «Цур табе, згінь» і прападзе.

«Каб не хадзіў нябожчык», гаспадыня абмятала хату палыновым венікам ці развешвала снапкі расліны па кутках хаты. Такі абярэг мусіў сцерагчы і ад перуна. У Віцебскай губерні ў час грымотаў палыном, асвячоным 24 чэрвеня ці 1 жніўня, акурвалі хату.

У народнай каталіцкай традыцыі ў апошні дзень актавы Божага Цела, называны Дзявятнік (9 тыдзень па Вялікадні), і сёння прынята свяціць вянкі: звычайна зёлак, з якіх іх плятуць, таксама ▶



WIKIMEDIA COMMONS

***Artemisia absinthium.*** Ілюстрацыя з кнігі Германа Адольфа Кёлера «*Köhler's Medizinal-Pflanzen in naturgetreuen*». 1887 год.



WIKIMEDIA COMMONS

**Жанчына-палын.** Магчыма, палын названы ў гонар Артэмізіі II. Поўнай горыччу ад страты мужа, з кубкам, у якім прах каханага, яе шматразова малявалі мастакі. Карціна Майстра Грызельды, 1492 год.

▸ дзевяць — сакральны лік у зельніцтве. Сярод найбольш частых — палын, мята, канюшына, рамонак, дзьмухавец. Такія вянкі трымаюць дома, каб усцерагчыся ад няшчасця, іх кладуць у труну пад галаву нябожчыка, у адвары зёлак з вянка купаюць немаўлят.

На Палессі настой палыну давалі піць ад ліхаманкі, якую ўяўлялі ў вобразе злой, страшнай старой. У Магілёўскай губерні ад падучай і істэрыкі пілі парашок каранёў чарнобылю (чарнобыль, чарнобыльнік — адна з назваў палыну звычайнага). Чарнобыльнік ужываўся для лекавання жаночых хвароб, для ўзмацнення патуг у парадзіхі (пра такую ўласцівасць, дарэчы, ведалі і ў Старажытнай Грэцыі). Шаптуны на гэтую расліну адсылалі хваробы: «А я выліваю ці на палын, ці на чарнобыль», «Каб там, на палыну, ты змяк, высах-перасох».

У Рэчыцкім павеце зялёны палын таўклі з соллю, потым у мяшэчку для сыру выдушвалі ў маслабойцы і давалі піць хвораму на ліхаманку. Пра такі ўжытак палыну ў адным з вершаў прыгадвае і Уладзіслаў Сыракомля: маўляў, *absyntium vulgare* — адзіны сродак, што ад яе вылечыць.

А ў іншым вершы Сыракомля параўноўвае долю паэта (у тым ліку сваю) з палыном, які сваёй

## З «Адкрыцця Яна Багаслова»

[10] Трэці анёл затрубіў, і ўпала з неба вялікая зорка, палаючы, нібы светач, і ўпала на трацiну рэк і крыніцы водаў.

[11] Імя гэтай зорцы палын; і трацiна ўсіх водаў зрабілася палыном, і многія людзі памерлі ад водаў, бо яны прагорклі.

*Пераклад Васіля Сёмухі*

### «Чарнобылем не зарасцеш…»

*О Беларусь, мая шыпшына,*
*зялёны ліст, чырвоны цвет!*
*У ветры дзікім не загінеш,*
*чарнобылем не зарасцеш.*

**Песня ў выкананні мужчынскага хору «Унія».**

Не надта абазнаныя ў беларускай літаратуры людзі могуць падумаць, што гэты патрыятычны верш напісаны пасля красавіка 1986 года, калі значную частку Беларусі засыпала радыеактыўным попелам пасля выбуху на 4-м рэактары Чарнобыльскай АЭС. Але ж не: паэт Уладзімір Дубоўка напісаў яго яшчэ за 60 гадоў да таго, у 1925-м.

Вядома, паэт не мог ведаць тады, што праз дзясяткі гадоў гэты верш напоўніцца такім горкім сімвалізмам. Меў жа ён на ўвазе відавочна толькі ўласцівасць палыну-чарнобылю разрастацца на занядбаных чалавекам мясцінах — закінутых палях, сенажацях, узмежках. Пасля таго, як у Беларусі ў канцы XX стагоддзя сталі масава бязлюднець вёскі, шмат дзе так і адбывалася, у тым ліку ў чарнобыльскай зоне адсялення. Праўда, цяпер і палын-чарнобыль мае моцных канкурэнтаў з ліку інвазіўных відаў, перадусім лубіну шматліставаго і сумніку канадскага.

горыччу аздараўляе народ, паляпшае ягоны лёс.

### Сімвал смутку

Палын у нашай культуры — сімвал горычы і няўдачы, удаўства і смутку, увасабленне няшчаснага кахання, няўдалага замужжа: «...Змяшаўся палын з травою, злюбіўся стары з маладою». А таксама страты і крыўды, тугі па страчанай радзіме. А вось ва ўсходніх народаў сімволіка палыну быццам і падобная, але ў ёй спакой і ўпэўненасць: палын — сімвал стэпавай радзімы і памяці пра продкаў.

У Бібліі палын — сімвал суду Божага за адступніцтва і непаслухмянасць, ён неаднаразова сустракаецца ў Старым Запавеце і сімвалізуе горыч пакарання за чалавечыя грахі і заганы. Пасля Чарнобыльскай катастрофы асабліва містычнае гучанне набыло цьмянае прароцтва з Апакаліпсіса («Адкрыцця Яна Багаслова») пра зорку, імя якой — палын. Паводле Новага Запавету, тая зорка ўпала на воды — і яны парабіліся горкія (Адкрыццё, 8:10, 8:11).

Пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС людзі згадалі, што чарнобылем называюць таксама адзін з відаў палыну (*Artemisia vulgaris*, палын звычайны). Спасылка на прароцтвы Яна Багаслова доўгі час была агульным месцам у постчарнобыльскай публіцыстыцы.

### Калі горкае смакуе

Тым не менш гэтай зёлкі зусім не цураліся. Горкі палын здаўна ўжываўся як сродак узбуджэння апетыту. Калі верыць вядомаму гісторыку XIX стагоддзя Тэадору Нарбуту, у старажытнай Літве маці часта націралі вусны грудных дзяцей сокам палыну, каб яны лепш елі і падрасталі.

У Сярэднявеччы і ў эпоху барока палын быў адной з самых ужываных у еўрапейскай кухні спецый. Яго лісце, калі ўжываць у мікраскапічных дозах, павялічвае сакрэцыю стрававальных сокаў (страўніка, пячонкі, падстраўнікавай залозы), расслабляе ўвесь стрававальны тракт і паляпшае засваенне ежы.

Можна дадаваць невялікі лісток палыну ў зёлкавыя кактэйлі. Салаты са свежай гародніны і агароднінныя супы, у тым ліку халаднікі, набудуць пікантны смак, калі дадаць дробку свежых або сушаных кветак гэтай травы. Невялікая (памыліцца ў большы-горшы бок вельмі лёгка!) колькасць дробна нарэзанага свежага лісця значна ўзмоцніць смак смажанай свініны, тлустай смажанай качкі, гусі, бараніны, мяса на грылі, салатаў з гародніны, а таксама бліновага цеста і амлетаў.

Менш горкі від палыну — эстрагон — ужываецца амаль як звычайная гародніна. Ён мае трохі востры і асвяжальны смак, а пах своеасаблівы, рэзкі, з ноткамі анісу і мяты. У ежу спажываюць лісце і маладыя парасткі, а расліны, якія зацвілі, дадаюць пры засолцы агуркоў, кабачкоў, грыбоў, пры квашанні капусты, мачэнні яблыкаў і г. д. Каб прыправа не страціла ▸

### Тархун




Людзі, якія паспелі пажыць пры СССР, добра памятаюць прахаладжальны напой «Тархун» на аснове эстрагону (на Каўказе яго называюць тархунам). Як і «Кока-Колу», гэты напой прыдумаў аптэкар, прытым усяго на год пазней, у 1887 годзе. Арыгінальны рэцэпт утрымліваў толькі натуральныя інгрэдыенты, і напой меў жаўтаватае адценне, аднак за савецкім часам яго сталі падфарбоўваць сумессю жоўтых і сініх фарбавальнікаў. Сёння сумленныя вытворцы робяць яго натуральным жаўтаватым, але разліваюць у бутэлькі зялёнага шкла, каб трапіць у чаканні пакупніка.



**Мемарыял «Зорка Палын»** у горадзе Чарнобыль. Скульптар — Анатолій Гайдамака.

DEPOSITPHOTOS.COM, BY LPERNICKY

сваіх смакавых і водарных уласцівасцяў, яе варта дадаваць у самым канцы гатавання.

У «Літоўскай гаспадыні» XIX стагоддзя ёсць рэцэпт эстрагонавага воцату. Лістоў і сцяблін эстрагону, прамытых і ачышчаных, бяруць па кварце на гарнец воцату і трымаюць месяц у бутлі, абвязанай белай палатнянай хусткай. Пасля зліваюць у іншую пасудзіну. Спажываць яго трэба хутка. Свежая расліна псуе воцат, ды нават прыгатаваны на сушаным эстрагоне ён захоўваецца не больш як месяц.

Урэшце, старая як свет ідэя дадаваць палын у алкаголь. Яшчэ ў Антычнасці, а затым і ў сярэднявечнай Еўропе яго часта дадавалі для араматызацыі піва і пітнога мёду. Старая польская прыказка, зафіксаваная яшчэ ў XVII стагоддзі, сцвярджае: «Хопіць і жмені палыну, каб сапсаваць бочку напою».

У залежнасці ад дозы горкай зёлкі можна атрымаць або прыемны злёгку ялкавы вермут (нямецкае слова *Wermut* і азначае «палын»), або вельмі горкі венгерскі бальзам *«Zwack Unikum»*, вынайдзены у 1790 годзе прыдворным лекарам імператара Іосіфа II у якасці лекаў ад прастуды і стымулюючага страваванне аперытыву ў адным флаконе.

І, вядома, самы славуты з напояў на аснове палыну — гэта абсэнт (па-французску *absinthe* — палын), пра які так хораша спявае Лявон Вольскі. Абсэнт у свой час забаранілі за шкоднасць, але пасля выявілася, што гэта памылкова. Ён не горшы і не лепшы за іншы алкаголь.

## Вермут

гэта нямецкае слова, што перакладаецца як «палын», але трунак з такой назвай прыдумалі італьянцы ў 1786 годзе. Гэта вінаграднае віно з дадаваннем цукру і спіртавых настояў раслін (палын, чорная бузіна, кардамон, карыца, мята). Яго п'юць як аперытыў або дадаюць у кактэйлі. Папулярнае марціні — гэта кактэйль з джыну і сухога вермуту.

*Усё нерэальна, нібыта ў сне:*
*Начная кавярня, агні ў вадзе*
*І водар расстання —*
*Палынны напой абсэнт...*

Лявон Вольскі «Абсэнт».

## Палыновы яд

Туён, які ўтрымліваецца ў палыне, — яд. Ён выклікае галюцынацыі і сутаргі, можа атруціць насмерць. Яго доза ў абсэнце масавай вытворчасці рэгулюецца. Аднак калі вы намераныя вырабляць палыновыя настойкі для сябе, памятайце пра асцярожнасць. Пачаткоўцу ў майстэрстве вырабу настоек лепш памыліцца ў канцэнтрацыі ў меншы бок, чым падвяргаць сябе і сяброў рызыцы цяжкага атручэння.

Горкія настойкі, лікёры, бальзамы на аснове палыну п'юць не дзеля асалоды ў строгім сэнсе слова. Дзякуючы горычы яны павялічваюць сакрэцыю страўнікавага соку і нейтралізуюць пачуццё цяжару пасля ежы і пякотку. Да ўсяго, горыч абараняе спажыўца ад алкагольнай залежнасці: пасля маленькай чарачкі наўрад ці захочацца піць другую.

Настойкі з палыну былі досыць распаўсюджаныя ў Беларусі. І цяпер яшчэ *палыноўку* часта сустракаюць у этнаграфічных экспедыцыях менавіта як лекі — многімі такімі запісамі шчодра падзялілася са мной Таццяна Валодзіна.

Як і ўсе нашы настойкі, гэта хутчэй хатні, а не рынкавы прадукт — што для сялян і мяшчан, што для шляхты. Старыя крыніцы баюць, што горкую зеленаватую настойку падносілі нават гетману ці ротмістру перад паходам, каб яе горыч надала яму злосці, мужнасці і трываласці ў баях.

### Абсэнт

алкагольны напой з экстрактам палыну. Быў прыдуманы ў канцы XVIII стагоддзя ў Швейцарыі і стаў атрыбутам багемнага жыцця Еўропы на мяжы XIX і XX стагоддзяў. Вінцэнт Ван Гог, Джэймс Джойс, Поль Верлен — літаральна ўсе, каго вы згадаеце з той эпохі, былі аматарамі гэтага надзвычай моцнага (45–74%) трунку. Ствараўся абсэнт як лекі, але з часам пераўтварыўся ў наймоцны вышыбальнік мазгоў для салдат і беднаты — і быў нарэшце забаронены ў Швейцарыі, Нідэрландах і Францыі. Сёння забарона знятая, але вытворцы абсэнту павінны прытрымлівацца абмежаванняў па ўтрыманні ў напоі туёну: не болей за 10 мг/кг (у швейцарскіх і чэшскіх абсэнтах дапускаецца да 100 мг/кг).

### Дадаваць цукру — пустое

Зусім нядаўна, у траўні 2019-га, улады Куяўска-Паморскага ваяводства на поўначы Польшчы зарэгістравалі палыноўку як традыцыйны рэгіянальны прадукт. Часам яе называюць таксама «перуноўкай» — ад Перуна, старажытнаславянскага бога-грамабоя. Тухоля — невялікае кашубскае мястэчка, у ваколіцах якога, па некаторых звестках, такую настойку выраблялі ўжо ў канцы XIX стагоддзя.

У распрацоўцы яе рэцэпту браў удзел знакаміты зельнік, манах-францысканец Анджэй Чэслаў Клімушка (1905–1980), які служыў у 1955–1960 гадах у недалёкай Нешаве. Ён ахвотна дапамагаў усім, хто меў патрэбу ў лячэнні ад хваробаў страўніка. Ужо само прозвішча зельніка празрыста намякае на беларускія карані: бацька Клімушкі паходзіў з былой уніяцкай вёскі Няросна каля Дубровы-Беластоцкай, у пачатку XX стагоддзя яшчэ спрэс беларускамоўнай. І вучыўся Андрэй Чэслаў Клімушка ў найбліжэйшай да месца нараджэння Гродзенскай гімназіі. Так што і ў тухольскай палыновай настойцы можна ўгледзець традыцыі наднёманскага траўніцтва.

Дакладная рэцэптура фармальна трымаецца ў сакрэце. Вядома толькі, што на гэтую настойку збіраюць самыя маладыя зялёныя верхавіны палыну, без лісця, да таго, як расліны заквітнеюць (з сярэдзіны чэрвеня да сярэдзіны ліпеня). Каб трава напоўніцу захавала свае ўласцівасці, яе трэба збіраць раніцай, але пасля таго, як сыдзе раса.

А наогул, у прыгатаванні палыновых настоек асаблівых сакрэтаў няма. У сярэднім на літр гарэлкі ідзе 15–20 г парасткаў палыну. У падсаладжаных версіях (бываюць і такія) — дадаецца яшчэ да 400 г цукру, хоць, на мой погляд, гэта мае няшмат сэнсу. Прыемна-салодкай настойка ўсё адно не стане, а яе каштоўнасць — менавіта ў горычы і абмежаваным спажыванні. Залітыя гарэлкай парасткі трымаюць у цёмным і сухім месцы тыдзень ці два, фільтруюць — і настойка адразу ж гатовая да ўжывання. У адрозненне ад большасці іншых настоек, яна не мае патрэбы ў вытрымцы.

Часам палын выступае дадатковым кампанентам, каб адцяніць галоўны інгрэдыент настоек. Вельмі цікавая цяпер ужо забытая традыцыя гатаваць настойку з брусніцаў з дадаваннем драбку палыну. Увесну нарыхтоўвалі маладыя парасткі палыну, залівалі іх моцнай акавітай, фільтравалі і пакідалі да восені, да новага ўраджаю брусніцаў, якія таксама трэба было настаяць. Затым два кампаненты напою злучаліся, і пасля яшчэ некаторай вытрымкі ён быў гатовы. І такая працяглая тэхналогія была правілам для многіх традыцыйных настоек. Менавіта праз гэта, дарэчы, у сучаснай прамысловасці яны і не прыжыліся. ◆

Больш пра палын і іншыя беларускія расліны можна даведацца ў Фэйсбук-суполцы **«Сімвалічны свет беларускіх раслінаў»**, якую адмініструе аўтар гэтага артыкула.

**Канчэўскі, І. Адвечным шляхам: эсэ, вершы.** — Мінск: Зміцер Колас, 2021. — 88 с.




Серыю Gradus пачынае публікацыя філасофскага даробку Ігната Канчэўскага (1896–1923), прымеркаваная да 100-годдзя першага выдання эсэ «Ад вечным шляхам». Таксама пад адной вокладкай сабраныя 11 вершаў Канчэўскага, вядомыя да гэтага часу. Тэксты друкуюцца паводле першых выданняў і рукапісаў з захаваннем аўтарскага правапісу.

У эсэ «Адвечным шляхам» Ігнат Канчэўскі сфармуляваў тры тэзы нацыянальнай ідэі беларусаў, якія актуалізаваліся ў наш час. Гэта быццё паміж, няспынная творчасць і кааперацыя.

## Ягайла, які хацеў пабачыць мора

Расійскі даследчык Вялікага Княства Літоўскага **Сяргей Палехаў**, аўтар нашага часопіса, напісаў у сябе ў Фэйсбуку: «Не выходзіць з галавы вядомае месца з ліста Вітаўта ад 26 кастрычніка 1427 года, што Ягайла едзе паглядзець мора, бо ніколі яго не бачыў да гэтай пары: “Таксама ведайце, што пан кароль заўтра выедзе адсюль, і спусціцца па рацэ да Юрбарка, і далей [паедзе] праз Жамойць пасуху да Палангі, і хоча там паглядзець на мора, бо ён раней не бачыў мораў; а мы, калі Госпаду будзе пажадана, да аўторка скіруемся адсюль у Трокі”».

Цымус у тым, што Ягайлу да таго часу ўжо было пад 80 гадоў і прайшло 45 гадоў з таго часу, як ён стаў вялікім князем літоўскім, і 41 — як заступіў на польскі трон. І ўвесь гэты час пра мора, якое месцілася геаграфічна не надта далёка, ведаў толькі з расповедаў іншых.

Зрэшты, калі разабрацца, нічога асабліва дзіўнага ў гэтым няма. Бо ўсё балтыйскае ўзбярэжжа сучасных Літвы і Польшчы ў тыя часы займаў Тэўтонскі ордэн, з якім Польшча і ВКЛ варагавалі і вялі пастаянныя войны. А ні Польшча, ні Літва самі непасрэднага выхаду да Балтыйскага мора не мелі аж да 1422 года, калі па ўмовах Мельнскага міру да Вялікага Княства Літоўскага адышоў невялікі кавалак марскога ўзбярэжжа шырынёй прыкладна ў 15 кіламетраў




ГІСТАРЫЧНЫ АТЛАС БЕЛАРУСІ

з паселішчам Паланга (цяперашні вядомы літоўскі курорт). Туды Ягайла і накіраваўся, каб пад канец жыцця пабачыць мора. На жаль, пра тое, якімі былі ягоныя ўражанні, запісаць для нашчадкаў ніхто не парупіўся.

## «Яе апазналі толькі па хлопчыку»

«У майго дзеда па кудзелі Івана Высоцкага была старэйшая сястра Гелена, — піша ў сябе ў Фэйсбуку настаўніца Ліцэя Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта **Марына Казлоўская**. — Акурат да вайны яна паспела выйсці замуж, у вайну ўжо нарадзіла сына Васіля.

Якое там было жыццё: з лесу ў лес. Немцы ідуць — у лес. Немцы сышлі — дамоў.

Аднойчы ў лесе дзіця заплакала, ніяк не магло супакоіцца, дык іншыя папрасілі яе сысці. Яна вярнулася ў сваё Крушынне, каб згарэць там разам са сваім Васільком і іншымі людзьмі, якія не паспелі ўцячы. Яе апазналі толькі па хлопчыку, якога яна затуляла сабой.

Кожны раз 9 мая я ўзгадваю пра іх. І не разумею людзей, якія хочуць усё гэта паўтарыць.

Жыццё ў Крушынні спынілася. Пра чалавека там нагадвае толькі дарога і ліпавыя прысады».

## «І мяса ў сусле з хатняга перагоннага апарата». Сакрэтныя абеды прэзідэнта Мітэрана

«14 гадоў кожную сераду ў маленькай, з нізкай столлю двухпакаёвай кватэрцы Мішэля Шараса ўнутры Елісейскага палаца прэзідэнт Мітэран абедаў з вузкім колам міністраў і дарадцаў. Там дзяліліся сакрэтамі — і за 14 гадоў ніводзін сакрэт не выцек. Там



WIKIMEDIA COMMONS

рашаліся лёсы», — піша французскае выданне **«Монд»** у артыкуле, які раскрывае кулісы палітыкі ў краіне, дзе яда стала культам і мастацтвам.

«Абеды ў Шараса сталі сапраўдным рытуалам эпохі Мітэрана. Шарас прывозіў са сваёй роднай Аверні пальцам пханыя кілбасы, фаршыраваную капусту, мяса, тушанае ў сусле з хатняга перагоннага апарата. Віно было заўсёды выдатным».

Франсуа Мітэран заставаўся вялікім гурманам да смерці, і нават апошні скандал у ягоным жыцці быў з гэтым звязаны. Журналісты разнюхалі, што на апошнім яго сямейным абедзе, ужо калі ён паміраў ад раку прастаты, падавалі садовых стрынатак — птушачак памерам з сінічку, занесеных у Чырвоную кнігу.

## «Ярадскі замак» і «Пячкоўскі Гарадок»

«Цікавы гэты “замак” у Гарадку Маладзечанскага раёна. Нібы звычайнае гарадзішча, якіх у Беларусі сотні. Але яно вельмі добра ілюструе рост амбіцый магнатаў Вялікага Княства Літоўскага, — разважае ў Фэйсбуку гісторык **Мікола Волкаў**, гледзячы на здымак, зроблены з дрона фатографам **Сяргеем**

**Плыткевічам**. — Вядома, што тут існавала ўмацаванае паселішча жалезнага веку.

Але ў першай пісьмовай згадцы (1495 год) мы чытаем пра "Пячкоўскі дварэц", таму ўмацавання тады тут не было. Ужо ў 1593 годзе маецца апісанне "Ярадскага замка", а на радзівілаўскай карце пачатку XVII стагоддзя фігуруе назва "Пячкоўскі Гарадок". Такім чынам, назва "Пячкоўскі" была натуральнай, мясцовай, а Ярад — нешта штучнае, што неўзабаве забылася.

На час будаўніцтва замка ўскосна ўказвае заснаванне тут мястэчка, што адбылося ў 1530 годзе пры Яне II Радзівіле. І выглядае, што менавіта ён і прыдумаў назву, зрабіўшы гэты замак сваёй галоўнай рэзідэнцыяй: ЯРад — Ян Радзівіл (*JaRad — Jan Radziwiłł*).

Але наступныя ўласнікі рэзідэнцыі былі не ў захапленні ад яе. А, напрыклад, брат Яна II — Мікалай Радзівіл Чорны — у сярэдзіне XVI стагоддзя пабудаваў сабе новы драўляны замак у Нясвіжы, меў шыкоўныя рэзідэнцыі ў Вільні і Берасці. А пляменнік Яна II — Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка — у 1570-я гады перабудаваў у рэнесансным стылі Мірскі замак, а ў 1580-я пачаў будаўніцтва бастыённага замка з шыкоўным палацам у Нясвіжы. Такім чынам, за два пакаленні (40–50 гадоў) вобраз галоўнай рэзідэнцыі Радзівілаў змяніўся да непазнавальнасці. У гэтым можна пераканацца на свае вочы, з'ездзіўшы спачатку у Гарадок, а пасля ў Нясвіж.

Ну і яшчэ такая ўніверсальная мараль: пераемнасць між бацькамі і дзецьмі — рэч вельмі ўмоўная, і новаму пакаленню трэба даць магчымасць напоўніцу праявіць сябе, у тым ліку ў забеспячэнні сваіх жыллёвых патрэб».



PLANETABELARUS.BY, ФОТА СЯРГЕЯ ПЛЫТКЕВІЧА

## Канстанцін Ракасоўскі нарадзіўся ў Целяханах?

Колькі беларусаў ці ўраджэнцаў Беларусі мелі найвышэйшае вайсковае званне СССР Маршал Савецкага Саюза? Дагэтуль упэўнена казалі, што такіх было толькі двое: ураджэнец вёскі Козлікі на Беласточчыне Васіль Сакалоўскі і ўраджэнец вёскі Зайцава Горацкага раёна на Магілёўшчыне Іван Якубоўскі (гл. пра яго артыкул Віталя Чырвінскага «Базыль Маргелаў і Янка Якубоўскі: хто і што пісаў у беларускамоўную "Чырвонаармейскую праўду"» ў № 3/2018 «Нашай гісторыі»).

Але днямі была зроблена новая архіўная знаходка. У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ўраджэнец вёскі Соміна Івацэвіцкага



WIKIMEDIA COMMONS

раёна Уладзімір Абрамчук, шукаючы звесткі для ўласнага радаводу, знайшоў запіс у метрычнай кнізе целяханскай Свята-Троіцкай царквы пра хрышчэнне ў ёй сына Ксаверыя Ракасоўскага і яго жонкі Антаніны, якога назвалі Канстанцінам (у савецкіх дакументах Канстанцін Ракасоўскі пісаўся Канстанцінавічам, але насамрэч быў Ксавер'евічам), а маці палкаводца паходзіла з Целяхан.

Бянтэжыць, аднак, дата нараджэння ахрышчанага ў Целяханах немаўляці — 3 (15) верасня 1889 года. І гэта ў той час, калі «кананічная» дата, зафіксаваная ва ўсіх энцыклапедыях і даведніках, — 9 (21) снежня 1896 года. Часам, праўда, сустракалася і іншая, на два гады ранейшая, — 9 (21) снежня 1894 года. Але новаадшуканая ранейшая на 5 ці 7 гадоў, ды яшчэ і дзень ды месяц нараджэння зусім іншыя.

Такая вялікая розніца паміж датамі змушае многіх мець сумневы ў тым, што, нягледзячы на супадзенне ў метрычнай кнізе ўсіх імёнаў, гаворка тут ідзе менавіта пра будучага маршала. Выказваецца здагадка, што на самай справе ў Целяханах мог нарадзіцца і быць ахрышчаным ягоны старэйшы брат, які памёр малым, а сына, які нарадзіўся пазней, назвалі тым жа іменем. Раней такая практыка была даволі распаўсюджаная. ◆





































**Пачынаючы з сакавіка 2021-га мы два дні на месяц прадаём часопіс у Рэдакцыі (Мінск, Энгельса 34а). Сачыце за графікам продажаў на nn.by і ў тэлеграме @nashaniva**

Па тэхнічных прычынах у Рэдакцыі часопіс прадаём толькі два дні на месяц, астатнія дні гэта не робіцца.

Шукайце часопіс таксама ў кнігарнях, гіпермаркетах, а таксама ў шапіках «Белдрука» Магілёўскай вобласці. Вось спіс кнігарань:

**Мінск**

Гандлёвы цэнтр «Купалаўскі» (пад Кастрычніцкай плошчай), крамы 41–42 і 44–45

«Галіяфы» (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе)

«Рагна» (вул. Сухая, 4, метро «Фрунзенская»)

«Кніжная шафа» (пр. Дзяржынскага, 9)

**Поштай ці з дастаўкай на дом** вы можаце яго замовіць праз knihi.by, kniganosha.by, mmkut.by, halijafy.by, kniger.by

**Гродна**

«Цудоўня» (вул. Кірава, 3).

**Віцебск**

«Светач» (вул. Кірава, 10)

**Бабруйск**

«Крыніца ведаў» (вул. Горкага, 31)

Акрамя таго, праз сайт **ARCHE.BY** часопіс можна купіць у ПДФ, у электроннай версіі.